НАША НІВА

*Беларуская газэта* *№8-9, 1994*

**СЬПІСЫ** СУСЬВЕТНАЙ СПАДЧЫНЫ. Тэма гэтага нумару. Што зь беларускіх помнікаў варта ўлучыць у Сьпісы UNESCO? На гэтае пытаньне адказваюць у сваіх артыкулах Вадзім Гліньнік, Уладзімер Дзянісаў, Валянцін Калнін, Антон Сіюль, Сяргей Тарасаў, Ігар Чарняўскі. Упершыню ў Беларусі друкуецца Вэнэцыянская Хартыя ў справе рэстаўрацыі й кансэрвацыі помнікаў і гістарычных мясьцін. Мапа Беларускае Спадчыны.



**ГЕНРЫ КІСЫНДЖЭР**, які толькі што выпусьціў сваю новую кнігу «Дыпляматыя», лічыць, што развал Рэчы Паспалітай быў трагічным пэрыядам ня толькі для яе народаў, але й для Расеі, якую ўжо не спыняла нічога...

**НЯМЕЦКАЕ АПАВЯДАНЬНЕ** Ганса Брэндэра «У гандоле». Вэнэцыя, Канал Грандэ, палацы...






**ВІЛЕНСКІ КЛЮБ** прадстаўляе кнігу літоўскай дасьледчыцы Рэгіны Жэпкайтэ «Фрагмэнт гісторыі Вільні 1939-1940». Гэта — малавядомы ў Беларусі эпізод, калі Савецкі Саюз перадаў Вільню Літоўскай Рэспубліцы. Што адбывалася ў горадзе на працягу першага году пасьля гэтага?



**АДАМ ГЛЁБУС.** Зусім кароткі раман пра першае расчараваньне «Мой дарагі Адам» (Увага, гэты твор нельга чытаць разам зь дзецьмі!), а таксама падарожныя нататкі пра тры барсэлёнскія музэі: Пікаса, Гаўдзі й Міро.



**АЙСМАН** (лёдавы чалавек) — так назвалі цела чалавека, якое было знойдзена на засьнежаным перавале ў Альпах. Айсман загінуў больш за 5000 гадоў таму назад. Гэтая публікацыя — першая спроба пазнаёміць беларускага чытача з гісторыяй адкрыцьця й некаторымі вынікамі дасьледаваньня Айсмана ў эўрапейскіх лябараторыях.

# Крыштафовіч

Сяргей Мацёры

Шарай гадзінаю Крыштафовіч выходзіць зь вёскі, каб распаліць ля чыгуначных тораў вялізнае вогнішча. Ён глядзіць, як полымя ўзносіць да неба белы дым, высокія зоркі і «агні партавыя Лібавы»... Міма цугам лятуць цягнікі, і ў запаленых вокнах журботныя дамы пазіраюць Крыштафовічу ў вочы, шукаючы там водсьвет свайго страчанага жаданьня.

— Гэй, Крыштафовіч, нашто паліш ты вогнішча каля чыгункі?

— Глядзець на цягнікі і глядзець на вагонь — адно тое самае. Ісьці побач з чыгункай — пачувацца самім сабою. Твае крокі — твой рух. А калі ты сеў у цягнік, паімчаў у далёкі горад, гэта будзе ня твой рух, бо ты сядзіш і застаесься на месцы. Толькі час няспынна ідзе... У цягніках згараюць чалавечыя жыцьці.



# Дзёньнік прыватнага чалавека



* * *

Камісія па правапісу надрукавала свае панылыя «Высновы» пра тое, што нічога ў беларускай мове зьмяняць ня трэба. Аргумэнтацыя лянівая — матэрыяльныя выдаткі, людзі не зразумеюць, зьмены толькі аслабяць і без таго слабыя пазыцыі... І такое ж лянівае выказваецца пажаданьне — шырыць сфэру грамадзкага ўжываньня беларускай мовы.

Асабіста мне хапае толькі аднаго аргументу — у сем'ях найбольш ярых наркомаўцаў ніколі не гавораць па-беларуску. Вось вам і ўсё пашырэньне.

Зрэшты, можна й дадаць. Ніводнае тарашкевічнае выданьне ня ёсьць органам афіцыёзу, не інсьпіраванае й не фінансаванае ім. Ніводзін энтузіястычны асяродак беларушчыны (найперш моладзь) не паслугоўваецца наркомаўкай. Давайце, таварышы, параўнаем, колькі чалавек за апошнія гады загаварыла па-беларуску праз наркомаўку і колькі праз тарашкевіцу. Рэдакцыя «НН» гатовая даць зьвесткі пра апошніх. Урэшце мы можам і прыйсьці ўсе асабіста. Прызначце толькі месца й час. Але не спасылайцеся больш на вашых цынічных настаўніц, якія забываюць пра мову за дзьвярыма клясы й на карэктараў, якія ўсчынаюць гвалт, бо «поздно, знаете ли, переучиваться».

* * *

Праблема правапісу сёньня — рэальная магчымасьць для нацыянальнае згоды. Учора адраджэнцаў падзяляў канфармізм, заўтра яны будуць падзеленыя сацыяльна. Па вялікім рахунку яны яшчэ ніколі не былі разам. Яны ўсё больш па-рознаму глядзяць на незалежнасьць, у кожнага як бы свая беларушчына. Гэта натуральна, калі ёсьць адзіная мова. Таму сёньня праблема зусім ня ў правапісе, а ў прадмеце яднаньня тых, каму ўсё гэта хоць крыху патрэбнае. Не наркомаўка ці тарашкевіца самамэты. Кожны, хто валодае другой, валодае й першай (праўда, ня скажаш — і наадварот). Мы ўсе будзем пісаць наркомаўкай, калі яна стане плёнам згоды прадстаўнікоў афіцыёзу, незалежных структураў і эміграцыі. На жаль, панылыя «Высновы» адмаўляюць такую згоду.

* * *

Наркомаўка ніколі ня стане стымулам пашырэньня мовы. Бо яна й была задуманая як форма рэзэрвацыі мовы ад жывога жыцьця. Менавіта яна стала падставаю для пашыраных уяўленьняў пра грубасьць, непрыдатнасьць беларушчыны як «исковерканного русского языка». Наіўна думаць, што з наданьнем беларушчыне статусу дзяржаўнае мовы гэтыя ўяўленьні зьніклі або істотна зьменшыліся. Наіўна думаць, што эміграцыя й незалежныя структуры на Беларусі не прызнаюць яе адно з-за свае тупое ўпартасьці. Для нас наркомаўка ня ёсьць звычкай — другой натурай або рэліквіяй дарагіх савецкіх традыцый. Мы ўспрынялі беларускае слова менавіта ў яго несавецкім варыянце й не адмовіліся ад яго ані за Машэравым, ані за Сакаловым. Не адмовімся й за Лукашэнкам.

Па-канфармісцку настроеная беларуская інтэлігенцыя імкнецца зноў пагадзіць мову зь «існуючым станам рэчаў», г.зн. з капрызамі ўлады. У 1933-м вынікам такой згоды была ганебная рэформа. Сёньня — «Высновы». Заўтра прыйдзе да ўлады Пазьняк і якая-небудзь новая камісія прапануе ўсім рашуча пісаць тарашкевіцай. Ці варта рабіць з мовы прадмет уласнага канфармізму? Ня варта пагаджаць мову з кімсьці або чымсьці. Варта пагадзіцца ў ёй.

# Сьвята, якое будзе з намі

Сяргей Шыдлоўскі

«Яму званы да завутрані ў Сафіі Полацкай пазвоняць, а ён той звон у Кіеве чуе», — Полацак суворы і ўладарны бацька. Нават паслабляючы абдымкі й выпускаючы свайго сына ў сьвет, ён рупіцца, каб той не забываў Сафеі стромкія вежы і шэпт дзьвінскай вады. Менск, Вільня, Прага, Кракаў, Парыж — не пазбавяць ад нябачных ягоных ланцугоў.

«Тако і людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, — да таго месца вялікую ласку імаюць» — у гэтых словах прызнаньне ў любові й адначасова ўздых асуджанасьці — на лёс палачаніна.

**Няздольныя зрабіцца ўдзельнікамі чужога сьвята, чужога бляску, няздольныя выйсьці з духовых межаў Полацку, палачане вымушаныя пашыраць гэтыя межы на цэлы сьвет — куды б яны ні трапілі. Палачане народжаныя для чыну ваярнага, Полацку наканаваны лёс сталіцы.**

Колісь Полацак быў пазбаўлены (ці пазбавіўся?) спачатку самой улады, а потым і ўвагі ўладных. Але не чынавенства робіць сталіцу сталіцай, — гэта месца, куды мкнуць маладыя й імпэтныя. Іх увагі Полацак ня быў пазбаўлены ніколі. Таму я кажу — Полацак жыве.

* * *

**Кожны палачанін — спадчыньнік велічнага полацкага пасаду — стальца Ўсяслава, духу Еўфрасіньні, чыну Скарыны. У сэрцах палачанаў жыве ўпэўненасьць — яны будуць абраныя ці будуць абіраць. Ва ўсякім выпадку палачане будуць браць удзел у велічнай дзеі, назоў якое — беларуская гісторыя.**

Полацак нельга адасобіць ад Беларусі, бо Беларусь — пасаг Полацка. І ён ніколі не адмовіцца ад свайго пачэснага наканаваньня ў абмен на аблудныя вабноты йснаваньня ў дрыгве чужой правінцыйнай гісторыі.

* * *

Полацак ня можа быць ані кампрамісам, ані этнічным усебеларускім катлом. Полацак тут не канкурэнт Менску.

У яго ёсьць свая роля арганізатара нацыянальна-краёвага жыцьця беларускага Падзьвіньня. Дзеля гэтага ён мусіць спрыяць уваходжаньню мясцовага сьветагляду ў агульнабеларускі кантэкст.

Полацак быў, ёсьць і будзе невычэрпнай крыніцай натхненьня й асьвяжэньня беларускай думкі.

**Разьвіцьцё краёвых «сталіц» дазволіць пазьбегнуць стагнацыі ў нашай культуры ад прывязанасьці беларускага сьвядомага жыцьця да менскіх асяродкаў. Беларускі элітарны нацыяналізм мусіць быць трансфармаваны ў паспаліты патрыятызм — «Беларусь там, дзе я нарадзіўся».**

* * *

Менск — гэта горад, Полацак — месца. Месца, дзе ты нарадзіўся, дзе нарадзіўся Скарына, месца, дзе народзіцца твой сын. Не хацелася б, каб Полацак зрабіўся горадам — чужым для сваіх і сваім для чужых.

**Наваполацак задумваўся менавіта горадам, што ў пэрспэктыве мусіў паглынуць Полацак. Але стотысячны Наваполацак — кампактна й шчыльна збудаваны (нездарма кажуць, што Наваполацак — гэта адна вуліца) на месцы старажытных вёсак: Плаксы, Падкасьцельцы, Васілеўцы, — на спаконвечным беразе Дзьвіны, можа, зачараваны шэптам дзьвінскай вады ці гонкасьцю Сафеі, — ня стаў антыподам Полацку.**

Полацак жа — атачаны новымі жалезабэтоннымі мікрараёнамі, Полацак — патанаючы ў зеляніне садоў і гародчыкаў, такі безаблічны ў першай і такі правінцыйны ў другой сваёй іпастасі, застаўся ўсё ж тым старажытным месцам — месцам, дзе нарадзіўся Скарына, дзе нарадзіўся ты, дзе народзіцца твой сын.

# Што пішуць?



## ПРА БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНУ

*Уладзімер П. Люкевіч зь Берасьця*

Берасьцейшчына ляжыць на магістральным шляху з Эўропы ў Азію і ў розныя гады ставала месцам значных палітычных і гістарычных падзеяў: сустрэчы перад Грунвальдам князя Вітаўта й караля Ягайлы ў 1410 годзе, берасьцейскай вуніі ў 1596 годзе, Берасьцейскага міру ў 1918 годзе, «Белавескага пагадненьня» ў 1991-м... Сёньня Берасьцейшчына й яе галоўны горад могуць і павінны мець больш значны ўплыў на палітычнае, эканамічнае й культурнае жыцьцё ня толькі Беларусі, але й Эўропы.

Пра гэта казалі 27-29 ліпеня ў Берасьці на Міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі, якая мела непасрэднае дачыненьне да Першага фэсту Берасьцейцаў усяго сьвету, што быў наладжаны на 975-ыя ўгодкі з дня заснаваньня гораду, а таксама да 50-годзьдзя вызваленьня ад фашыстоўскіх захопнікаў. На канфэрэнцыю пад назовам «Гісторыя й сучаснасьць Берасьцейшчыны», былі запрошаныя больш за 80 навукоўцаў з Польшчы, Літвы, Расеі, Нямеччыны, Францыі, ЗША. Ня ўсе здолелі прыехаць (напрыклад, М.Белямук з ЗША і Ю.Туронак з Польшчы). Але тым ня менш з дакладамі выступілі спсп. Г.Праневіч, С.Палуцкая, І.Акіншчыц (Беларусь), В.Мельяновіч (ЗША), В.Грыцкевіч (Расея), А.Глагоўская, А.Пшэвозьнік (Польшча), М.Мантвілаў (Францыя) ды іншыя. Дзьве сэкцыі, што працавалі ў гэтыя дні, разгледзелі пытаньні гісторыі й сучаснасьці рэгіёну.

Калі каротка падсумаваць асноўныя вынікі, то трэба адзначыць плённую й напружаную працу навукоўцаў, нягледзячы на 30-градусную сьпякоту. Ёсьць надзея, што матэрыялы канфэрэнцыі ўбачаць сьвет у выглядзе зборніка, на які пагадзіўся даць грошы фонд Сораса-Беларусь. Сярод прапановаў канфэрэнцыі ёсьць наступныя: стварыць рэгіянальную Берасьцейска-Гарадзенскую (Заходне-беларускую) краязнаўчую асацыяцыю і Берасьцейскі рэгіянальны гуманітарна-адукацыйны цэнтар; ушанаваць памяць ахвяраў фашызму й сталінізму ў 1939-44 гг. і паставіць помнік з надпісамі на беларускай, польскай, жыдоўскай і расейскай мовах, а таксама памятным знакам нагадаць пра абарону крэпасьці ў Берасьці Польскім войскам у 1939 годзе.

Паводле папярэдняй інфармацыі наступная падобная канфэрэнцыя мае адбыцца ў Берасьці ў 1996 годзе, калі будуць адзначацца 400 ўгодкі Берасьцейскай вуніі.

## ПРА ЗЬЯДНАНЬНЕ БЕЛАРУСІ

*Пётар Новік зь Вільні*

Дзень 17 верасьня 1939 г. стаіць у маёй памяці як дзень зьяднаньня беларусаў у вялікую сям'ю. Вестка пра падыход Чырвонай Арміі хутка дасягнула нашых Карэлічаў. Я, разам з усёй сям'ёй, быў дома. Бацька мой працаваў шаўцом, а маці гадавала нас — дзяцей і даглядала гаспадарку — карову, сьвіней, куры. Пасьля пачатку вайны немцы гналі польскую армію да ўсходніх межаў, палякі рухаліся на раварах, пешшу і абозам. Сярод адступантаў было шмат жыдоў, прытым інтэлігенцыя... Я, шаснаццацігадовы юнак, памчаўся насустрач Чырвонай Арміі. Сустрэў яе над ракой Сэрвач. Салдаты ішлі пешшу, запыленыя, брудныя, усе ў поце. Гарматы на калёсах цягнулі трактары, вярблюды і коні, паліла сонца...

Паны і паліцэйскія прыхаваліся ў сваіх кватэрах, іх па адным выцягваюць з памяшканьняў і пастарункаў. Выцягваюць войта гміны Карэлічы пана Сухажэўскага, вядуць пана войта ў гміну, дзе ён раней працаваў, зачыняюць у КПЗ. Далейшы лёс затрыманых мне невядомы. Адгукаліся пазьней з Краснаярскага краю...

Усё адбылося мірна, пачалі прыгортваць панскую зямлю, а пазьней у вёсцы Палужжа арганізавалі калхоз, а ў Карэлічах саўгас з рыбнаю гаспадаркай.

## ПРА МАДЭРН

*Андрэй Протас з Гомля*

Час ад часу ў «Нашай Ніве» выказваюцца сымпатыі да мадэрну. Ці то гэта даніна пераемнасьці ад той, колішняй «Нашай Нівы», ці то даніна модзе, ці то сьветапоглядны арыенцір рэдакцыі. Асабіста я таксама захапляўся мадэрнам, і гэта было юначае захапленьне. Але з часам я пачаў задумвацца пра сутнасьць гэтае зьявы, і маё захапленьне зьмянілася на гідлівасьць.

Магчыма, Вы заўважылі, што самая ўлюбёная тэма біёграфаў Багдановіча — гэта ягоныя адносіны да жанчын і ягоная прыгожая сьмерць у белым доме ля сіняй бухты. Сьпелыя крывавыя суніцы, якія ён еў перад сьмерцю, і ўдушлівыя крывавыя сухоты, якія зьядалі яго самога. Гэта мадэрн. Прыгажосьць ненатуральнае сьмерці, хваробы, чалавечага страху, трапяткога каханьня двух няголеных мужчын, юначая пажадлівасьць да кабеты, якая памірае ад родаў... Прыгадайце, хто ў колішняй «Нашай Ніве» гідзіўся вершамі Багдановіча, і Вы зразумееце, чаму бацька паэта не паехаў глядзець на ягоную сьмерць.

Максім — гэта і ёсьць мадэрн, прычым расейскі мадэрн пачатку XX стагодзьдзя. Прыгожае і агіднае, каханьне і сьмерць у ім пераплятаюцца, зьліваюцца ў адно, і іх ужо нельга адрозьніць. Гэта своеасаблівы эстэтычны вірус. У сьмерці для мадэрну няма драмы, няма ані каліва Шэкспіра, бо ўсё забівае сабой нейкая жывёльная асалода. Хвараблівы, фізычна кволы і пазбаўлены досьведу каханьня юнак пачынае гэтыя свае заганы разьвіваць у вартасьці. Ён піша прыгожыя, дасканалыя вершы, хворыя на эстэтычную дыстрафію.

Халодныя кветкі мадэрну падобныя да склізкіх зьмеяў, а зьмеі — да кветак. І ўсё гэта блытаецца ў самым сэрцы. Колькі вытанчанае красы ў тэрмітніку, у зблякдым целе сухотнай жанчыны, у складках-пролежнях паралізаванага дзіцяці... Увайшоўшы ў вобраз, Максім нібы ўрос у яго, і гэтак завершыў свой твор, якім стала ягонае ўласнае жыцьцё.

Адзін знаёмы гомельскі фанат мадэрну прызнаваўся мне: «Ведаеце, Серж, што я рабіў, калі даведаўся, што мой лепшы прыяцель выкінуўся з вакна на дзявятым паверсе? Ад роспачы і жалобы я пайшоў у парк і там мастурбаваў, стоячы ў вялізным бэзавым кусьце. Вы толькі ўявіце сабе, як пахнуў бэз! Ён пахнуў тленам...»

# Генры Кісынджэр: Беларусь у кантэксьце

**Гэтую гутарку з Г.Кісынджэрам, якую Радак Сікорскі правёў у Нью-Ёрку 26 ліпеня, мы перадрукоўваем са скаротамі з газэты «Tydzień Polski» (Лёндан, 24 верасьня).**



*— У сваёй новай кнізе пад назвай* Дыпляматыя *Вы пішаце, што каб захаваць мір, ня трэба імкнуцца да яго любымі сродкамі — бо гэта прыводзіць адно да палітыкі аблашчваньня найбольш агрэсыўных дзяржаваў. Замест таго, каб імкнуцца да міру дзеля міру, трэба, на Вашу думку, сіле проціставіць сілу — так, каб дасягнуць стану раўнавагі. За ўзорны пэрыяд, у якім палітыка раўнавагі забясьпечвала мір, Вы ўважаеце пяцідзесяцігодзьдзе пасьля Венскага кангрэсу, калі Мэтэрніх кіраваў замежнай палітыкай Аўстрыі. Між тым, для народаў Рэчы Паспалітай гэта быў час падзелаў і прыгнёту, а ня міру. Бачнасьць міру грунтавалася на тым, што захопнікам патрэбны быў час дзеля працягу анэксіі. Ці тагачасная раўнавага сіл не была парушаная ўжо раней, праз зьнішчэньне Рэчы Паспалітай, якая была процівагай як для Нямеччыны, так і для Расеі?*

— У маёй кнізе я не займаўся гэтай канкрэтнай сытуацыяй. Я разглядаў палітычныя суб'екты такімі, якімі яны тады склаліся. Відавочна, з пункту гледжаньня Польшчы тое паўвечча не зьяўляецца пэрыядам росквіту. Можна спрачацца, ці распад Рэчы Паспалітай стаў прычынай разбурэньня бар'ераў на шляху экспансіянізму ў Эўропе. Я схіляюся да погляду, што з гістарычнага пункту гледжаньня гэта быў пэрыяд трагічны таксама й для Расеі. Расея разгарнула пасьля гэтага экспансіянізм бязь межаў, бо ўрэшце, калі заваявала Польшчу, нішто не магло яе стрымаць ад заваяваньня іншых дзяржаваў. Зьявілася патрэба заваяваньня іншых дзяржаваў.

*— Вы пішаце, што Ялта таксама была памылкай, бо падзяліла сьвет на два блёкі й прывяла да сарака гадоў канфрантацыі й гонкі ўзбраеньняў. Ці ў гэтым сэнсе Ялта не даказала канчаткова, што незалежнасьць дзяржаваў Сярэдняй Эўропы ёсьць неабходнай умовай стабільнасьці ў Эўропе, як процівага для Нямеччыны й Расеі?*

— Я лічу, і казаў гэта шмат разоў, што ключ для міру ў Эўропе — у захаваньні Расеяй яе актуальных межаў. Пакуль Расея застаецца ў рамках сваіх межаў, датуль незалежныя Польшча, Украіна й балтыйскія дзяржавы. У такой сытуацыі Расея можа праводзіць нармальную замежную палітыку status quo. Польшча можа існаваць бяз націску звонку, а мапа Эўропы з канца XVIII ст. — перакрэсьленая. З другога боку, я прыхільнік добрых адносінаў з Расеяй, але ад Расеі хачу таго, чаго яна не зрабіла за чатырыста гадоў: пакінуць суседнія дзяржавы ў спакоі. Вось чаму я крытыкаваў ідэю «Партнёрства дзеля Міру».

*— Я вярнуся да гэтага пытаньня крыху пазьней, а цяпер хацеў бы спытаць: як я разумею, адна з фундамэнтальных падставаў Вашай дактрыны — тое, што міждзяржаўныя адносіны павінны быць забясьпечаныя акрэсьленым паняцьцем праўнасьці...*

— Напэўна міждзяржаўныя суадносіны можна было б абаперці выключна на падставе раўнавагі сіл — гэта цалкам магчыма. Аднак мутацыі ўсемагчымых плыняў такія складаныя, а спакуса ўжыць сілу такая вялікая, што раней ці пазьней такая сыстэма падлягае распаду, як гэта адбылося перад першай сусьветнай вайной. Таму ідэальным вырашэньнем мне ўяўляецца мэтад ўраўнаважаньня сілаў разам з удзелам у сыстэме супольных вартасьцяў. А як гэтага дасягнуць — гэта мастацтва кіраваньня.

*— Вы заўсёды падкрэсьлівалі, што праўныя суб'екты міжнародных адносін не павінны ўмешвацца ва ўнутраныя справы адзін аднога. Ці лічылі Вы Савецкі Саюз прававой дзяржавай?*

— Ідэалягічна я заўзяты вораг камунізму і змагаўся зь ім пры кожнай нагодзе. Я быў зацятым праціўнікам удзелу камуністаў у італійскім урадзе і паўсюль, куды дасягалі мае ўплывы. Ці лічыў я Савецкі Саюз прававой дзяржавай? Пры ўмове, што Савецкі Саюз устрымаўся б ад экспансіянізму, я гатовы быў прызнаць яго за традыцыйную дзяржаву. Зразумела, можна палемізаваць, ці мог Савецкі Саюз, як дзяржава камуністычная, праводзіць неэкспансіянісцкую палітыку — гэта дыскусійнае пытаньне. Я абраў тактыку стрымваньня Савецкага Саюзу шляхам пагадненьня, бо зразумеў, што ў далейшай пэрспэктыве, калі там стане менш бліскучых перамог, канкурэнтная пазыцыя Савецкага Саюзу мусіць зьменшыцца.

*— Як, на Вашу думку, гісторыя ацэніць уклад у заняпад камунізму Вашай палітыкі ў параўнаньні зь ідэалягічным крыжовым паходам прэзыдэнта Рэйгана?*

— У сваёй кнізе я падкрэсьліў вялікія заслугі Рэйгана. Але калі б Рэйганаўскі крыжовы паход быў прадпрыняты на дзесяць гадоў раней, гэта прывяло б да ідэалягічнага развалу Злучаных Штатаў. Я мяркую, што Рэйган грунтаваўся на дасягненьнях урадаў Ніксана й Форда, і заслугі трэба разьмеркаваць раўнамерна. Паўтараю, на дзесяць гадоў раней Рэйган прывёў бы да распаду Злучаных Штатаў. На дзесяць гадоў пазьней ён быў бы анахранізмам. Ён зьявіўся ў ідэальны момант, калі сам Савецкі Саюз пачаў усьведамляць уласныя слабасьці.

*— У кнізе Вы сьцьвярджаеце, што галоўнай мэтай дыпляматыі ёсьць стабільнасьць. Як бы Вы вызначылі стабільнасьць — як прызнаньне status quo, як гэта зрабіў Джордж Буш, які ўвосені 1991 году выступіў у Кіеве за захаваньне Савецкага Саюзу й супраць незалежнасьці Ўкраіны...*

— Я публічна выступіў супраць гэтага.

*— Значыць, стабільнасьць — гэта ня тое самае, што status quo. Дык можа гэта сытуацыя, у якой памкненьні розных народаў больш менш спакойныя?*

— Не, не. Кожны, хто дасьведчаны ва Ўсходняй Эўропе, ведае, што відмо гарманічнага суіснаваньня гэтых дзяржаваў матэрыялізуецца разам з знаходкаю брамы раю. Вызначэньне стабільнасьці залежыць ад абставінаў. Калі Джордж Буш прамаўляў у Кіеве, я меркаваў, што Савецкі Саюз знаходзіцца ў пачатковай стадыі распаду. У гэтых умовах падтрымка незалежнасьці Ўкраіны была ў нашых інтарэсах. Пятнаццаць гадоў да таго пастуляваньне незалежнасьці Ўкраіны было б амаль адназначнае з абвяшчэньнем вайны. Я ня быў гатовы пачынаць вайну за незалежнасьць Украіны...

*— Што Вы думаеце пра нядаўняе выказваньне прэзыдэнта Клінтана, каб Нямеччына прыняла лідэрства ў аб'яднанай Эўропе?*

— Думаю, што гэта адна з найбольш няўдалых амэрыканскіх заяваў.

*— Чаму?*

— Таму што замежная палітыка — гэта не акцыянэрнае таварыства, у якім прыбытак прапарцыйны фінансаваму ўкладу. Адбыліся дзьве сусьветныя вайны за тое, каб пазьбегнуць лідэрства Нямеччыны ў Эўропе. Лідэрская роля немцаў выклікае супраціў за іх усходнімі й заходнімі межамі. Я вельмі паважаю канцлера Коля. Ён мой прыяцель ужо 30 гадоў. Асабіста я таксама заўсёды быў прыхільнікам сяброўскіх адносінаў зь немцамі. Аднак мяркую, што мы накладаем ім на плечы цяжар, які яны ня ў стане вынесьці. Акрамя гэтага сьцьверджаньне пра тое, што Нямеччына павінна стаць на чале Эўропы, правакуе нямецка-расейскія дэбаты на гэтую тэму — а гэта тое, чаго мы павінны пазьбягаць любой цаною. Хачу падкрэсьліць, што мне не бракуе даверу да нямецкіх кіраўнікоў. Мяркую, што яны добрыя эўрапейцы і ўзмацнілі Захад. Але я шкадую, што такое сьцьверджаньне прагучала з вуснаў амэрыканскага прэзыдэнта.

*— Ці варта нам спадзявацца на «Партнёрства дзеля Міру»?*

— Я пасьлядоўна выказваюся супраць «Партнёрства дзеля Міру». Калі з розных прычын, тактычных і фінансавых, мы не прынялі ў НАТО Польшчу, то «Партнёрства» павінна быць крокам да членства. Я ня меў бы нічога супраць гэтага, але пры ўмове, што да гэтага партнёрства не прылучыцца Расея. Мяркую, што інтарэс абароны вымагае адрозьненьня паміж пагрозай і ахвярай. Дык вось, сёньня я не надаю такога вялікага значэньня членству Польшчы ў НАТО, як удзелу Расеі ў «Партнёрстве дзеля Міру». Я за хутчэйшае далучэньне Польшчы да НАТО, бо няма патрэбы ствараць імглістыя мілітарныя пакты для аддаленьня няіснае пагрозы. «Партнёрства дзеля Міру» — гэта такі дакумэнт, у рамках якога кожны памяркоўны паляк будзе старацца ўцягнуць нас у нешта, што нагадвае НАТО, тады як кожны расеец — у нешта, што НАТО размывае. Цяпер, калі «Партнёрства дзеля Міру» стала фактам, трэба старацца як найхутчэй прыняць Польшчу ў самое НАТО, каб адрозьніць Польшчу й Расею. Нельга дапусьціць, каб Расея выкарыстоўвала «Партнёрства» для падкопваньня НАТО, у выніку чаго ня мела б значэньня, хто член НАТО, а хто не.

*— Захад стараецца ўплываць на посьпех рэформаў у Расеі і плаціць за гэта незалежнасьцю былых рэспублік. Ён перакананы, што расейскім рэфарматарам патрэбная ўнутраная нацыяналістычная падтрымка, таму яны мусяць праводзіць наступальную палітыку. Ці сапраўды паблажлівасьць Захаду адносна расейскай экспансіўнасьці спрыяе рэформам?*

— Я прыхільнік падтрымкі рэформаў у Расеі, а нават выдзяленьня Расеі пэўнай эканамічнай дапамогі. Але абсалютнай умовай гэтай дапамогі мусілі б быць доказы з боку Расеі таго, што яна лічыць сябе нармальнай дзяржавай, якая прызнае межы суседніх дзяржаваў. Гэтая ўмова ня выкананая дагэтуль. Лічу, што занадта дбаючы пра яе ўнутраную сытуацыю, мы заахвочваем Расею да агрэсіі.

*— Чаму, на Вашую думку, уступкі Захаду адносна Расеі заўсёды найбольшыя, калі Расея найслабейшая? У 1945 годзе Расея была зьнясіленая вайной, яе прамысловасьць у руінах, тады як Амэрыка мела манаполію на атамную бомбу. Аднак Захад аддаў Усходнюю Эўропу Сталіну. Сёньня зноў у Расеі пануе хаос, а Захад трыумфуе, і, нягледзячы на гэта, Захад зноў аддае...*

— Нагода заўсёды тая самая. Гэта досьвед, што Расея — важны, магчыма, незаменны элемэнт утрыманьня міру — і я з гэтым згодны. Але гэта ня тое самае, што сказаць: дзеля таго, каб Расея паводзіла сябе канструктыўна, мы не павінны адмаўляць ёй у яе прыхамацях. 1945 год быў безумоўна вялізнай памылкай. Ужо ў 1941 годзе, калі мы пачалі даваць Расеі падтрымку, мы мусілі ўзалежніць яе ад прызнаньня ёю незалежнасьці краінаў Усходняй Эўропы й прызнаньня эміграцыйных урадаў. У 1941 і 1942 годзе Расея на гэта згадзілася б, аднак Захад не хацеў падымаць ніякіх спрэчных пытаньняў. Падобна й сёньня, калі б мы тры гады таму, калі зьявіліся так званыя рэфарматары, рашуча сказалі, што Расея, якая будзе паводзіць сябе мірна, атрымае нашу падтрымку, а нэацарская Расея будзе нашым праціўнікам, то сёньня замежная палітыка Расеі была б значна больш памяркоўная. А так мы прывялі да сытуацыі, у якой Ельцын, каб утрымацца пры ўладзе, мусіць пераняць дзьве трэці праграмы ў сваёй нацыяналістычнай апазыцыі.

*— Ці можа палітыка раўнавагі сіл быць этычная?*

— Залежнасьць паміж этыкай і замежнай палітыкай у маім перакананьні наступная: усе сур'ёзныя рашэньні ў галіне замежнай палітыкі — гэта рашэньні комплексныя, а таму шматзначныя. А захоўваньне рыгарыстычных маральных падставаў прыводзіць да паралюша. З другога боку, калі палітык ня мае пэўных перакананьняў, гэтая шматзначнасьць невыносная. Тактыка палітыкі раўнавагі сіл можа такім чынам быць этычна нэўтральная, аднак падставы палітыкі дзяржаваў павінны быць маральныя. Праблема — як дасягнуць гэтай залатой сярэдзіны ў кожным канкрэтным выпадку. Мушу аднак паведаміць, што ўсе вялікія кіраўнікі, якіх я ведаў, альбо лёсы якіх вывучаў, характарызаваліся салідной сыстэмай маральных каштоўнасьцяў, нават тады, калі ўжывалі элястычную тактыку, а нават асабліва тады, калі ўжывалі элястычную тактыку.



* * *

Мы зь ірляндцам рудым,
нестарым, але добрым сябрам,
абыходзілі сёньня
абсягі адной краіны —
не малой, не вялікай,
наўрад ці каму патрэбнай,
тым прасьцей называцца
дачкою яе ці сынам.

Да мяжы, як штодзень,
нам ляжала жоўтае поле,
На памежных слупах
мы пабачылі злосных птахаў —
чорна-белыя, нібы сарокі,
але не сарокі,
тыя птахі прарочылі заўтра
вайну і голад.

Мы зь ірляндцам рудым,
нестарым, але верным сябрам,
абыходзіць ня будзем болей
абсяг краіны
немалой, невялікай,
наўрад ці каму патрэбнай,
а тым больш, што ні я, ні ён
ня ўмеем страляць.

BKZ



## НА «БІС»

Крыніца, № 1, ліпень 1994.

З чаго мог узьнікнуць гэты часопіс? Зь нерэалізаваных тэкстаў? Іх тут няма. Зь нерэалізаваных імёнаў? Іх няма таксама. Няма нявыказанага слова й патаемнага жаданьня. Можна было б падумаць, што ідэя — сыстэматызацыя культуры, калі б за рубрыкацыяй не праглядала маскоўская эстэтыка 60-х, маладосьць Вазьнясенскага, «чайка плаўкі бога», я — ты, мы — яны, і калі б быў прадстаўлены ацэначны (пераацэначны) момант. Але й гэтага тут няма. Няма свайго тэксту, — каб ня лімаўскага, спадчынскага, культураўскага адначасова. Сёньня ўсё, што пішуць аўтары «Крыніцы», ахвотна й адразу друкуецца паўсюль. Новы часопіс паўстаў, бадай, з тугі пакаленьня, якое не знаходзіць сябе ў новым часе, а спыніцца ці толькі дапісваць па інэрцыі — як бы ранавата.

«Пакаленьне» — ня ўзроставы тэрмін. Гэта працяг беларускай савецкай культуры, які выйшаў зь яе ці то ласкавым дзіцём, ці то адмаўленьнем — усё адно працягам. Мы быццам прачнуліся праз дзесяць гадоў, а беларускай савецкай культуры больш няма. Зьмянілася эпоха. А паколькі мы самі ў ёй, плоць ад плоці яе, мы ня можам зірнуць адстароненым вокам на тое, як яна перажыла гэтую зьмену эпохаў. Вось і няма пераацэнкі.

Ёсьць разгубленасьць. Зьмена часу нівэлюе звыклыя знакавыя каардынаты — імёны літаратуры. Мы яшчэ жывыя, мы ня хочам у спраты, у архіў, і таму валявым намаганьнем упісваем сябе ў шэрагі тых, каму дадзеная вечнасьць: Кірыла Тураўскі, Алесь Разанаў, Алесь Асташонак, Міхаіл Бахцін, Француа Рабле, Галіна Булыка, Самуэл Бэкет, Стыг Дагерман, Юрка Віцьбіч...

Але на гэтым наша валявое намаганьне сканчаецца. Мы не ствараем тэксты, якія б апраўдвалі такое шыхтаваньне. Мы не імкнемся зрабіць «больш, чым можам», і таму не выскокваем з свае эпохі і застаемся замацаваныя ў ёй. Мы ў прынцыпе не ствараем нічога *новага*.

Памятаю, калі толькі выйшаў том ЭЛіМБелу, дэфініцыя «Разанаў Алесь — беларускі савецкі паэт» успрымалася як абраза. Але няма іншай пэрыядызацыі. І ў новым часопісе яе няма таксама...

Там ёсьць фізыялёгія творчасьці пакаленьня — у апавяданьнях А.Асташонка. Аўтэнтычны талент — дзікі, драпежны, — вычытваем мы ў кантэксьце. Непрадказальнасьць і «антыграмадзкія паводзіны» — яго станоўчыя рысы. Вось па чым тужыць талент свойскі й лянівы. І ў гэтай тузе — яго хваравлівая драма. Воўк так доўга сядзеў у гаспадарскім вальеры, сумуючы па волі, што калі яго адпусьцілі, ён толькі разгублена матляў хвастом, баючыся адыйсьці ад ганку ў страшны і дзікі сьвет, і быў ужо не ваўком, а сабакам.

Так нараджаецца зусім неблагая ў сваім гатунку «камэрная» літаратура.

Што праўда, ёсьць прыклад і літаратуры някамэрнай. Раіса Баравікова паабяцала рэдакцыі напісаць пра паэтэсу Галіну Булыку некалькі радкоў і, старанна абмінуўшы ўсю хімію й мэтахімію, выбрала з кніжкі «Сынтэз» колькі жаноцкіх строфаў. У выніку атрымаўся тэкст як бы эпізадычны, але сапраўдны. Я думаю — які часопіс можна было б зрабіць, прысьвяціўшы яго Баравіковай!..

Баравікова напісала *недарэчны* тэкст пра тое, як яе маляваў мастак Коля, які цяпер жыве дзесьці ў Расеі... Прывабная ў канцы брэжнеўскіх часоў біблейна-апакрыфічная, філязофска-культуралягічна-інтэлектуальная фатальная фраза сёньня блякне, альбо вяртаецца на сваё месца — у кантэкст Баравікоўскіх элемэнтарнасьцяў. Што да астатніх, то іх зьместоўныя элемэнтарнасьці зьяўляюцца не-

# «Дарагі мой сябра Адам...»

*Зусім кароткі раман пра лёгкае расчараваньне*

Адам Глёбус

Здараецца, жыцьцё падасца марным занятткам і захочацца кінуць усё чыста й зьехаць на край сьвету. А краем цывілізацыі ўяўляецца Санкт-Пецярбург — бедныя людзі, белыя ночы, бясконцыя карпусы заводаў, брудная рака Нява, стракаты Неўскі праспэкт, турма, пераўвасобленая ў музэй, чучала тоўстага жандара-наглядчыка, кунсткамэра, двухгаловы чалавечы зародак у слоіку з фармалінам, прыніжаныя ды пакрыўджаныя... Вядома, не пакінеш ані дома, ані справы, а толькі ўяўляцьмеш, як набраўся мужнасьці, кінуў усё ўсякае й паехаў. Тады згадаецца, як сеў у цягнік «Львоў-Ленінград» разам зь сябрам Валодзяй Бортнікам і ягонай тагачаснай каханкай Яняй Бялькевіч. Цягнік вызначаўся дэмакратычнасьцю пасажырскіх нораваў і нясьвежай вільготнай бялізнаю шарага адценьня. У суседнім купэ ехалі арабы з маленечкім, але галасістым магнітафонам, зь якога лілася ліпучая, нудная й бясконцая, нібыта гісторыя Ўсходу, мэлёдыя. Бялькевіч пачала капрызіцца, яе раздражняла арабская музыка. Бортнік пайшоў сварыцца; а дзе сварка, там і знаёмства, там і віно. Пілі сухое, кіслае, як першы яблык, чырвонае віно «Мэрло». У мяне ўсчалася пякотка, якая ніяк не затушвалася цеплаватай вадою з жоўтага вагоннага бачка. А ў студэнтаў арабскага паходжаньня пачаліся прыпадкі патрыятызму: на каструбаватай расейскай мове яны спрабавалі растлумачыць, што не пашкадуюць жывата свайго за зялёны штандар іслама, за Палесьціну й Галянскія вышыні. Каб давесьці сур'ёзнасьць сваіх намераў, арабы прапанавалі дужацца на рукі. Валодзя Бортнік перамог усіх чатырох мусульман і на правую й на левую. Я пакутаваў ад пякоткі, але дужацца давялося. Правая рука ў мяне слабейшая за левую, і вось левай я паклаў тры арабскія рукі на заліты вінoм столік і пайшоў спаць. Але не заснуў, бо думаў: чаму ў чалавека левая рука дужэйшая за правую? У такіх пытаньняў няма адказаў. Можна, вядома, запытацца ў яе вялікасьці Прыроды. Яна ўсё ведае, толькі нікому нічога не дагаворвае да канца, яна бясконцая й бесканцовая ў сваёй сутнасьці, як космас, як Бог, як жыцьцё, як і ўсё астатняе, што паўсюль і наскрозь. А што паўсюль і наскрозь, таго й няма. Рыторыка, пустата, нішто. Лепш рыторыка, чым пералік ад бяссоньня сланоў: адзін слон, другі слон, трэці слон... І так да бясконцасьці, да Прыроды, якая бязьмежная ў сутнасьці, а таму ня зможа, каб і хацела, выказацца да канца, да дна. «Дно» — станцыя на паўдарозе зь Менску ў Санкт-Пецярбург. Дзябёлая, шырокая й пустая, як усё расейскае, станцыя. Я пагуляў па пэроне й паслухаў капрызьлівую Яню Бялькевіч... Як мне абрыдзеў задушлівы й брудны цягнік! Як мне надакучылі потныя арабы! Ад іх тхне жывёльным духам. У арабаў у чатыры разы больш потавых залозаў, чым у белых людзей! Я не спрачаўся, бо бессэнсоўна. Я толькі ціхенька пачынаў ненавідзець жаночы род. У тамбур я заскочыў самы апошні. Жанчыны могуць выклікаць пачуцьцё гідлівасьці, як і расьціснутыя на дрогкай тамбурнай падлозе недакураныя цыгарэты. Вось такая доўгая думка наведала розум, калі павольна адплыў удалячынь аднапавярховы будынак станцыі «Дно». А ў сумным, змэнчаным, стомленым, спатнелым — Яня мела рацыю — цягніку ўсталявалася чаканьне. Арабы млява спрабавалі парушыць паўночную шэрасьць: «Якая ў вас прыгожая прырода!». Я не разумеў. Чэзлыя, нібы прысыпаныя пылам, ляскі на балотах. Рэдкае, белаватае, безасабовае, бяскроўнае неба. Ад аднаго погляду на такое неба згадвалася скура дзяцей, хворых на лейкемію. Цьфу-цьфу-цьфу! Згінь прападзі, усё на ліха спрадзі! Мая баба Ядзя хварэла на рак. Я палохаўся нават слова «лейкемія». Я недалюблівау шмат якіх слоў, да прыкладу «Ленінград», падобнае да «лейкеміі». У такім мінорным настроі я выйшаў на пэрон з валізкай у руцэ. І было прыемна паціснуць прыгожую, з даўгімі пазногцямі, руку Валодзі Бортніка, бо што можа быць больш радаснае за разьвітаньне з капрызьлівай дзявуляй і яе прыгаломшаным палюбоўнікам? Хіба што каханьне зь першага погляду. І адразу скажу, яно — каханьне — чакала, падпільноўвала мяне ў бяскроўнай пецярбурскай начы.

* * *

*Дарагі мой сябра, Адам!*

*Вельмі ўзрадавалася твайму, такому неспадзеўнаму лісту!*

*Сёньня ў Сэгедзе сумнае надвор'е: сыплецца імжа, і на вуліцы страшэнная халадоча. Вядома, холад толькі здаецца жахлівым, бо мінулы тыдзень быў цёплы, амаль летні, і я дазваляла сабе прагульвацца па вуліцах у адной майцы. Напэўна, і ў Менску стаяла летняе сонца, калі ты сабраўся напісаць сваёй Агі.*

*Шкада, што не змагу даслаць табе джынсы. Яны страшэнна дарагія, і ў мяне цяпер няма такой сумы. І яшчэ, ня веру, што атрымаеш пасылку, ты й сам ведаеш, якая пошта ў СССР. Сапраўды, мне вельмі й вельмі сумна, бо не магу прысланць табе нейкія нагавіцы.*

*Ты, можа, зьдзівісься, а мне хочацца цябе бачыць, гаварыць з табою, хочацца паглядзець на твае новыя карціны, а потым ісьці на шпацыр у сквэр... Мне хочацца цябе!*

*За час, пакуль ты не пісаў, адбылося шмат цікавага.*

*У мяне была магчымасьць зрабіцца перакладчыцаю. Толькі змарнавала шанец, не змагла выканаць маленькае пажаданьне рэктара. Я адмовілася стаць ягонай каханкай нават на адзін раз. А ўсё з-за непрыемнага паху. Рэктар у свае шэсьцьдзесят даволі прыгожы мужчына — стрункі, без жывата й бяз лысіны. Апранаецца ва ўсё выключна аўстрыйскае — даніна таму, што ён нарадзіўся ў апошні год існаваньня Аўстра-Вугорскай імпэрыі. Але вось кіслы смурод, што вылятае зь яго дыханьнем, я не магу вытрымліваць нават на адлегласьці. Так, мусіць, дыхалі цмокі-людарэзы на казачных асілкаў. Карацей, рэктар не падпісаў дазвол на мой пераход з Сэгедзкага ў Будапэшцкі ўнівэрсытэт. Што зробіш?*

*Затое, я амаль упэўненая, што ўлетку змагу паехаць у Англію. У мяне цэлы плян на лета: спачатку паеду праз Польшчу ва Ўсходнюю Нямеччыну, дзе і ўладкуюся на працу. Немцы плоцяць больш за вугорцаў. А зь Нямеччыны праз Францыю дабяруся ў Лёндан. Уяўляеш: Англія! Я столькі марыла пра падарожжа, чытаючы й асабліва перачытваючы ўлюбёнага Оскара Ўайлда.*

*Скора пачнуцца вясновыя вакацыі (цэлы тыдзень) і я паеду ў Будапэшт. Сорамна, але Будапэшт я ведаю горш за Ленінград, прынамсі я не была ні ў адным музэі. Калі атрымаецца, дык змагу пражыць у сталіцы цэлыя тры дні.*

*І яшчэ, мы рыхтуемся да сьвята — Вялікадня. Усе вугорскія сем'і зьбяруцца амаль як на Каляды. Гаспадыні варыцьмуць кумпякі й яйкі. Дарэчы, яйкі цяпер ужо каштуюць удвая таньней! Ты, напэўна, ведаеш, можа чытаў: на сьвята Вялікдзень хлопчыкі, юнакі й дарослыя мужчыны, ходзяць да знаёмых жанчын і сябровак і пырскаюць на іх адэкалёнам ці духамі, хто багацейшы ці закаханы. А ў адказ мужчыны атрымліваюць кветкі, віно ці палінку — вугорскую гарэлку. А зусім маленькім хлопчыкам даюць грошы, яны спаборнічаюць, хто болей назьбірае за Вялікдзень.*

*Цікава, а беларусы сьвяткуюць Вялікдзень?*

*Уяві, сябры й знаёмыя ў адзін голас гавораць, што я зрабілася значна спакайнейшая і ўраўнаважаная. Якое дзіва! Зразумела, усё не зусім так, але стараюся не перажываць з-за розных драбязы й нікому не паказваю нават цень сваіх пачуцьцяў.*

*Калі не атрымалася зь мяне распуснай перакладчыцы, дык спадзяюся, пэдагог выйдзе прыстойны. Не такі благі лёс — весьці замежную літаратуру ў ліцэі ці гімназіі. Праўда?*

*Выкладчыкі зацьвердзілі тэму маёй дыплёмнай работы — народныя казкі ў першапачатковых клясах. Я выпісала патрэбныя кнігі, сярод іх ёсьць і беларускія. І прачытала адну вашу казачку «Пакацігарошак». Сама зьдзівілася, бо зразумела амаль усе словы. Мне падалося — беларускія казкі такія ж доўгія, як і вугорскія, а вось украінскія варыянты значна карацейшыя, не такія падрабязныя.*

*Ну вось, застаюся ў Сэгедзе чакаць добрага надвор'я.*

*Цалую цябе й жадаю ўсяго вясёлага.*

*Агі.*

*Сэгед. 1977. Сакавік. 30.*

* * *

Палёгка была салодкая й прахалодная, як і начны трамвай з адчыненымі вокнамі. Глыбокія шыбы зачыненай хлебнай крамы адбілі маю несамавітую

дзе за межамі культуралягічнай «Крыніцы». В.Акудовіч дае інтэрвію «Кнігарні»; Кірыла Тураўскі ня мучае нашчадкаў, а прамаўляе ў *сваім* далёкім стагодзьдзі; Ю.Залозка задае некаму свае роблена наіўныя пытаньні; Ул. Арлоў расказвае показкі; а Дранько-Майсюк піша песьні для Ірыны Афанасьевай... Там яны ратуюць свае душы. «Элітарнасьць» не выратоўвае нікога.

«Бомбы» не атрымалася, бо яе й ня надта каб жадалі. Лепшыя аўтары нацыянальнай літаратуры аб'явілі спэктакаль, але граць яго ня сталі. Ці то занадта «маладзёжнаю» здалася раптам задума, ці то прадстаўляцца надакучыла, а само *яно* неяк не павяло, не разахвоціла. Таму абмежаваліся некалькімі кароткімі выхадамі на «біс».

Крыт.

# ІМЯ СКАРЫНЫ

**Скарыназнаўчая сэрыя 1990-1991 гг.; кніга Ўл.Агіевіча «...», якая рыхтуецца да друку.**

У другой палове 80-х — пачатку 90-х гадоў, калі маскоўскія мастакі ўжо сьмела выстаўлялі на выставах рускіх віцязяў, пазнаць беларускія карціны на гэтым тле было вельмі проста: яны вылучаліся ідэямі асьветы. Галоўнымі пэрсанажамі былі культурныя героі, а цэнтральнаю тэмай — тэма кнігі. Тады ж, да 500-тых угодкаў Францішка Скарыны, выйшла нечуваная ў беларускай гістарыяграфіі акадэмічная скарыназнаўчая сэрыя. Кольkасна зь ёю можа параўнацца толькі камуністычная апалягетыка. Але Скарынаўская сэрыя прэтэндавала на нэўтральнасьць, як збор пазытыўных фактаў. Дасьледаваны (на розным узроўні) амаль усе сфэры дзейнасьці Скарыны, апублікаваны ўсе вядомыя й новыя дакумэнты. Недасьледаванай засталася рэлігійна-тэалягічная канцэпцыя. Зь іншага боку, на Беларусі ўпершыню ў рэгіёне быў выдадзены *сьвецкі* звод Бібліі.

Цяпер беларускія мастакі малююць бітвы. Але ў друкаванай прадукцыі скарынаўская тэматыка набірае новую хаду. Спасылаючыся на тэксты Ф.Скарыны, нават на ягонае імя, прадстаўнікі розных плыняў грамадзтва імкнуцца давесьці розныя ідэйныя канцэпцыі.

Вось і Ўладзімер Агіевіч у кнізе, якая яшчэ ня выйшла, але якую Інстытут філязофіі й права, дзе працуе аўтар, рэкамэндуе да друку, зноў настойвае на імені *Георгі*. Некалі перапісчык у копіі (!) каралеўскага акту зрабіў памылку ў звычайным тады звароце *egregius* (слаўны, знакаміты), што потым праінтэрпрэтавалася як імя Георгі. Прычым у другой копіі, выдадзенай каралеўскай канцылярыяй, гэтага слова не было ўвогуле. Яшчэ ў 1925 г. у *Ateneum Wileńskie* Г.Лаўмянскі ў рэцэнзіі на кнігу А.Станкевіча «Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525-1925» прааналізаваў гэткую недарэчнасьць. Граматычная памылка, якая першы й апошні раз «фіксуе» імя Георгі, стала падставаю для раскруткі ідэалягічнага сюжэту. У.Агіевіч узнаўляе гэтую канцэпцыю, згодна зь якой уся дзейнасьць Скарыны разьвівалася выключна ў рэчышчы ўсходнеправаслаўных царкоўных, палітычных ды культурных тэндэнцый. Ня ведаючы, што ёсьць такі каталіцкі сьвяты — Георгі, і, адстойваючы гэтае імя для Скарыны, аўтар наіўна ўпэўнены, што сьцьвярджае праваслаўе.

Ён дае фантастычную інтэрпрэтацыю партрэта Ф.Скарыны з праскай Бібліі і робіць уласны прарыў, сьцьвярджаючы, што ў партрэце зашыфраваная геліяцэнтрычная сыстэма й што Скарына апярэдзіў Капэрніка. Але геліяцэнтрычную сыстэму ня трэба было зашыфроўваць, яна была дастаткова вядомая ў рэнэсанснай Эўропе пачатку XVI ст. М.Капэрнік даў матэматычны доказ.

У.Агіевіч нападае на Скарыназнаўчую сэрыю. Але зьняважлівасьцю да сваіх апанэнтаў дый мноствам факталягічных памылак сам заводзіць у прастору, дзе ягоныя публікацыі ня могуць успрымацца як навуковыя.

А.Дзярновіч

# EL SALVADOR

**Сальвадор Дали. Триумфальные скандалы. — Москва: Берегиня, 1993. 80 ст., іл.**

«Каруньніца» Вэрмэера заўсёды лічылася карцінай, што перапоўненая спакоем і нейкай неўтаймоўнай сілай, зь якой можа параўнацца хіба што нядаўна вынайдзены антыпратон. У «Каруньніцы» ўсё зьведзенае да іголкі, якая не намаляваная, а літаральна тырчыць з халста. І яе гостры дотык зусім рэальна адчуваецца целам. Калі ж проціпаставіць каруньніцу й жывога насарога, перавага застанецца за Каруньніцай, бо марфалягічна яна — ня што іншае, як самы сапраўдны рог насарога. У прыродзе няма больш дасканалага прыкладу лягарытмічных сьпіраляў, чым рог насарога. На скрыжаваньні сьпіраляў, што ўтвараюць малюнак на сьпелым сланечніку, праглядаюць абрысы рагоў насарога. Каруньніца й была гіганцкім рогам насарога, адораным звышнатуральнаю сілай, бо яна — сымбаль абсалютнае манархіі цнатлівасьці...

Ніколі не трымаў у руках больш непатрэбную мне кнігу. Не скажу, што даведнік па крыяскапіі патрэбны мне больш, але я яго папросту не вазьму ў рукі. А прачытаўшы кнігу, што так выгодна кладзецца ў руку сваім нэрвова-блакітным каленкорам, крыху заляпаным неахайнай пазалотаю шрыфта, ды яшчэ абгорнутую тоўстым супэрам, зь якога, дзякуючы празьмерна чорным ценям, амаль стэрэаскапічна вылятаюць Гала з Далі... Ад самога Далі ў кнігу патрапілі павыцінаныя зь ягоных кніг «Дзёньнік генія», «Неспавядальныя споведзі», «Патаемнае жыцьцё Сальвадора Далі, напісанае ім самім» некалькі малазьвязаных між сабою ўрыўкаў, 16 рэпрадукцыяў (некаторыя таксама ўрыўкамі) някепскай якасьці ды табліца каштоўнасьцяў, паводле Далі. Апроч таго, зьмешчаная прадмова С.Каменева, дзе паведамляецца, што жонка Далі была расейкаю, а сам ён «...сумяшчаў, здавалася б, несумяшчальныя рэчы». У сярэдзіну ўплішчылася зацемка А.Меня «Змрок і сьвятло», да карціны «Хрыстос сьв. Іаана на крыжы», пра Хуана дэ ля Круса.

Тым, хто ведае, што такое сюррэалізм, гэтая кніга нічога ня дасьць, а тым, хто ня ведае — пагатоў...

«... Люблю крэтынаў, выяўленых Вэляскесам! Яны нешта ведаюць пра пазаіснае. Сёньняшнія пра яго не здагадваюцца... UNESCO трэба было б распрацаваць праграму захаваньня крэтынаў — гэты від вымірае».

Чарнявы каталёнец з вылупленымі на здымках вачыма, з аптымістычнымі вусамі, загнутымі дагары, як вежы Бургаскага сабору, з кійком, з насарогавага рогу перахітрыў усіх блазнаў Гішпаніі. Прыняўшы ўсур'ёз уласнае імя, ён узяўся ашчасьлівіць сьвет сваімі сэнтэнцыямі. Зрэшты, не філянтрапічна...

Кепскі густ — гэта не антаганізм эстэтычнаму, хутчэй наадварот, гэта сьведчаньне незьнішчальнае прагі чалавека да хараства. Жыцьцё й творчасьць Далі — самае відавочнае таму сьведчаньне... з дакладным разьлікам на эфэкт, якога чакалі...

С.Х.

# ЧУЖАЯ КНІЖКА

**Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі: Вершы / Пер. з польскай А.Мінкіна; — Менск: Маст. літаратура, 1994. — 93с.**

Складаецца такое ўражаньне, што гэтую кнігу ніхто не чакаў, не рыхтаваў глебы, не вызваляў для яе месца на кніжнай паліцы, а яна зьявілася. Баляслаў Лесьмян па сёньня на Беларусі невядомы, дый праз расейскую літаратуру, што доўгі час выконвала ў нас ролю эстэтычнае мыліцы, пра яго амаль немагчыма даведацца. Ні там, ні тут паэт,

*Працяг на старонцы 6*

постаць у брунатнай балёневай куртцы. Даўгалыгія ліхтары вартавалі акадэмічную самаўпэўненасьць кінатэатра «Масква». На афішы бялеў тварык мапасанаўскай Пампушкі. Яна, мусіць, з-за жаночай салідарнасьці зь Яняю Бялькевіч, пачала насьміхацца зь мяне... Ты ніколі-ніколі не пазбавісься ад капрызьлівых жанчын. Ты разумны хлопчык, і ведаеш — у іх пад спадніцамі ёсьць гарачыя, вільготныя, глыбокія норкі!.. Я прысьпешыў крок, уцякаючы ад афішнай распусьніцы, і хутка апынуўся ў цемнаватым пад'езьдзе, які патыхаў стогадовым пылам, пыл вялікімі лахманамі вісеў на павуціне, што апляла ліфтавую шахту. У недасяжнай вышыні заскрыгатаў трос. Кабіна пасунулася ўгару. У трэснутым люстэрку з аблупчанай эмальлю зьявіўся мой стомлены твар: пачырванелыя вірлы прымружаных вачэй, сухія, нібыта ў шэрані, плоскія вусны, доўгія, завітыя ў вялікія кудзеры валасы. Такі твар можна ўбачыць падчас бяссоньня — выцягнуты, зьмяты й нібыта крышачку змазаны. Менск — Ленінград ня блізкі сьвет. Я заўсёды перажываў і хваляваўся перад чужымі дзьвярыма. Што сказаць? Ці адкажа голас з-за дзьвярэй? А мне што гаварыць голасу за дошкамі? Уяўляю, як дрыжыць душа перад увaходам у пекла, але й перад райскай брамаю душа калоціцца ня менш. У запаўночнай цішыні ўзьляцела з-пад маёй рукі вісклівае трапятаньне званка, яно кінулася ўлукаткі па цёмным пад'езьдзе, нібыта кажан. Хто? Сонны голас цёткі Тосі, далёкай маёй сваячкі. Раз на тры гады Тося прыяжджала ў госьці ў Менск. Таму й ведала ленінградзкая цётка ўсіх маіх сваякоў, і таму проста сказаў у чорныя дзьверы... Адам, зь Менску! Я апынуўся у даўгім, застаўленым розным ламаччам, камунальным калідоры. Не затрымліваючыся, Тося правяла мяне ў свой маленечкі пакойчык, дзе паўночы пілася гарбата за круглым сталом і расказвалася пра ўсю радзіну... Дзе хто? Хто з кім? Хто каму й нашто? Цётка Тося жыла адна. Таму яе цікавілі чужыя лёсы. Спаць мяне паклалі на вузенькі раскладны фатэль, які быў знарок куплены для гасьцей-сваякоў зь Беларусі. Заснуў я пад ціхі голас цёткі Тосі... У нас, на рагу, у хлебнай краме ўзяла сёньня два бублікі, па пятаку. А яны чэрствыя, ня ўгрызьці. У мае гады хлеб заўсёды чэрствы. А скарынку я цяпер нажом пачала абразаць. У маладосьці не было нічога смачнейшага за скарынкі. Пакуль з крамы прынясу бохан, дык аб'ем з абодвух бакоў. Так у Ленінградзе дні аб'ядаюць ноч, зь вечара адкусяць з раніцы адкусяць. Вось зараз трэцяя гадзіна, а сьветла... Спраўджаць цётчыны словы не было сілы, я ня мог адплюшчыць вачэй. Праспаў я дзесяць гадзін і не пашкадаваў. А наперадзе мяне чакаў непрыемны іспыт, і адразу скажу: іспыт праваліў, ня здаў, зрэшты, і не хацеў здаваць. Ну, чаму я павінен дагаджаць нейкай з палюбоўніц Валодзі Бортніка? Не павінен! Хто яна такая? Можа, жанчына, пра якую гавораць: прыгажуня — гэта меч, які падсякае жыцьцё! Ха! У Яні Бялькевіч караткаватыя ногі, зразумела, не зусім кароткія, але відавочна непрапарцыянальныя адносна выцягнутага торсу. Зрэшты, яе пастава з даўгаватымі, амаль хлапечымі, рукамі, мяне зусім не раздражняла. Я ж не зьбіраюся лезьці да яе пад спадніцу. А вось паводзіны... Ёй увесь час нечага жадалася, і ня проста хацелася, ёй карцела. Пра такіх кажуць — іголкі ў дупе. У Бялькевіч, відавочна, былі ў клубах даўжэзныя іголкі. Ёй карцела йсьці, бегчы, імчацца, ляцець. Ёй хацелася: у прыбіральню, у заапарк, есьці, і ўсё ўвадначасьсе. Калі я, ці Бортнік, прапаноўваў ісьці ў Эрмітаж, Яня загадвала заварочваць у Кунсткамэру. А калі намерваліся папалуднаваць у «Шашлычнай», Бялькевіч зацягнула нас у рэстарацыю «Паўночнае зьзяньне». Як жа яна мяне задзяўбла! Мне што, вось Бортніку... Яна ўвесь час лазіла рукою да яго ў нагавіцы, мусіць, думала, што ніхто ня бачыць. Пра што думае жанчына, калі дакранаецца да мужчынскага стрыжня? Пытаньне. Яня лезла да мужчынскага сымбаля й не саромелася, не чырванела. Яе бякла-блакітныя вочкі прымружваліся, рот раскрываўся, а на ніжняй губе ўзьнікала маленечкая бурбулка сьліны. Яна лопалася зь ледзь чутным «пок». І тады расхіналіся веі на пустых, як у нежывой верхаводкі, вачах. Бялькевіч глядзела ў нябачную далячынь жаночага інь. Я ня вытрымаў, маё трываньне ляснула ў рэстарацыі «Паўночнае зьзяньне»... Пакладзі рукі на стол! Мне сорамна, калі каханка цягаюць за чэлес у рэстарацыі. Яніны вочы звузіліся, зрабіліся шчылінкамі пакрыўджанай гейшы. Я ня стаў чакаць слоў. Праз хвілю мяне панес Неўскі праспэкт. Я зноў вызваліўся і мог ісьці куды заўгодна, хоць у заасад.

* * *

*Дарагі мой Адам!*

*Нарэшце! Я вытрымала ўсе іспыты, а іх, калі памятаеш, было тры. 10-га студзеня я скінула апошні іспыт. І, уяві сабе, у гэтым годзе атрымала «выдатна» па размоўнай практыцы. А раней вышэй за «добра» не ўзьнімалася. Вядома, адзнакі не азначаюць, што я ўмею правільна гаварыць і пісаць па-расейску. Але я вызвалілася, нарэшце!*

*Я вельмі стамілася. Баюся, нэрвы сталі зусім слабыя, і на вакацыях змагу толькі чытаць і гуляць. А можа, гэта ня самыя горшыя заняткі на сьвеце?*

*Вельмі хацелася б наведаць тваю выставу малюнкаў. Ты пішаш, што выставу зрабіў разам з Бортнікам. Перадай прывітаньне й віншаваньні. Ягонай дзяўчыне таксама скажы колькі прыемных слоў, можаш пацалаваць яе ў шчаку, ці лепей у лоб.*

*Адам, я захварэла: мне ня сьпіцца, ня есца і нават не чытаецца й не гуляецца, а ўсё з-за былога каханьня.*

*Новы год я сустракала зь сябрамі. На жаль, той хлопец, якога я любіла, быў з намі. Памятаеш, я расказвала пра яго ў Ленінградзе і паказвала маленькае чорна-белае фота. Я ўсё яшчэ люблю, і разам з гэтым, не магу выносіць ягоную прысутнасьць больш за хвіліну. Люблю, кахаю толькі тады, калі яго няма побач. Наогул, я вынайшла сумную дэфініцыю... Каханьне йснуе толькі ва ўяўленьні. А як толькі вобраз матэрыялізуецца, адразу ж робяцца відавочнымі ўсе несупадзеньні зь ідэальнымі, уяўнымі абрысамі твайго абраньніка.. Як непрыгожа й непрыемна...*

*Мы нэрваваліся. Мусіць, я зруйнавала ягонае каханьне, так як і ён маё. Мы сварыліся. Спрабавалі мірыцца. Адносіны зрабіліся мутныя й загуслыя, як кісель.*

*Маркотна. Ня ведаю, ці разумееш мяне. Ёсьць людзі, якія ня могуць быць разам, але й адно без аднога таксама не вытрымліваюць.*

*Больш як паўгода мы ня бачыліся. Але навагодняя сустрэча ўвобмільг уваскрасіла ўзаемаадносіны. Мінула чатырнаццаць дзён, а я ўсё пад уражаньнямі ад сустрэчы.*

*Навакольле няяснае, будучыні няма. Нават ня ведаю, ці варта жыць, каб пакутаваць. Прабач. Пра такія рэчы нельга пісаць, нельга гаварыць нават зь сябрамі. Але ўсе навокал бачаць, што адбываецца, таму ў прыхоўваньні пачуцьцяў ня бачу сэнсу.*

*Спадзяюся, што маё пяратамленьне неўзабаве вылекуецца сьвежым паветрам Татахозы.*

*Мне было прыемна атрымаць твой ліст у цяжкі для мяне дзень.*

*Твая Агі.*

*Сэгед. 1977. Студзень 11.*

* * *

Касы ў Рускім музэі зачыняюцца за дзьве гадзіны да закрыцьця заляў. Давялося паказваць кантралёрцы сваё пасьведчаньне з мастацкай вучэльні й тлумачыць, што менскія студэнты нічым ня горшыя за ленінградзкіх. Кантралёрка — тоўстая карантышка з тварам нявыспанага міліцыянта — не паверыла мне, але прапусьціла. Я бадзяўся па апусьцелым музэі, цешыўся свабодай. Атрымаць асалоду ад жывапісу тым разам ня змог, бо занадта моцна перажываў скандал у рэстарацыі. Мяне крыху супакоіла музэйнае асяродзьдзе: сьвятло, паветра, мармур, залацістасьць і маціцовасьць, аксаміт, ядваб. У такіх інтэр'ерах выдатна глядзеўся б францускі клясыцыст Жан Агюст Дамінік Энгр, а не самадзейныя мастакі накшталт Венецыянава; зрэшты, прозьвішча апошняга таксама адпавядала велічы палаца. А вось крываногая экскурсаводка на абцасах-шпільках зусім не ўпісвалася ў інтэр'ер, як і купка апрану-

*Працяг на старонцы 6*

*Працяг са старонкі 5*

які выйшаў «з пустое фурманкі», практычна не перакладаўся. Гэта кніга чужая, нават паводле сваёй геаграфіі — зроблена яна ў Вільні, месьце, якое ўжо паўстагодзьдзя як выйшла з сфэры ўплываў беларускай літаратуры.

Адзін мой знаёмы ў літаратурным інстытуце, што перакладае на расейскую мову вэрсэты Алеся Разанава, сьцьвярджаў, што Лесьмян — гэта польскі Шарль Бадлер. Я зь ім не пагадзіўся. Як для мяне, клясык сымбалізму недалёка адыйшоў ад свайго цёзкі Пэро. Спачатку распавядае страшныя казкі, а потым дае ім цьвярозае вытлумачэньне. Увесь Бадлер — казкі з маральлю. Перачытайце «Кветкі зла», або «Вісячыя сады», і вы не зразумееце, чаму вершы гэткага маралiста патрапілі пад забарону. Дык вось, я не згадзіўся, але свайго тлумачэньня на ўзроўні стэрэатыпаў даць ня змог.

У адрозьненьне ад свайго відавочнага папярэдніка Баляслаў Лесьмян ні перад кім не апраўдваецца. Напісаў пра каханьне Гада й цяжарнай жанчыны, і ніякіх кіўкоў у бок прынятае маралі...

*Салодкая сьліна вужакі на смак —*
*Будзь гадам і песьці і гэтак, і так!*

Ён сам увайшоў у ролю Гада, што выйшаў па той бок добрага й злога, і сваім прыкладам падштурхоўвае іншых зрабіць тое самае, спазнаць таямніцу. Толькі таямніца, забаронены плод, існуе тады, калі пра яго хоць нехта ведае, інакш гэта не табу, а белая пляма на мапе спазнаньня. Калі ёсьць таямніца, то ёсьць і спакуса да яе дакрануцца, а за спакусай стаяць грэх і сьмерць. Паэт сьвядома кружляе ў гэтых трох соснах, але галоўнае ня тое, што з намі адбываецца, а тое, як мы да гэтага ставімся.

Алег Мінкін — плённы перакладчык, за апошнія два гады выйшла тры зборнікі ягоных перакладаў польскіх паэтаў: Цыпрыяна Норвіда, Леапольда Стафа й Баляслава Лесьмяна, ягоную працу высока ацаніла польская крытыка. На Беларусі — цішыня. Кнігі зробленыя прафэсійна, нават, мяркуючы па паліцах менскіх кнігарняў, знайшлі свайго чытача, але крытыка маўчыць як рыба аб лёд, не знаходзячы для плёну паэта-перакладчыка, які працуе, вядома, толькі з тым, што да яго блізкае, адпаведнага кантэксту ў беларускай літаратуры, каб зрабіць іх сваімі «паэтамі». Ні геаграфія, ні параўнальнае літаратуразнаўства, што апраўдаліся ў выпадках зь Міцкевічам або Апалінэрам, тут не даюць рады. Можа, было б варта пашукаць яе на віленскай сустрэчы беларускай інтэлігенцыі з Валерыем Брусавым? І тады мадэрн стане для нас не такім пачварным і чужым. Тады ўжо нарэшце здолее выйсьці за межы хрэстаматыйнага аб'ёму Максім Багдановіч, упішуцца ў шэрагі мастакі Дабужынскі й Бакст, а графіка Бёрсьлі ня будзе здавацца нам нечым выключным і непараўнальным. Вось калі можна будзе казаць пра асэнсаваньне такой зьявы, як Лесьмян. А пакуль дзівак Мінкін працуе над сьвядома неактуальнымі праектамі, спрабуючы прышчапіць да беларускай культуры чужародныя галінкі.

Андранік

## «ПІСЬМОВА ЗЬ ЛІТВЫ»

**Leszek Bednarczuk. Języki Wielkiego Księstwa Litewskiego na tle porównawczym. Wilno, 1993. 163 str. + 6 map. Wydanie Stowarzyszenia Naukowców Polaków w Wilnie (Subačiaus 5, 2601 Vilnius, Lietuva) dotowane przez Wydz. Humanistyczny WSP w Krakowie.**

Загаловак гэтае рэцэнзіі перагукаецца зь немудрагелістым назовам, пад якім Ян Карловіч (1836-1903) зьбіраў свае дыялектныя матэрыялы («вусна зь Літвы»), аднак ён ня мае адмоўнага адценьня, бо разгляданая тут праца ведамага польскага мовазнаўцы (між іншым рэдактара й сааўтара 2-тамовае працы «Мадэрністычныя мовы», Варшава 1986) выклікае павагу сьцісласьцю мэтаду, дасьледнымі гарызонтамі й велізарнай бібліяграфіяй. [...] Гэты збор 13 артыкулаў (вяршкоў жыцьцёвага захапленьня аўтара славяна-бал-цкаю тэматыкай) мае ўтылітарны характар: як мы чытаем у прадмове, праца гэтая «прызначаецца для студэнтаў Польскага Ўнівэрсытэту ў Вільні з намерам наблізіць іх да моўнае мінуўшчыны роднае зямлі — Вялікага Княства Літоўскага. Мінуўшчына гэтая замацаваная ў назовах рэк і азёраў, нежылых мясьцінаў і населеных пунктаў, прозьвішчах і мове жыхароў, пісьмовых дакумэнтах і мастацкіх творах, напрыклад, у «Пане Тадэвушы» [...]». Не ўваходзячы ў дыскусію наконт мэтазгоднасьці (або не) існаваньня Польскага Ўнівэрсытэту ў Вільні, хачу зьвярнуць на гэтую кніжку ўвагу іншых патэнцыяльных чытачоў, бо гэта першае польскае комплекснае апісаньне моўнае сытуацыі ВКЛ і гэты тэкст (скажам адразу: нялёгкі, бо гэта не навукова-папулярная праца) дае добрае ўяўленьне як аб лінгвістычных рэаліях гэтага рэгіёну, гэтак і аб ступені складанасьці тэмы.

Найлепшае ўяўленьне пра тэматыку кнігі дае яе першы разьдзел, названы «Этналінгвістычныя дачыненьні на абшары Вялікага Княства Літоўскага». Аўтар тут удакладняе цэнтар сваіх зацікаўленьняў (ВКЛ у часе паміж Люблінскай Уніяй [1569] і «маскоўскім наездам» [1655]), цiто час, у якім на гэтым абшары суіснавалі гэткія «этналекты» (нэўтральны тэрмін, які дазваляе пазьбегнуць ацэнак, падказваных назовамі «мова/дыялект/гаворка»): літоўскі, беларускі, паўночнаўсходняя крэсовая пальшчызна, мова літоўскіх татараў і троцкіх караімаў, літвацкая форма ідыш, лякальны варыянт мовы цыганоў, а таксама — нядаўнае адкрыцьцё — г. зв. паганскія гаворкі з Нарвы. [...] На ўскрайку гэтай і так ужо густой лінгвістычнай мяшанкі йснавала яшчэ нямецкая («Baltendeutsch») і расейская мова, на якой гаварылі стараверы ў ваколіцах Пскову, а ўнутры дзяржавы — літургічныя мовы асобных рэлігійных групаў (лаціна каталікаў, царкоўнаславяншчына праваслаўных і ўніятаў, гэбрайская жыдоў і караімаў, арабская татараў).

Гэты моўны стан зь пералому XVI і XVII стст. служыць аўтару ў якасьці адліковага пункту для дасьледаваньняў над зьменамі лінгвістычнае карты як у ранейшых эпохах — аж да (гіпатэтычнага) стану моўнай супольнасьці балтаў і славянаў 1500 году да нар. Хр. — гэтак і ў пазьнейшых, аж да XX стагодзьдзя. Да такіх «больш актуальных» пазыцыяў можна залічыць, прыкладам, нарыс «Аб польскай мове над Бярэзінай», прысьвечаны аповесьці Флярыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы» (1-ае выд. Буэнас Айрэс, 1942), або «Аб мове вялейскіх асначоў», дзе аналізуецца з моўнага боку тэкст XIX ст. — «Вяльля й яе берагі» Канстантына Тышкевіча». [...]

Асноўную ўвагу Бэднарчук прысьвячае комплекснай лінгвістычнай гісторыі разгляданага абшару (ўлучна з выразнымі сьлядамі даўніх вуграфінскіх уплываў), а дакладней — узаемадачыненьням паміж трыма найважнейшымі яго «этналектамі», г. зн. літоўскім, беларускім і — гістарычна найпазьнейшым — польскім. Параўноўваючы даўні стан, часткова захаваны ў геаграфічных назовах, з пазьнейшымі дадзенымі, аўтар вылучае тры пасьлядоўныя рубяжы няспыннага адступленьня літоўскамоўнага абшару: (1) верхняе Падняпроўе (Магілеўшчына) прыблізна да 500 году, калі пачаўся наступ усходніх славянаў (пазьнейшых «беларусаў»); (2) абшар на захад ад лініі ад Браслава праз Нарач і далей уздоўж Вяльлі да Нёмана (XIV ст.); (3) стан амаль поўнага зьнікненьня літоўскае мовы ў XVI-XIX стст., за выключэньнем дыялектных выспаў у цяжкадаступных мясьцінах над Вяльлёй, Нёманам і Бярэзінай. Галоўнымі «канкурэнтамі» літоўскае мовы былі дзьве мовы славянскія: (бела)«руская», якая да XVII ст. была афіцыйнай канцылярскаю моваЙ ВКЛ, і — асабліва ў XVIII і XIX стст., з культурных і палітычных прычынаў — польская. Я ўзяў слова «бела-» ў двукосьсе, бо й тут — як і ва ўсім іншым на гэтым абшары — справа вельмі складаная. Добрае ўяўленьне аб гэтым дае нарыс пад загалоўкам «Вакол этнагенэзу беларусаў». Уласна «Белая Русь» пашыралася толькі на абшар колішніх ваяводзтваў Віцебскага, Полацкага й Смаленскага, тым часам як абшар вакол Навагрудку, Горадні й Менску зваўся «Чорная Русь»; з гэтым падзелам былі таксама зьвязаныя дыялектныя адрозьненьні. Пасупова назоў «Беларусь» пашырыўся на тэрыторыю, што складаецца з трох абшараў: Паазер'я, Палесься й Падняпроўя. Адзіным фактарам, які лучыць гэты канглямэрат у цэласьць, быў фактар палітычны, цiто факт прыналежнасьці гэтай «Русі» да Вялікага Княства, што знайшло нават свой адбітак у размоўнай мове, бо сёньняшняя Беларусь доўгія гады па-просту называлася «Літоўская Русь».

Гэтая даўгая выснова — толькі маленькі прыклад складанасьці моўных і нацыянальных праблемаў ВКЛ, зь якімі сутыкае чытача кніга Бэднарчука, напісаная вельмі ясна й дакладна, затое надта складаная для чытаньня. Аднак гэтая праца акупляецца: адолеўшы кнігу (з алоўкам у руцэ!), чытач мае ў галаве ня столькі можа «поўную карціну» гэтага вартага захапленьня абшару, колькі ўяўленьне аб прычынах гэтага захапленьня, а менавіта нечуванага перапляценьня этналёгіі й гісторыі, архаізмаў і інавацыяў, бязладу й «парадку рэчаў». Аўтар-лінгвіст, які у залежнасьці ад патрэбаў карыстаецца кампаратывістычным, тыпалягічным або «арэальным» мэтадам, часамі нагадвае крышталёграфа, які спрабуе высьветліць, як сьнег ператвараецца ў лавіну [...]

М.Бронскі Kultura (Paryz). 1994, №9

# «Дарагі мой сябра Адам...»

*Працяг са старонкі 5*

тых па-пляжнаму дзяўчат. Такой стракатай кампаніі самае месца ў заапарку назіраць кармленьне гіпапатамаў, а яны паказвалі пальцамі на рачны краявід з рыбкамі й сьмяяліся. Крываногая пігаліца пагойдвалася назад і ўперад на высозных шпільках і нешта мармытала на незразумелай мове. Ї тут я ўбачыў яе. Профіль. Тонкі, выразны вялікі нос. Люблю, калі ў жанчыны ёсьць нос, а не ружовы гузік зь дзірачкамі для ўцягваньня паветра. Ломка-акрэсьленыя вусны. Поўная адсутнасьць скулак. У мяне ж на твары сядзела гнюсная фіялетавая нарыўная зь зеленкаватай галоўкаю, якую я кратаў, пагладжваў, казытаў. У свае дзевятнаццаць я быў крыху замаруджаны ў разьвіцьці, мяне страшна раздражнялі скулкі як на ўласным целе, так і на чужым, асабліва дзявочым. Ї, мусіць, таму, каб суцешыць такіх, як я, кажуць: калі на носе вылазіць фурункул, значыць нехта закахаўся ў цябе. На носе ў мяне якраз скулы не было, яна, вялікая, як божая кароўка, сядзела на скроні, і я старанна прыкрываў яе доўгімі кудзерамі. Але пабачыўшы прыгожую дзеўку, я думаў зусім не пра нарыў... Як падыйсьці, што сказаць? Ці зразумее па-расейску? Выйсьце знайшлося найпрасьцейшае: дастаў з кішэні нататнік і пачаў маляваць яе профіль, мне здавалася — раманскі. А яна, заўважыўшы й адчуўшы мой неспакой, пачала ўцякаць. Сьвядома ці несьвядома, а мая натуршчыца ўсё ж апынулася ў тупіку, у залі сэцэсіянэраў. Дзяўчына разглядала маленечкую зашклёную гуаш Бэнуа «Вайсковы парад зімою», калі я наважыўся падыйсьці й запытацца, ці разумее яна расейскую мову, і пачуў радаснае... Разумею, але кепска! Усе дыялёгі з вугоркай Агі, а яна якраз вугорка і Агата — Агі, я, з тваёй згоды, перакажу, а яе лісты падам у адвольным перакладзе. Мне абрыдлі макаранічныя аповеды невыкшталцоных шрайбікусаў. А тады я схлусіў, што таксама ня вельмі добра размаўляю па-расейску. Ї мяне заняло. Мяне запыніла на словах «хацеў бы». Я выдатна ведаў і разумеў, чаго жадаў, нават мог бы зрабіць гэта ў музэі расейскага мастацтва, неадкладна, на вачах у гарбаценькай наглядальніцы, што нахабна й зайздросна паглядзела ў наш бок. Трэба ці ня трэба, але сабе я зазначыў: карліца вельмі жывапісна глядзелася на крэсьле з высокай сьпінкай, імправізацыя ў стылі Анры Дарэна. Замест просьценькіх слоў пра знаёмства, мой розум поўніўся нейкімі абракадабрамі... Кароль — гэта карлік сярод багоў. Побач з карліцаю я цудоўна выглядаў бы ў вясельным строі. Ї яна, карліца, выдатна глядзелася ў белым вэлюме. На якое імгненьне я ўявіў сабе й гарбаценькую наглядальніцу на месцы жаніха й нявесты, што выходзілі зь віленскага баракальнага сабору Пятра й Паўла. Нешта гнюснае, кіношнае, фэлінеўскае было ў выхадзе маладых на цьвінтар, запоўнены мужчынамі ў цыліндрах і жанчынамі ў ядвабных сукенках. Маё ж сапраўднае джутавае ўбраньне ніяк не стасавалася ані зь вясельлем, ані з каралямі й карлікамі. У дадатак на мне не было ні плавак, ні майткаў: хіповая мода 70-х. Я яшчэ пашкадую, што не апрануў плаўкі, але пазьней. У музэі я здолеў выціснуць з скутага горла куртатае й заікастае запрашэньне ў кавярню. Пашанцавала — яна прыняла прапанову. Мы выйшлі на палацавы ганак Рускага музэю й папаліся ў залеву. Я не настолькі добра ведаў Ленінград, каб адразу ж знайсьці кавярню. Мокрыя ўшчэнт, мы нарэшце апынуліся ў задушным, бітманапакаваным бары. Я ўжо ведаў: спадарожніцу можна называць Агі, яна з Вугоршчыны, вывучае расейскую й ангельскую мовы ва ўнівэрсытэце, больш як месяц яна пражыла ў Ленінградзе і праз тыдзень зьбіраецца вярнуцца дамоў. Ня так і мала за паўгадзіны размовы на каструбаватай расейскай мове, якую добра-ткі прыпраўлялі беларускі й вугорскі акцэнты. Пра сябе я таксама тое-сёе выклаў. Толькі адразу скажу: я ня з тых, хто любіць падмазваць аўтапартрэт ярчэйшымі фарбамі, мяне цалкам задавальняе сапраўднае аблічча. Да прыкладу, я маладзейшы на два гады за Агі, ёй — 21, а мне — 19. Ї што? Гэта ж не перашкодзіла ў бары замовіць пляшку сухога віна й салату «Аліўе». Праўда, сівая афіцыянтка насварылася на нас, але не з-за розьніцы ва ўзросьце. Агі дастала грабеньчык і, папраўіўшы сваю фрызуру, пачала расчэсваць мае доўгія, па плечы, непаслухмяныя лахманы. За першым інтымным заняткам і засьпела нас сівая Баба-Яга... Што вы мне тут свае вошы на стол вычэсваеце?! Я злавіў Агіну руку з грабеньчыкам і моцна сьціснуў тонкае запясьце. Ня ведаю, што падумала вугорка, але ні яна, ні я Бабе-Язе не адказалі. Агі дастала з валізкі вялікі пачак папяровых насовак, выцерла твар і адну насоўку прапанавала мне. Я таксама прамакнуў лоб і, склаўшы, схаваў паперчыну ў кішэню. Агі зьдзівілася... Нашто хаваць у кішэню выкарыстаную, мокрую й брудную насоўку? Негігіенічна! Я паклаў скамечаную папяровую хустачку ў попелку й ня стаў удакладняць, ці трапляюцца на сьвеце такія вугорцы, што носяць у кішэнях свае соплі й пот. Ад задухі, ад віна, ад блізкай прысутнасьці вельмі жаданай дзяўчыны мяне забраў хмель, і замест весялосьці ды бадзёрасьці агарнула млявасьць. Я ленаваўся нават варочаць языком. Мы выйшлі з бару ў чорны й люстраністы пасьля залевы Ленінград. Агі спыніла таксоўку й пакінула мяне, паабяцаўшы заўтра абавязкова прыйсьці а 12-й да Эрмітажу й чакаць каля мармуровых атлянтаў. А я павалокся на тралейбус, каб даехаць да кінатэатра «Масква» й сказаць мапасанаўскай Пампушцы, што закахаўся зь першага погляду ў вугорскую дзяўчыну Агі Ляхоцкі.

* * *

*Дарагі таварыш Адам! Чаму Вы так доўга не паведамлялі пра сябе?*

*Добры дзень,*

*Гэта зноў я, вугорская дзяўчына, ты яшчэ павінен мяне памятаць. Так? Ну, добра...*

*Маё жыцьцё робіцца з кожным днём усё больш складанае, як ты ведаеш, набліжаецца сэсія зь яе залікамі ды йспытамі. Але шмат працы ня толькі ў мяне, а і ў Дзеда-Мароза. У Вугоршчыне яго называюць Мікулаш. Ї прыходзіць ён 6 сьнежня зь неверагоднай колькасьцю падарункаў.*

*Празь дзьве гадзіны я еду дадому, у Татахозу, каб даведацца, што Мікулаш прынясе мне. Спадзяюся, ён будзе вельмі багаты й вельмі шчодры.*

*Сёньня я атрымала твой ліст і парадавалася — ён прыйшоў ня ў змрочны, а ў сонечны яркі дзень.*

*13 сьнежня ў мяне будзе першы іспыт, здаваць-му гісторыю філязофіі, дзякуй Богу, да Маркса. Як табе падабаецца маё парадаксальнае спалучэньне?*

*У гэтай сэсіі толькі тры йспыты. Другі будзе па граматыцы расейскай мовы. Нарэшце разьбяруся й выбяруся зь нетраў бясконцых правілаў і выключэньняў. Трэці — ангельская літаратура XX стагодзьдзя. Думаю, ты не пакрыўдзісься, калі пачуеш, што расейская, як і ўся савецкая бэлетрыстыка, значна прайграе ангельскай і амэрыканскай літаратуры. На іспытах, вядома, я пра такое адкрыцьцё забудуся сказаць. Вугорская дзяўчына мае права нешта не сказаць? Праўда, таварыш Адам?*

*Калі пашанцуе, і не скажу тое, што думаю, дык 5 студзеня буду вольным чалавекам.*

*Ї яшчэ, зусім забыла табе сказаць, што ў нас будзе вялікае сьвята — Каляды, 24-25*

# Першая кніга пра Ордэн

Генадзь Сагановіч

Аматары гісторыі зьвярнулі ўвагу на кнігу Алеся Краўцэвіча «Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда», выпушчаную летась выдавецтвам «Навука і тэхніка». Балазе тэма, абраная аўтарам, важная, а ў беларускай гістарычнай літаратуры аб Нямецкіму ордэне дасюль нічога асобнага, не кажу ўжо каб добрага, не было. Тым ня менш, мне цяжка пагадзіцца з зусім пахвальнай рэфлексіяй на «Тэўтонскі Ордэн», зьмешчанай у «НН» №3 (1994). Кніга мае сур'ёзныя недахопы — ад няўдалай структуры да фактаграфічных памылак і тэрміналягічнай блытаніны.

Кніга завецца «Тэўтонскі ордэн...», але зьмест яе на дзьве трацінy складае храналягічны аповед пра канфлікты й войны Ордэна з Польшчай ды Вялікім Княствам, а нават пра добра вядомыя падзеі ў беларуска-літоўскім гаспадарстве. Гісторыя самога Ордэна тут — маргінальная.

Успрыманьню тэксту шкодзяць перапады з аднаго ўзроўню выкладаньня на іншы. То аўтар піша звышсьцісла, абагульнена, так, што нават важнейшыя для гісторыі і Беларусі, і Ордэна падзеі, такія, прыкладам, як Крэўская вунія ці Востраўскае пагадненьне, згадваюцца адным-двума сказамі, то раптам пачынае апавядаць пра якога-небудзь «рыцара заганных схільнасьцяў», у якога забралі каня (?), пра спаленьне самбійскага войта, ці апісваць вялікую бамбарду. Паміж асобнымі фрагмэнтамі часам цяжка знайсьці ясную лягічную сувязь.

Шкада, што амаль пра ўсе паходы крыжакоў на Вялікае Княства гаворыцца абстрактна — хадзілі «на Літву». Шкада, бо можна было паказаць канкрэтна, якія этнічна беларускія землі й калі цярпелі ад немцаў, які ўдзел брала беларускае насельніцтва ў барацьбе з Ордэнам. Мне ўяўлялася натуральным, што стасункам Тэўтонскага ордэна да Беларусі аўтар будзе скрозь надаваць асаблівую ўвагу. На жаль, у кнізе нічога няма нават пра першы паход рыцараў на Горадню 1284 г., добра апісаны Дусбургам, як няма й пра знакаміты верасьнёўскі паход «на зямлю Крывічоў» у 1314 г., пра драматычную бітву на Стрэве ў 1348 г. ды пра шмат якія іншыя крыжацкія «рэйзы» непасрэдна на Беларусь. Наагул, паходы абодвух бакоў апісаныя павярхоўна, урыўкава. Бальшыня іх засталася па-за ўвагаю аўтара.

Ня вылучыў аўтар і пэрыядаў барацьбы паміж Ордэнам і Вялікім Княствам, не паказаў яе дынамікі. Хоць ясна, прыкладам, што сярэдзіна й апошняя траціна XIV ст. — перыяды зусім розныя, разьдзеленыя замірэньнем 1377 г., якое практычна й завяршала эпоху крыжовых паходаў.

Шмат у кнізе нявыверaных тэзаў і фактаграфічных памылак. Вядома ж, бітва пры Дурбэ адбылася не ў 1259, а ў 1260 г. У кнізе напісана, што самыя цесныя стасункі Вялікага Княства з Тэўтонскім ордэнам пачаліся ў 80-х гадах XIV ст., на самай жа справе — на стагодзьдзе раней. Гедымін ня быў «забіты пад час аблогі аднаго з крыжацкіх замкаў». Яго найверагодней атруцілі. Пра гэта ўжо амаль дзесяць гадоў пішуць гісторыкі ў Літве, гэта прынялі й нямецкія калегі. Далей аўтар кажа, што пасьля Востраўскай дамовы Ягайла «застаўся толькі польскім каралём», аднак вядома, што ён захаваў «supremum principatum» і над Вялікім Княствам. Вітаўт яшчэ доўга быў проста князем, а калі й стаў поўным уладаром Княства, дык толькі на час свайго жыцьця. Краўцэвіч піша, што «галоўнай і адзінай (?) мэтай сярэднявечных войнаў амаль заўсёды быў захоп якой-небудзь прыгранічнай вобласьці», але канкрэтныя гістарычныя прыклады зусім не пацьвярджаюць гэтага. Наадварот, у пэўныя эпохі і ў пэўных рэгіёнах захоп тэрыторыяў ніяк ня ставіўся на мэце.

Аўтар «нікольк не сумняваецца», што «справядлівасьць у гэтай амаль безупыннай вайне была на баку нашых продкаў». Маўляў, прыхаднямі й захопнікамі былі адно рыцары. Але што такое «справядлівасьць» у войнах сярэднявечча? З лёгікі тэксту выглядае, што аўтар традыцыйна лічыць справядлівымі войны абарончыя. Але, па-першае, барацьба Ордэна зь Вялікім Княствам ня зводзілася адно да паходаў крыжакоў на Літву й Беларусь (ужываю назвы ў сучасным дзяржаўна-тэрытарыяльным значэньні). Было й наадварот. Набегі ж літоўска-беларускага войска ў межы ордэнскіх уладаньняў не дыктаваліся мэтамі абароны сваёй зямлі. Па-другое, аўтар зусім забыўся на галоўную місію Ордэна. Маю на ўвазе *Heidenkampf* — сьвятую барацьбу з паганствам. Для тагачаснай Эўропы найбольшымі ворагамі лічыліся Сарацэны й Літва (у якую трапляла й частка Беларусі). Вайна супраць іх была вайною супраць ворагаў Хрыстовых. Высакароднае рыцарства мела за мэту й гонар паўдзельнічаць у так званых *Litauerreisen*, споўніць свой доўг. Барацьба з паганцамі ўважалася ў хрысьціянскім сьвеце як самая справядлівая. На жаль, аўтар ні словам не абмовіўся пра гэта ў першым разьдзеле кнігі, дзе акурат і апавядаецца пра стварэньне ды лад Ордэна. Затое ў адным месцы піша пра «рэваншысцкія памкненьні крыжакоў»...

Няпраўда, што ўдзельнікі паходаў на Вялікае Княства — «амаль выключна ўсе немцы». Так, яны маглі дамінаваць, але нельга скідваць з рахунку актыўны ўдзел рыцарства ўсёй Эўропы — Ангельшчыны, Багеміі, Вугоршчыны, Галяндыі, Францыі, а нават Польшчы. І зусім ужо сфантазіяваў Краўцэвіч, калі напісаў, што «ваеннае мастацтва беларусаў, якія складалі аснову арміі Вітаўта, знаходзілася на больш высокім узроўні» (паводле кантэксту — чым у рыцараў Ордэна).

Недакладнасьць і нявызначанасьць часта спатыкаюцца ў тэрміналёгіі й фактуры. Даўнюю праблему стасаваньня назову «Літва» аўтар хацеў вырашыць простай агаворкай, што Літва — гэта дзяржава Вялікае Княства Літоўскае, а літоўцы — «назва жыхароў гістарычнай вобласьці "Літва" ў Верхнім Панямоньні...». Да апошняга вызначэньня адразу просяцца пытаньні: А як жа з астатнім Нёмнам? Як з басэйнам Дзьвіны? Ды на гэта можна было б не зважаць, калі б далей усё было пасьлядоўна. Але далей спатыкаюцца і «летувісы», і русіны, і беларусы, і ўкраінцы. Прыкладам, пры апісаньні бітвы пад Дуброўнаю напісана, што адступілі «літоўскія аддзелы», і тут жа гутарка йдзе пра беларусаў і ўкраінцаў, што іх складалі.

Аўтар чамусьці аддаў перавагу нямецкаму *Hochmeister* замест старабеларускага, даўно адаптаванага адпаведніка «вялікі магістар», але кірыліцай скрозь піша яго памылкова, як «хохмайстар», хоць па-беларуску трэба «гохмайстар». Побач з назвай Прусія ўжывае чыста польскую форму «Прусы», але для Караляўца стасуе нямецкі назоў «Кёнігзбэрг». Хоць сталіцу Ордэна называе ўжо па-беларуску Мальбаркам, а не па-нямецку «Марыенбург»...

Не выпадае пакінуць па-за ўвагай і сьпіс асноўных працаў, выкарыстаных аўтарам. Надта ж ён бедны. Ёсьць тут і крыніцы, але толькі дзьве — кронікі Яна Длугаша й Віганда Марбурскага. Ня ведаю, чаму за аснову браліся менавіта яны, а не, прыкладам, больш падрабязная кроніка Дусбурга (а не Дзюсбурга, як піша аўтар), Ерошына, Посільге ці іншых. Яшчэ большая загадка — крытэрыі, якімі карыстаўся аўтар пры падборы працаў для напісаньня сваёй кнігі.

Гісторыяграфія Тэўтонскага ордэна — асобная, нават магістральная галіна нямецкай гістарычнай навукі. Толькі па крыніцах ў апошнія гады там выйшлі дзясяткі тамоў. І сёньня ўжо нельга карыстацца малавартаснымі ды даўно састарэлымі працамі Ёлера ці Рагальскага, нават ня згадваючы прызнаных у Эўропе буйнейшых спэцыялістаў у галіне гісторыі Ордэна, такіх, прыкладам, як Гартмут Бокман, Вэрнэр Паравічыні, Мар'ян Біскуп ці Свэн Экдаль. Менавіта апошні яшчэ на пачатку 1960-х гадоў знайшоў у Сакрэтным архіве прускае спадчыны ў Гётынгене ананімны ліст да вялікага магістра, які й прывёў да перагляду ролі Вітаўта ў бітве і адступленьня яго войска на полі пад Дуброўнаю. На Захадзе пішуць пра гэта ўжо гадоў дваццаць. А з тэксту кнігі выглядае, што згаданая рэвізія — здагадка аўтара. Ён цьмяна гаворыць пра нейкі быццам нядаўна знойдзены дакумэнт, які, маўляў, і «пацьвярджае нашу (?!) думку аб адступленьні як арганізаваным манэўры»...

Затое Алесь Краўцэвіч бярэ за аснову тэндэнцыйную, даўно скрытыкаваную й немцамі, і літоўцамі, дый самымі палякамі кнігу Кучынскага, а сярод скарыстанай ім літаратуры — аўтарэфэрат дысэртацыі Мечысловаса Ючаса, абароненай тым яшчэ ў 1956 г., але няма новай, некалькі разоў выдадзенай клясычнай манаграфіі таго ж гісторыка, прысьвечанай непасрэдна бітве пад Дуброўнаю? Веданьне гісторыяграфіі — абавязковая перадумова напісаньня кожнай такой кнігі.

---

*сьнежня. У нас Каляды лічацца большым сьвятам за Новы год. На Каляды, як і на Вялікдзень, зьбіраецца ўся сям'я, і кожны дорыць падарункі ўсім астатнім. Уяві сабе, колькі зьяўляецца розных падарункаў на сьвяточным стале.*

*Мне хочацца напісаць табе шмат усяго рознага, толькі няма часу. Я й рэчы не спакавала, і трэба зьбегаць у душ. Як толькі зьбіраюся некуды ехаць, дык у мяне пачынаюцца клопаты. Так што ў душ я павінна патрапіць абавязкова.*

*Прабач, мой мілы таварыш, я болей не пішу. Жадаю табе весялосьці!*

*Да пабачэньня!*

*P.S. Засталося меней за дзевяць месяцаў да нашай сустрэчы! Дачакаемся?*

*Сэгед. 1976. Сьнежань. 4.*

*Агі.*

* * *

Уночы я амаль ня спаў, ляжаў на рыпучым фатэлі й думаў пра Агі. Успароўся недзе а 6-й і пешкі прыйшоў да чорных атлянтаў. Цяжка ўспамінаць пра тыя чатыры гадзіны, што давялося перачакаць каля бліскучых, як бітумная смала, асілкаў. Я ж нават гаварыў зь імі, казаў, што гэта глупства — каханьне зь першага погляду, я ў любы момант магу ўзяць і сыйсьці. Адыходзіўся на сто крокаў і вяртаўся. Выслухоўваў кпіны чарнатварых, як шахцёры, атлянтаў і знoўку адыходзіў на сто крокаў. Я быў упэўнены на сто працэнтаў, што Агі прыйдзе, што яна не забылася й не пераблытае месца й час, што Агата абавязана прыйсьці. А ў галаве тоўпіліся дурныя пытаньні... А хто яна такая? І чаму яна павінна прыходзіць на сустрэчу са мной? Ці мала хто каму што абяцае? Вось і я абяцаў Валодзі Бортніку, што разам пойдзем у Эрмітаж. І не пайшоў. Дарэчы, можна пайсьці ў Эрмітаж, падняцца на трэці паверх і паглядзець на «Трох жанчын» Пабла Пікаса, на іхнія драўляныя афрыканскія цыцкі й похвы, на загарэлыя рукі й вострыя локці. Можна ўважліва паразглядаць ружованосых прасталытак, намаляваных жалезнай рукою Жоржа Руо. А можна апусьціцца на другі паверх у залю Рэмбранта ван Рэйна й пастаяць каля цялеснага цеста, зь якога вялікі галяндзец вылепіў Данаю. Можна... А мусіць, нельга было. Я нікуды ня йшоў. Чакаў! Я быў навязаны ланцугом каханьня зь першага погляду. Дачакаўся! І... Мігдаловы горкі пах... Праўда, крышачку пазьней я пачуў водар духоў, бо заўважыў — пад майкаю няма станіка. Вострыя грудзі ўздрыгвалі, клікалі, вабілі. Эрэкцыя не заўсёды дарэчы. Давялося прыкрывацца тэчкаю з аркушамі для накідаў. Хоць у чымсьці мастакоўскія прылады ў той дзень па-сапраўднаму прыдаліся. Распусная гіпотэза яшчэ болей напоўніла плоцьцю мае клятчатыя, гарчычнага колеру нагавіцы... А што ў яе там, пад джутаваю спадніцаю? Калі няма станіка, дык і майткаў можа ня быць... Майткі былі чырвоныя, карункавыя, паўпразрыстыя. Але пра іх я даведаўся не каля Эрмітажу, а ў Пецяргофе. На ленінградзкіх вуліцах са сваёй, хай і прыхаванай эрэкцыяй я пачуваўся няўтульна, таму даводзілася зварочваць у сквэрыкі й бязьлюдныя завулкі. Самі таго не плянуючы, мы апынуліся на ўзьбярэжжы Нявы каля белага кацера, які запрашальна пагойдваўся на брудных зеленкаватых хвалях. Хто жадае зьдзейсьніць падарожжа ў казачны горад Пецяргоф, ласкава запрашаем на наш кацер на падводных крылах!.. Нешта падобнае выкрыкваў праз срабрысты мэгафон даўгалыгі хлапчына ў белай апагоненай кашулі й чорнай абкукарджанай фуражцы. Я хацеў, жадаў і прагнуў, але ня ў горад-казку, не да палацаў і фантанаў; я думаў, як знайсьці зусім ціхае й бязьлюднае месца, дзе ня будзе гнюсных, цікаўных і прагных вачэй. Я быў упэўнены, што у Пецяргофе болей дрэваў і кустоў, чым у Ленінградзе. І мяне паклікалі шаты, хмызы й кусты, да якіх нас павёз вуркатлівы кацер на падводных крылах. Я сьціскаў вузенькую прахалодную далонь Агі ў сваёй гарачай ад жаданьня руцэ. І раптам яе далонь вырвалася, так вырываецца з кацiных кіпцяў птушка — рэзка і ўгору. Агіна рука ўзьляцела й затрапяталася ў пругкім і сінім паветры. Як усё ж такі добра, калі жанчына даглядае сябе і пад мышкаю няма потнай барады. Агі вітала сустрэчны кацер. Яе шчырасьць і непасрэднасьць змусілі мяне засаромецца. З сустрэчнага кацера адказалі ўзмахам загарэлых рук два мужчыны ў чорных акулярах. Ёсьць нешта садысцкае, калі мужчына чапляе на нос чорныя акуляры. Мне зрабілася непрыемна ад рамантычных парываў, бо ніколі не разумеў і не прыймаў шчырасьць у такіх спантанных прывітаньнях. Зрабілася прыкра.

* * *

— Чаму ў вас такія невясёлыя людзі? У расейцаў... Даруй! У славян такія выразы на тварах, быццам яны жуюць шкло?

Ад пытаньняў вугоркі мой рот напоўніўся горкаю сьлінаю, давялося адвярнуцца й выплюнуць уяўнае шкло за борт.

— Усходнія славяне ўсьміхаюцца выключна на вайсковых парадах. Гэта наша агульная рыса з расейцамі і ўкраінцамі. Зрэшты, усе людзі пакутуюць ад радзінных і прарадзінных сувязяў і ад уласнай крыві, бо яна занадта чырвоная й густая.

— А-да-мс, ня злуйся. Я не хацела цябе пакрыўдзіць.

— Хіба ж можна крыўдаваць на дзяўчыну, а тым больш на дзяўчыну з паняволенай краіны?

— Ты думаеш, мы, вугорцы, адчуваем сябе гаротнымі нявольнікамі ў сацыялістычным лягеры?

— Упэўнены, сто разоў упэўнены.

— Але й ты не расеец у дзяржаве СССР, дзе ўсім валодаюць толькі расейцы.

— Сапраўды, так яно й ёсьць, я не расеец, але ў мяне й цябе ёсьць шанец, ёсьць час, каб стаць амэрыканцамі! Час, каб навучыцца гаварыць па-амэрыканску. Час, каб навучыцца жыць па-амэрыканску. Час, каб навучыцца кахаць па-амэрыканску.

— А ты ведаеш, як трэба любіць па-амэрыканску?

— Вядома... Прывітаньне, прыгажуня. Заскоквай у маю шыкоўную машыну. Мы паляцім з хуткасьцю ракеты. О, які ты спрытны хлопчык! А ці знойдзецца ў тваім шыкоўным партманэ хоць бы адзін пакамечаны даляр? Цэлых сто, прыгажуня, цэлых сто доляраў, і ўсе яны будуць твае. Сто доляраў. Чмок. Рукі. Ногі. Апранахі. Ногі. Сьцёгны. Клубы. Рукі. Чмок! Пальцы. Грудзі. Вусны. Пальцы. Чэлес. Похва. Лабок. Пуп. Ах! Стогны. Кроплі. Вяласьць. Ву-у-ух. Бывай, прыгажуня. А сто доляраў? Вось яны! Дзякуй! І за ўсё пра ўсё — тры хвіліны. Амэрыка, ЗША — краіна найвялікшых магчымасьцяў. Амэрыка, ЗША — краіна найвялікшых хуткасьцяў, таму большасьць амэрыканскіх мужчын не пасьпяваюць расшпіліць нагавіцы, і найкаштоўнейшае амэрыканскае насеньне выліваецца ў найдаражэйшыя амэрыканскія абзораныя панталёны. Ты ня верыш? Агі, я бачу — ты ня верыш мне ні на грош, ні на

*Працяг на старонцы 8*

# «Дарагі мой сябра Адам...»

*Працяг са старонкі 7*

талер, ні на цэнт. Дарэчы, якая валюта ў Вугоршчыне?

— Форынт!

— Значыць, Агі, ты ня верыш на цэлы вялікі вугорскі форынт!

— Адам, я табе не паверыла на цэлы вялікі, жалезны рубель! І ведаеш, чаму?

— І чаму ж ты ня верыш мне?

— А таму, што я перакладаю ня толькі з расейскай, але й з ангельскай мовы. Ты, пэўна, забыўся на такую дробненькую акалічнасьць.

— Не! Я не забыўся, Агі. Я знарок рыхтаваў пастку, знарок выкопваў яміну. І ты ўвалілася ў яе, Агі. Ты ж ніколі не задумвалася над тым, чаму ніхто ніколі не казаў, што ангельскі й амэрыканскі народы — браты, бо яны гавораць на вельмі-вельмі падобнай мове. І сапраўды, нашто вугорскай дзяўчыне, таварышу Агаце Ляхоцкі задумвацца над такімі дробязямі. А я ўвесь час пра гэта думаю, я толькі й думаю што пра гэта, пра ўсё астатняе й думаць не магу. Я — савецкі хлопец, звышчалавек, які скорыць і паставіць на калені ўвесь сьвет. Я павінен задумвацца... Хто ёсьць хто? Хто ёсьць брат? Вось у чым пытаньне. Хто як кахаецца? Хто як любіць?..

— А ты ведаеш, Адаме, як кахаюцца ангельцы?

— Ведаю! Я ж і казаў, што толькі й думаю пра тое, як мілуюцца англа-саксы. Яны раманяцца й маркітуюцца зусім ня так, як рудыя ірляндцы з русявымі шатляндцамі. Ангельцы кахаюцца так... Калі ласка, сэр! Мгы. Вам спадабаецца, сэр! Я вам гарантую, сэр! Вось так, сэр! Крышачку сюды, сэр! Крышку, сэр! Сэр! Сэр! Сэр! Сэр! О-о-о, сэр! Дзякуй, сэр! Яшчэ раз дзякуй, сэр! Мгы. Заходзьце, сэр! Калі ласка, сэр!

— А табе не здаецца, што атрымаўся акт ангельца зь ірляндцам?

— Не. Зь ірляндцам зусім ня так. Можа, з валійцам?! І ўсё з-за таго, што я гаварыў выключна мужчынскім голасам, а трэба было й жаночым.

— А беларусы?

— Пазьней. На кацеры не атрымаецца. Мы не марская нацыя. Беларусы любяць пэўнасьць, зямлю, плоскасьць, трываласьць. А што любяць мадзьяры?

— Ня ведаю, што любяць вугорцы, я магу паказаць, як гэта любіць Агата Ляхоцкі. Ты расчараваны? Дарма. У цябе яшчэ ёсьць час. Час, каб зьведаць, як кахаюць вугорцы, сэрбы, туркі. Час, каб шчыра адказаць вугорскай дзяўчыне... Адам, у цябе было шмат жанчын?

— У Ленінградзе ніводнай. Я вельмі сьціплы й сарамлівы. Я ледзь не самлеў, калі знаёміўся з табою. Але калі сур'ёзна... Клянуся сваімі прашчурамі, у мяне была толькі адна жанчына — мая стрыечная прапрабабка. Ёй споўнілася якраз сто адзінаццаць гадоў, найкруглейшы юбілей — 111. А ў якасьці падарунка яна запатрабавала мяне. Між намі была роўненькая стогадовая адлегласьць. Адмовіцца я ня змог, бо ў беларусаў такі звычай — любіцца з прапрабабкамі й прапрадзедамі. У нас найвялікшае сьвята так і называецца — Дзяды. А калі б я адмовіўся, дык мяне зарэзаў бы родны стрыечны брат. Спачатку, пасьля адмаўленьня, я выпіў бы шклянку настоенай на дубовай кары гарэлкі й заснуў бы, а брат перарэзаў бы маё дзіцячае горла сьвяшчэнным нажом. Што можа быць лепей за ціхую сьмерць у сьне?

— Які жах, Адаме!..

— І мая свабодная душа вылецела б празь перарэзанае горла й ціха ўзьнялася над справядлівым сьветам.

* * *

*Дарагі Адам!*

*Напэўна, ты й не здагадваесься, чаму пішу. Ды як жа ты здагадаесься пра мае далёкія вугорскія жаданьні? Страшэнна хочацца ўбачыць цябе — майго дарога сябра і ... прыхільніка. Мне страшна. Я страціла ўсялякі спакой. Увесь час мроіцца пачварныя здарэньні, быццам трапляю ў недароблены й недааформлены сьвет, дзе ёсьць істоты, і яны робяць спробы гаварыць, нешта мне даводзіць. Я чую гучныя галасы, гэта ўжо ня крык жывёлы, але яшчэ ня словы разумнай істоты. Даводзіцца страшэнна высільвацца, напружвацца, каб зразумець іх. Толькі паразуменьня не адбываецца. І застаюся адна пасярод аглушальнай какафоніі й формаў недаробленых Богам. І пераконваюся: нікому я непатрэбная. Прабач.*

*Я вельмі старанна, па-нямецку, займаюся й працую, я болей і болей даведваюся пра сьвет, а сяброў і знаёмых у мяне ўсё меней і меней. Ты не ўяўляеш Адам, як цяжка такое ўсьведамляць, седзячы ў інтэрнацкім пакойчыку. Складаецца зачараванае кола: ад самоты ратуе праца, але чым болей я працую, тым больш раблюся адзінокай.*

*Вельмі хацелася стаць перакладчыцай, але імпульсыўнасьць і неўраўнаважанасьць робяць зь мяне істэрычную асобу, якой лепей не працаваць зь людзьмі.*

*Адам, вельмі не хацелася цябе пакрыўдзіць, але мушу сказаць... Я пазнаёмілася з хлопцам, які па-сапраўднаму спадабаўся мне. Я не кахаю й не люблю яго. Наогул, знаходжуся ў такім стане, што ня здатная закахацца. І ня буду называць ягонае імя, бо не хачу, каб вугорскае імя выклікала цень рэўнасьці. Мой новы знаёмы жыве на самай поўначы, а я на поўдні, таму сустрэчы будуць нячастыя. Ня ведаю, ці атрымаецца што вартае з нашых пачуцьцяў. Мусіць, не.*

*Як было б добра, каб мы зноў сустрэліся ў Рускім музэі, зноў пайшлі ў бар, зноў пілі віно...*

*Хопіць, выкідаю сум на сьметнік; а то, крый Бог, ты падумаеш, што я цэлымі днямі хаджу па вуліцах Сэгеда сумная й злосная, як вакзальная прасталытка.*

*Цяпер я чытаю Леаніда Андрэева, і ўяві сабе, па-расейску! У мяне вялікая да цябе просьба: калі ты зможаш набыць зборнік апавяданьняў Андрэева, дык, калі ласка, дашлі ў Сэгед, бо ў нас зусім няма ягоных кніжак; на ўвесь унівэрсытэт толькі дзьве, адна ў бібліятэцы, а другая ў выкладчыка, сквапнага й нахабнага чалавечка.*

*Каб ты пераканаўся, што мой настрой крышачку палепшыўся, укладаю ў капэрту маленькую хустачку зь вясёлаю вышыўкаю. Вышывала я сама. Як яна табе? Зразумела, тыповы вугорскі народны матыў. А што магла вышыць дзяўчына зь вёскі Татахоза? Калі хоць крышачку спадабалася вышыўка, дык пакладзі яе ў сваю нагрудную кішэню.*

*Бывай.*

*Сэгед. 1976. Кастрычнік. 4.*

*P.S. А гэта, Адам, — наш вугорскі чорт! Мы заўсёды так яго малюем: доўгі, як у цябе, твар; лупатыя вочы; густыя, як у цябе, бровы; высалаплены язык; вострыя вушы; бычыны хвост; капыты; вілы ў руках — Чорт! Можаш сказаць яму што заўгодна, толькі не кажы: «Чорт, забяры маю душу!». Бо прыйдзе, разьдзярэ віламі грудзі й забярэ бесьсьмяротную душу. Я крышачку навучыла яго беларускай і расейскай мовам, але кепска, ён, мусіць, дэбільнаваты. Але прызнайся, Адаме, ты ж спалохаўся чорта, калі адкрыў капэрту?*

*P.P.S. Прабач, што не прыйшла ў Ленінградзе на вакзал.*

*Агі.*

* * *

Прыемна пасьля няпэўнай палубы ступіць на трывалую і ўпэўненую зямлю. Штошто, а разнастайныя фантаны Пецяргофу мяне зусім не цікавілі, бо магнітам цягнула да Агі, да ёмістых грудзей, схаваных пад белую баваўняную майку. А вось Агату Ляхоцкі вабілі фантаны. Можа, ёй бачыўся ў водапусканьні іншы, больш складаны працэс. Колькі ж розных вадаспадаў, струмянёў, плыняў, ручаін, стаўкоў, кропель і пырскаў ляжала, цякло, біла, стаяла, цурчэла, плёхала, зіхцела, сьвяцілася, пералівалася на пакручастым шляху да жаданых, пажадных, нахабных (хай!), распусных (і што?) абдымкаў. Вада ляцела з разадранае пашчы нібыта залатога ільва, узьлятала з доўгіх лебядзіных дзюбаў, пырскала з прыхаваных у камяні трубаў, выплёскавалася з разяўленых да самых сьцёгнаў жабак, высіквалася з дробненькіх анёльскіх стручкоў. І гэтае водапусканьне нагадвала мне толькі сікунапусканьне, а ня акт пладатварэньня. Я сумаваў, а вось Агі паводзіла сябе, як сапраўдная экскурсантка: адной рукой абдымала маю талію ў той час, як наманікюраныя, але не пакрытыя лякам пальцы другой рукі пырхалі ў паветры, паказваючы чарговы, адноўлены дасьціпнымі рэстаўратарамі, найзіхцейшы цуд садова-паркавага штукарства. Больш за гадзіну мы прабадзяліся сярод мармуру, золата й зеляніны. Я мог яшчэ столькі ж прашвэндацца, бо ведаў, адчуваў усімі рэбрамі й хрыбетнікам, што з Агі я даведаюся, як любяцца вугорцы, і хай сабе ня ўсе мадзьяры, а толькі адна спадарыня Ляхоцкі, я не Геракл, які мог задаволіць трыццаць цнатлівых дзяўчат. Зрэшты, каб задаволіць цнатлівых, ёсьць толькі адзін шлях — пакінуць іх у цноце. Пятляючы, спыняючыся, кружляючы, затрымліваючыся, мы нарэшце вярнуліся на прычал. А куды цяпер? Ніколі такое просьценькае пытаньне не бянтэжыла мяне, а тут раптам проста прыбіла. І сапраўды... Куды? Як той Бурыданаў мул... Не асёл, а мул.... Каб у Бурыдана быў асёл, ён пайшоў бы да бліжэйшай асьліхі, а ня стаў бы паміж стажкамі сена, ня ведаючы, які зьесьці. Як і мул, я ня ведаў, ці ўправа, ці ўлева весьці сваю Ляхоцкі. Пайшоў управа толькі таму, што левай трымаў мадзьярку. Мы йшлі ўздоўж заліва й маўчалі, баяліся словамі спудзіць нявымаўленую згоду. Мора адыйшло, адліў пакінуў вялікія круглыя плыткія лужыны; на жорсткім пяску яны выглядалі, як адпаліраваныя сталёвыя дыскі. На пляжы бадзяліся незадзейнічаныя ў экскурсійным працэсе, а таму злыя, адпачыньнікі. Як я, на той момант, ненавідзеў гэтых самотных жывёлін, што цікаўна й лісьліва, і неяк сьлінява зіркалі ў наш бок. Ня ведаю, бо ня мог жа я бачыць, што было намалявана на маім ілбе, але на твары Агі яскрава праступалі словы — зараз буду кахацца. Ня стану спрачацца, што менавіта такімі словамі выказвалася жаданьне, але сэнс не сказіў ні на кроплю, ні на пырск, ні на грам. І тут Агі спынілася. Як? Не разумею! Што, што здарылася? Яе зусім нармальнае й цывілізаванае спыненьне шпурнула мяне ў паніку. Мне трэба ў прыбіральню, тэрмінова! Тлумачэньне супакоіла мяне. Аказваецца, вельмі лёгка вывесьці з раўнавагі закаханага чалавека. Часам дастаткова спыніцца на пустым пляжы. А пляж быў пусты роўна настолькі, каб мець права называцца пустым і трымаць на сваім пляскатым целе столькі чалавекаабрысных істотаў, каб ніхто ня мог займацца інтымнасьцямі. А прыбіральні не было. Яна стаяла недзе там — за хмызамі, за соснамі, за елкамі, але мы яе ня бачылі. Агі задаволіў карункавы чэзлы алешнік. Праз галінныя перапляценьні я падгледзеў, як мадзьярка, падабраўшы джутавую спадніцу, апусьцілася на кукішкі. Ад напругі, зь якой я дамысьліваў бачанае, у мяне ўвушшу зашархацеў уяўны струмень. Заўсёды дзівіўся: жанчыны ўдвая даўжэй абыходзяцца без прыбіральні і ўтрая хутчэй спраўляюцца з патрэбамі. Агі ўжо прагульвалася басанож на пляжнаму пяску, а я ўсё яшчэ вытрасаў бурштынавыя кроплі. Агульны паход па неадкладных патрэбах зусім натуральна адсунуў юрлівыя памкненьні. І сапраўды, займацца сэксам з перапоўненымі пульхірамі й ныркамі, а пра кішэчнік і казаць няма чаго — справа нецывілізаваная. Такая выснова наведала мяне ў той момант, калі я зашпіляў прарэху ў гарчычных і клятчастых нагавіцах.

* * *

*Дарагі Адам!*

*Вельмі ўзрадавалася твайму лісту. Думала, ты ўжо болей ня будзеш пісаць мне. Можна сказаць, я крышачку спалохалася, але цяпер пярэпалах цалкам прайшоў. Я вярнулася ў нармальны й крышку мінорны стан.*

*Твой маленькі фотаапарат (?) мяне зачараваў, ён па-сапраўднаму прыгожы і чымсьці пераўзыходзіць арыгінал. Я прыкнопіла фота да шпалераў у сваім інтэрнацкім пакоі, каб усе пыталіся... А хто гэты прыгожы малады чалавек? Шкада, што яшчэ ніхто не пасьпеў задаць гэтае пытаньне, таму й ня ведаю адказу.*

*Заняткі пачаліся 14 верасьня, і за першы тыдзень я шмат зрабіла: аднавіла забытае й паўзабытае за вакацыі. Асабліва лёгка, як ты разумееш, аднаўлялася расейская мова.*

*На самым пачатку верасьня я зьезьдзіла ў Польшчу. З Варшавы дасылала табе паштоўку. Напішы, ці прыйшла? Я хацела выслаць кружэлку, але забаялася, бо яна можа згубіцца. І я падумала, што лепей сама перадам яе праз паўтара гады ў Маскве. Мы ж сустрэнемся. І я падару табе «Вугорскую народную музыку ў выкананьні маладых музыкантаў».*

*Летась, у красавіку, з мной здарылася вельмі прыкрая дэпрэсія. Раней я думаць ня думала, што мэлянхалічны стан вельмі заразны. Вось аднаму чалавеку нічога ня трэба, а празь які дзень і другому сьвет здаецца нікчэмны й ня варты нават кволых рэагаваньняў і пачуцьцяў. Вірус санлівасьці й безвыходнасьці распаўсюджваецца з хуткасьцю пойймы. Самыя вясёлыя й жыцьцяздольныя марнеюць і вянуць проста на вачах. А мая пасыўнасьць пачалася зь нязначнага выпадку. У суседнім пакоі жыла аднакурсьніца, якой зрабілася кепска — усё навокал пачало раздражняць яе, злаваць. Яе ўганяла ў вар'яцтва нават патрэскваньне бульбы на паніве. Яна зьвярнулася да лекара й распавяла пра хваравіты стан, пра нястрыманасьць і раздражнёнасьць. Уяўляеш, сваўму каханку абварыла кіпенем сьпіну. Ён сказаў ёй, што трэба абмяжоўваць сябе ў курэньні тытуню, а яна зазлавала й выліла палову імбрыка яму на плечы. Добра, што на ім была джутавая куртка й цёплая кашуля, і ўсё абыйшлося.*





*А вось яе доктар накіраваў у спэцыяльную клініку, каб там уважліва паглядзелі. Я пачала хвалявацца спачатку за яе, а потым за сябе. У нашым унівэрсытэце быў выпадак, калі дактары забаранілі студэнту наведваць лекцыі, а потым зусім прымусілі пакінуць факультэт. Жах! Лепш не гаварыць пра такія рэчы.*

*Буду вельмі радая, калі атрымаю ад цябе кнігі. Калі надарыцца магчымасьць, абавязкова дашлі мне невялічкі беларуска-расейскі ці беларуска-ангельскі слоўнік.*

*Да сустрэчы.*

*Татахоза. 1976. Верасень. 25.*

*Агі Ляхоцкі.*

*P.S. Па радыё чула песьню, якая ёсьць на кружэлцы «Песьняроў», якую ты падараваў у Ленінградзе. Па вугорскім радыё, вядома, Я заплакала.*

* * *

Зашпіліўшы прарэху, я адчуў голад. Захацелася есьці па-сапраўднаму, да вуркатаньня ў вантробах, да ванітнага падсмоктваньня ў падстраўнікавай залозе. І згадалася крышку натуралістычная прыказка цёткі Тосі, у якой я спыніўся ў Ленінградзе... Што, Адаме, кішкі марша граюць? Прапанову папалуднаваць Агі прыняла як вельмі лягічную, і дзякуй Богу, бо я тады яшчэ не навучыўся настойваць. Але хто, калі й як зробіць у Ленінградзе—Піцеры—Санкт-Пецярбургу нармальныя ўмовы харчаваньня? Ня ведаю. І ўпэўнены, што над сталамі расейскіх імпэратараў ня лёталі сінія зграі злосных і дзынклівых мух. Як жа я не люблю сытуацыі, калі лёгкі ветрык прыносіць водары з прыбіральні да стала, за якім зьбіраесься папалуднаваць. У прапакошчаным дашчаным будане, глядзячы ў пустыя вочы раздатчыцы, я замовіў сырнікі са сьмятанаю. Дзе й калі пачуў, што сьмятана станоўча ўзьдзейнічае на патэнцыю, чорт яго ведае, але на ўсялякі выпадак замовіў да сырнікаў шклянку пракіслага, пэўна ж разьведзенага кефірам, прадукту. Калі зробіш заказ у расейскай кавярні, ніколі не здагадаесься, што атрымаеш у талерку. Гэта цікава, гэта й інтрыгуе, трымае ў напружаньні, не дае распускацца. Яшчэ гавораць, кефір уплывае на страўленьне цалкам станоўча. А на мой страўнік кефір узьдзейнічае занадта актыўна, і можна трапіць у несамавітае становішча. Мы папалуднавалі, і настрой наш рэзка палепшыўся, не раўнуючы як у герояў кінастужак самага пачатку XX стагодзьдзя. Мы вярнуліся на пляж, і тут я згадаў — пад маімі нагавіцамі нічога, акрамя дадзенага негаваркой прыродаю. А мне якраз закарцела пакупацца. Захацелася даць нырца да млосьці, да дробных ігольчатых дрыжыкаў у сэрцы. І я купаўся голы! А што? Маё сьпярша сарамлівае цела бегла да плыткіх калюжын — прыліў так і не пачаўся — у сагнутай крукаабрыснай паставе. Мусіць, збоку я нагадваў аўстралапітэка на рыбным паляваньні. Я ляцеў па цёплых, як парное казінае малако, лужынах, пакуль не праваліўся й не расьцягнуўся ў стаўку, амаль азярцы, дзе вады было акурат па мой пуп. Агі, усьцягнуўшы спадніцу пад самыя грудзі, ішла сьледам і несла мае апранахі. Я не ўгаварыў яе купацца. Нявара настойваць на неабавязковым. Больш важным было адкрыцьцё: у Агі колер майткаў супадае з колерам шкарпэтак. Я не пытаўся, ці ўсе вугорцы носяць шкарпэткі пад колер майткаў. А не цікавіўся, бо баяўся пытаньня... А беларусы зусім ня ведаюць бялізны. Мы, беларусы, ведаем нават плаўкі. Мы ведаем споднюю, хай сабе й носім пот і смаркачы ў хустачках у кішэнях. Я, зразумела, не залічваю сябе да так званых лепшых сыноў нацыі, а таму паводле маіх паводзінаў нельга меркаваць пра ўвесь мой народ-пакутнік. Беларусы — пакутнікі. Яны заўсёды пакутавалі па розных цёмных кутках, і яшчэ яны пакутуюць на палітычную імпатэнцыю. А я вось, лежачы ў цёплай вадзе Фінскага заліву, зусім і ня мучыўся ад неўставаньня й таму ляжаў на жываце. А вось Агі стаяла на каварным, як усё вугра-фінскае, пяску, які марудна зацягваў у свае пракаветныя нетры яе загарэлыя ногі. У Агі... Абавязкова скажу пра ногі. Чамусьці напрыканцы XX стагодзьдзя большасьць чалавецтва лічыць, нібыта прыгажосьць дзяўчыны вымяраецца даўжынёй яе ніжніх канечнасьцяў. А пра кітайскую частку чалавецтва лепш і ня згадваць, бо гішпанская інквізыцыя зь яе знакамітымі ботамі не выробляла таго з нагамі дзяўчат, што рабілі зь імі вузкавокія шанавальнікі Канфуцыя. Ну й густы! Ну і ўмоўнасьці! Мне сорамна за чалавечы род. Таму, не саромеючыся напішу: у Агі былі крываватыя голені, шырокія сьцёгны й танюткія шчыкалаткі. А яе ступакі былі вузкія з доўгімі пальчыкамі, на якіх ружавелі дагледжаныя пазногці; вось іх лёгка й хутка засмоктваў вільготны й прахалодны пясок. Каб маю мадзьярку не праглынуў Фінскі заліў, давялося сабраць у кулак усю сваю мужнасьць і паўстаць з плыткай вады. О!... Выляцела з Агі зьдзіўленьне. Перакананы, я не спалохаў яе, бо не вызначаюся ні шырынёю, ні даўжынёю, ні таўшчынёю ў тых самых месцах, што да пэўных імгненьняў мужчыны прыхоўваюць ад жанчын. Я ўсё ж вырашыў, што імгненьне раскрыцца не надыйшло, і ўзяў Агі на рукі. З Агі на руках я падумаў, што сапраўдную адзіноту можа адчуць толькі аголены чалавек.

* * *

*Прывітаньне, Адам.*

*Даўно не атрымлівала тваіх лістоў, дый сама даўно не пісала. Ліставаньне згасае. Сумна. Раней ты пісаў мне штодня, я вымала са скрыні па тры-чатыры лісты.*

*Я перачытвала іх, я плакала...*

*У мяне шмат-шмат розных спраў, бо лепшая мая сяброўка, Эржэбэт, выходзіць замуж. Заўтра вясельле. А я ні на хвіліну не магу яе ўявіць, як сапраўдную сур'ёзную жонку. Яна невысокая (148 сантымэтраў), а выглядае й зусім як дзяўчо. Яе муж таксама зусім-зусім маленечкі. Атрымалася лялечная пара.*

*Даруй, Адаме, але ні ўчора, ні пазаўчора я не змагла скончыць ліст.*

*Пазаўчора мяне паклікалі дапамагчы пячы вясельны торт, і я правалэндалася зь ім ледзь не да самае раніцы.*

*Мая сяброўка Эржэбэт была непараўнальна прыгожая ў белай вясельнай сукенцы. На жаль, ішоў дождж, і ёй давялося цэлы дзень прасядзець ці ў машыне, ці ў доме.*

*Гасьцей прыйшло мноства, і ўсе былі сапраўды вясёлыя, нягледзячы на холад і вецер. Нас добра падвясельвалі прыстойны ансамбаль і чырвонае віно.*

*Самое вясельле гулялася ў Культурным доме. У вялікай залі, а 8-ай вечара пачалася ўрачыстая вячэра, пасьля якой мы танчылі. А ў гадзіну начы за грошы танцавала новая жонка. Я таксама выклала сто форынтаў. Пад раніцу, калі ўжо разьвіднела, мае бацькі паехалі на аўтобусе дамоў, а я з братам засталася. Чалавек дваццаць пяць разам з ансамблем праводзілі маладых. Каля дому новай жонкі мы танчылі й пілі палінку — вугорскую гарэлку. Маладыя танцавалі на стале. Яны паабяцалі яшчэ на ўрачыстай вячэры, што абавязкова патанчаць на стале. Яны былі такія акуратныя, што нагадвалі завадныя лялькі, асабліва новы муж у чорным круглым капялюшыку з вузенькімі палямі. І ў гэты момант, на адно імгненьне, мне зрабілася сумна. З дому новай жонкі Эржэбэт мы пайшлі дадому новага мужа, Ласла, дзе зноў пілася палінка й ладзіліся скокі на стале, але ня вельмі акуратныя, а таму й ня сумныя.*

*Калі вярталася зь вясельля, падумала, што чалавек вельмі адзінокі ў сваёй сутнасьці. Толькі зрэдку знаходзіцца ці хутчэй сустракаецца нехта іншы, хто не раздражняе і здаецца разумнейшым за цябе. Падобнае адбываецца ў творчасьці. Ты доўга шукаеш гармонію й толькі аднойчы адчуваеш: твая йстота знаходзіцца ў суладзьдзі са сьветам, гармонія склалася. Ты ледзь-ледзь пасьпяваеш усьвядоміць зачараваньне вялікага суладзьдзя, як заўважаеш — усё зноў зьмянілася, і суладзьдзе расьцярушылася ў пыл, у нішто бясконцае й сьцюдзёнае, як лістападаўскія вятры.*

*Ты меў рацыю, калі сказаў там, каля Фінскага заліву... Толькі дзіця адчувае сябе добра, бо яно знаходзіцца ў гармоніі з сусьветам; самотнае «я» ня выкрышталізавалася.*

*Я доўга-доўга не магла заснуць, было кепска ад палінкі, ад віна, ад торта, ад танчаньня, а ўваччу круцілася й скакала на стале цацачная пара маладых.*

*Падумалася... Я змагла б з табою гаварыць, гуляць у смарагдавых парках і маціцовых сквэрах, наведваць самыя незвычайныя музэі, накшталт кунсткамэры, зь яе засьпіртаванымі зародкамі ды вырадкамі; але для цябе я была й засталася, як проста чарговая, выпадковая, вымушаная зьнікнуць дзяўчына.*

*Чаму так трагічна? Пазнаёміліся, нешта ўтварылася між намі, а потым адносіны складаюцца так, быццам бы нічога ня здарылася.*

*З-за стомы я панапісвала глупства. Даруй.*

*Татахоза. 1976. Жнівень. 26.*

* * *

Мае фізычныя здольнасьці, падтрыманыя пацалункамі, дазволілі сяк-так дайсьці да сухога пляжнага пяску й нібыта жартам паваліцца разам з Агі. У мяне будзе поўная галава пяску! Ты будзеш уся ў пяску, у сонечным, родным, вуграфінскім пяску. Я закапаю цябе ў пясок і буду плакаць на пляжнай магіле сваёй любай мадзьяркі Агаты Ляхоцкі. Мае сьлёзы, як жывая вада, крапацьмуць на капец і ўваскрасяць цябе, і ты выйдзеш зь пяску, як Афрадыта з марскога шуму без кашулі й без спадніцы! Адаме, маўчы... Ты павінен быць сухі й гладкі... Я высах! Прыўзьняўшыся на локці, я строс зь сябе пясок, тонкі й залацісты, ён сыпаўся наўзьдзіў хутка й лёгка. І мы накіраваліся ў сасоньнік. Мы спыняліся праз кожны крок, пацалункі рабіліся даўжэйшыя, больш прагныя й ненасычальныя. Мы апынуліся на паляне з высокай, у мяккія хвалі, травою. На Агі ўжо не было белайбаваўнянай майкі. Я нахіліўся да смуглявых грудзей з доўгімі смочкамі, падобнымі да смажаных зярнятаў кавы. У непрытомнасьці я ўкусіў самы кончык аднаго зерня, і востры сталёвы стрыжань працяў мой торс. Нам балюча! (І яшчэ нешта незразумелае! Няўжо ня ясна — не разумею я па-вугорску?) Чакай, нязручна. Не сьпяшайся рабіць тое, што ня робіцца сьпехам. Яна адхінулася й перакруціла спадніцу так, каб замок і зашчапкі апынуліся сьпераду. Берагі мэталёвага замка разьбягаліся хутка, як хвалі за падводнакрылым кацерам. Тонкія, зусім не сялянскія пальцы падхапілі прыпол і ўскінулі вышэй галавы. У Агі быў крыху выпуклы жывот з глыбокай ракаўкай пупка. У маёй першай жанчыны, Жаны, пуп тырчаў. На Агі засталіся адно карункавыя майткі. Яна села на траву, адкінулася на сьпіну і, прыўзьняўшы клубы й сьцёгны, скінула зь цела астатнюю рэч. А мне ўжо не было чаго скідаць. Я накрыў яе цела сваім — сухім, гладкім, вымытым вадою зь пяском. Я хваляваўся: а можа, не атрымаецца, асарамачуся. У мяне была толькі адна жанчына — Жана, у якой быў толькі адзін мужчына — я. Мой досьвед не назавеш багатым. У Агі пад жыватом былі чорныя й шаўковыя валасы. Мяне ўразіла шаўкавістая мяккасьць і яшчэ колькасьць вільгаці, якой сьцякала мадзьярка. Каб пад намі была прасьціна, а не трава, мы б апынуліся ў лужыне. Жанчыны мяне папракаюць за дзьве рэчы — пасьпешлівасьць і напорыстасьць. А я не лічу, што трэба стрымлівацца, асабліва ў першы, хай ён і апошні, раз. Зрабілася добра, цёпла, я паплыў. Яшчэ! Яшчэ! Яшчэ!.. Агі крычала на ўвесь лес, на ўвесь пляж, на ўвесь Фінскі заліў. Мая каханая лямантавала, а я ня чуў. І яна ня чула сябе. Мы адчувалі. А калі ўжо launched пераtомленыя, ляжалі на сьпінах, аднекуль зь непрыемнай рэальнасьці прыплыў расчараваны голас... Я думаў, тут некага зарэзалі, у некага жыцьцё забралі, а тут яго толькі робяць. У мяне не ставала сілы сказаць голасу, каб ішоў прэч. Язык мой высах і не паварочваўся. Я быў самотны абязводжаны труп.

* * *

*Добры дзень, дарагі мой Адам!*

*Прыляцелі журавы*
*Селі-палі на ральлі*
*Сталі ральлю капаць*
*Самі з сабой гукаць*
*Ды ўсё аб ральлі гаварыць.*

*Вось такі тэкст я знайшла ў падручніку. Раней я займалася гісторыяй расейскай мовы, і ў мяне засталася хрэстаматыя. Тэкст, як бачыш, не на літаратурнай мове, а на гаворцы, так, прынамсі, пазначана ў кнізе. Мне было цікава яго знайсьці й перапісаць для цябе. У гэтай жа хрэстаматыі знайшліся прыклады й літаратурнай беларускай мовы, я іх усе перачытала па некалькі разоў і нават вывучыла чатыры радкі з паэмы Янкі Купалы...*

*Шчасна так, абняўшыся, у траве плывём,*
*Купаюцца ў кветках ногі да калень,*
*Шчокі, грудзі нам гараць, гараць агнём,*
*Іскрацца вочы, цела просіцца пад цень.*

*Тэкст пра журавоў быў запісаны ў XIX стагодзьдзі ў Менскай вобласьці. Мяне гэта ўсхвалявала да сьлёз, бо кожны раз на капэрце я разборліва й старанна пішу — горад Менск.*

*На жаль, не магу займацца беларускаю моваю так, як займаюся расейскай і ангельскай. У нашым Сэгедзкім унівэрсытэце няма нават факультатыўных лекцый па тваёй мове. Мусіць, і ў Менскім унівэрсытэце не выкладаюць родную мову дзяўчыны Агі зь вёскі Татахозы. Праўда?*

*Дарагі Адаме! Я атрымала твае лісты з малюнкамі. Толькі вось Ладак пакрыўдзіўся, бо ён цяпер не адзіны беларускі чорт у Вугоршчыне. Я спрабавала яго суцешыць, казала, што ён для мяне найдаражэйшы за ўсіх чарцей на сьвеце. Ладак ня верыў. Ён зрабіўся капрызьлівы, зласьлівы й зацяты. Што зь ім рабіць? Напішы, як мне абыходзіцца зь непаслухмяным чортам?*

*Татахоза. 1976. Жнівень. 18. Агі.*

Працяг на старонцы 10

# «Дарагі мой сябра Адам...»

*Працяг са старонкі 9*

* * *

Лежачы побач з мадзьяркаю, згадаў іншую жанчыну. Высокая, з доўгімі, ледзь не па клубы, валасамі, вузкімі, уразьлёт, вачыма, са шпаркім, амаль мужчынскім крокам — яна праходзіла паўз маё вакно. Ня ведаю: ані хто яна, ані як клікалі, ані чым займалася. Ведаю, што ў кабінэце фізыкі я сядзеў каля самага вакна, і паўз яго праходзіла жанчына з брунатнымі валасамі. У кепскае надвор'е яна хавала шыкоўныя валасы пад чорную хустку, а ў сонечныя дні яна хавала драпежныя вочы за ахоўныя акуляры. Чамусьці я быў упэўнены, што жанчына ведае пра мяне, і знарок ані разу ня кінула нават мімалётнага позірку ў мой бок. Самападман. Ён скончыўся разам зь лекцыямі па нялюбай фізыцы. А вось жанчыну, што праходзіла паўз вакно вучэльні, я любіў, ці амаль любіў, бо згадаў у найінтымны момант. Лежачы побач з гладкашэрснай вугоркай, успомніў хлапечую зачараванасьць высокай, імклівай жанчынай з чорнымі, уразьлёт, вачыма. Успаміны затуманілі рэальнасьць, і я не заўважыў, як зьнік уладальнік расчараванага голасу, але ягоны сыход прыемна нагадаў, што сьвет яшчэ не канчаткова абнахабіўся й сапсеў. Мы апраналіся, ехалі на электрычцы ў Санкт-Ленінбург, цалаваліся ў тамбуры, на пэроне, у мэтро, каля інтэрнату, дзе жылі вугорскія вывучальнікі транснацыянальных моў. Агі заплакала, і я бачыў у празрыстым змроку белае ночы кожную сьлязу. Але гэты шлях сэнтымэнтальны, а таму, як мне, дык мала цікавы. Адзінае абвастрэньне ў нашых адносінах адбылося каля чыгуначнай станцыі, калі я даведаўся, што электрычка прыйдзе толькі праз паўгадзіны й пачаў настойваць на прагулянцы ў лес. Агі вельмі наравіста адпрэчыла. Разьвіталіся мы на інтэрнацкіх прыступках, як героі цнатлівых савецкіх кінастужак 50-х гадоў. Ісьці да цёткі Тосі мне зусім не хацелася. Мяне перапаўняла радасьць, чамусьці карцела зрабіць паскудзтва. І я надумаўся затэлефанаваць Валодзю Бортніку. Ён зьдзівіўся... Чаму так позна? Можа, нешта здарылася? Па ягоным голасе я адчуў, што клышатопка Бялькевіч пазірае ў Бортнікаў рот. Я паабяцаў папрасіць прабачэньня. З нэўрастэнічкамі трэба трымацца дабразычліва. Асьцярожны Бортнік, намацаўшы ў маім абяцаньні страхоўку, пагадзіўся сустрэцца каля крамы Пасаж. У менскіх мастакоў было ўлюбёнае месца ў краме Пасаж. Якое гнюснае слова — улюбёнае, як гаршчок, поўны бруднасьцяў, яго нясеш, а ён хлюп-хлюп — улюбёнае. Дык вось улюбёным месцам быў аддзел мастакоўскага рыштунку. У ім было ўсё, што трэба мастаку для поўнага й глыбокага задавальненьня. Не было хіба што гандонаў, але я асабіста не люблю кахацца праз гумку, нават праз замежную й вельмі тонкую; гэта тое самае, як лізаць цукар праз шкло. Непрыемны стан. Вось у падобны стан я й задумаў загнаць Яню Бялькевіч. Бортнік і не здагадваўся, які плюгкі каравяк я зьбіраюся падкласьці ягонай каханцы пад абцас. Бялькевіч, дык тая ўвесь час нешта падазравала, яна й на асфальце бачыла купіны. І як жа мне карцела напляваць у вочы гэтаму капрызьліваму характару! Але я не шукаю сабе непрыемнасьцяў, нават калі раблю іх іншым. Пасьля разьвітаньня з Бортнікам настрой палепшыўся. Ён яшчэ больш узьняўся каля кінатэатра «Масква». Я напляваў самым літаральным чынам на сукенку намаляванай, афішнай, а праз тое яшчэ больш францускай і пранцаватай Пампушцы. Расьцёр сьліну ўказальным пальцам і тым жа чорным пальцам намаляваў на пpасталыткінскім тварыку прускія афіцэрскія, салдафонскія вусы. Ну, люблю я маляваць. А тое, што гераіня клясычнай заходнеэўрапейскай навэлы закрыўдавала — яе настроі, яе праблемы. Я, дарэчы, салідарны з большасьцю (быць салідарным з большасьцю — нацыянальная рыса беларуса!) пэрсанажаў мапасанаўскага шэдэўра. Яны асудзілі Пампушку за тое, што легла пад ворагам Бацькаўшчыны, акупанта Францыі, ворага аб'яднанай Эўропы, якую так хацелі зрабіць Напалеон зь Гітлерам. А што ж яна думала? У хіханькі-хаханькі з заваёўнікам гуляць. Так не бывае. Акупант на тое й акупант, каб гвалціць, прымушаць, рабаваць. А Пампушка перад ім свой гонар паказала. Каму трэба гонар прастытуткі? Калі шчыра, дык і заваёўнік у навэле «Пампушка» занадта ўжо тактоўны. Усё ён намёкамі, паўтанамі, праз памагатых. Не, каб узяць і згвалтаваць усіх мужчын, а коней зарэзаць, а жанчын закатаваць. А ён сарамлівы, паўтыдня правалаводзіўся з прастытуткай. А вось мой твор, дзякуючы доўгім тэарэтычным пошукам, атрымаўся: германскі вусаты афіцэр і пранцуская ружовашчокая б...ць у адной асобе, вось ён — сымболь аб'яднанай Эўропы!

* * *

*Дарагі мой сябра Адам, прывітаньне!*

*Атрымала твае лісты. Вельмі ўзрадавалася і павесяліў намаляваны чорт Ладак. Ён страшны, і я крышачку спалохалася. Ты напісаў, маўляў, ён можа ўсё. Вось я і загадала яму прынесьці майго Адама ў Татахозу. А ён, супастат чорны, адмовіўся. А што ты можаш? Ён нічога не адказаў. Ён, бач ты, пакрыўдзіўся.*

*Я вось села пісаць табе, а ён зіркае на мяне з-пад ілба. А цяпер вось папрасіў, каб упісала ад яго прывітаньне.*

*Вар'яцтва нейкае навокал. Суцэльная дурната. Мая вёска нагадвае могілкі. Людзі жывуць, каб зарабіць на хлеб, а хлеб зарабляецца з адной мэтаю жыць. А на могілках іх чакаюць падрыхтаваныя месцы. Можна й ня жыць, дастаткова паставіць помнік, ён засьведчыць пра тое жыцьцё больш, чым некалі зароблены й тады ж зьедзены хлеб. Замкнёнае кола, зь якога ніхто ў Татахозе не шукае выйсьця.*

*А між намі жалезная заслона, ні ты ніколі ня зможаш прыехаць да мяне, ні я да цябе. Мы жывем у адным сацыялістычным лягеры, але ў розных бараках, і самавольны пераход з аднаго барака ў другі караецца сьмерцю бяз помніка на могілках.*

*Як ты лічыш, ці можа нармальная дачка не любіць бацьку? Я не люблю тату. Да маці ў мяне іншае стаўленьне, але й яе не люблю. Прыкра, сорамна, крыўдна, але ж не магу сябе прымусіць палюбіць бацькоў. Яны выклікаюць у мяне пачуцьцё агіды. Асабліва раздражняе тата. У яго пачалі выпадаць зубы. Ня ведаю прычыны, але выпадаюць яны чамусьці ўночы. А нараніцу, у час сьнеданьня тата кладзе на стол свой, цяпер ужо нікому не патрэбны, жоўты, пракураны, доўгі зуб і гаворыць кожнага разу адно й тое ж...*

*Птушкі ў вырай паляцелі!*
*Паляцелі птушкі ў вырай!*

*Гэта прыпеў з вугорскай народнай песьні, але пры чым тут гнілыя выпалыя іклы?*

*Маці кажа: я вельмі падобная да бацькі, мы аднолькавыя й таму ня можам паразумецца. Мана. Ня буду я класьці на стол свае зубы.*

*Да 14 гадоў у мяне зусім не было праблем. Ва ўсялякім разе тых, што прыйшлі зараз. Для сябе я іх акрэсьліла выразам шмат думаць. І пачала забараняць сабе думаць. Натуральна. Сядаю ў фатэль і пачынаю думаць пра тое, што ня думаю... Пустэльня. Пустэча. Вецер. Пясок. Сыплецца. Шархаціць. Шэпча. Ціша. Пустэльня. Хрыстос. Самота. Словы, словы, словы... Я паўтараю асобныя словы. За імі ёсьць матэрыя, але няма мяне, бо мне забараняецца складаць зь іх сказы, дазваляецца толькі ціха прамаўляць. Шэпт супакойвае. Маё маленькае адкрыцьцё: супакойвае ня столькі малітва, колькі шэпт. Адсюль і жаданьне многіх народаў маліцца на малазразумелых мовах. Вось такі занятак я вынайшла сабе. Дапамагае.*

*Часам нейкая драбніца пачынае раздражняць мяне так, што жыць ня хочацца. У падобны стан трапляе чалавек з запарушаным вокам. Маленечкая парушынка, а прымушае скурчыцца вялізарнае цела. Так і са мною. Бацькаў зуб параніў абалонку маёй душы. Мне захацелася схапіць сякеру й адсекчы бацькаву галаву, каб абухом павыбіваць зь яе доўгія жоўтыя зубы, каб яны больш не зьяўляліся на стале падчас сьняданьня.*

*Ты сам, Адаме, папрасіў пісаць шчыра. Выконваю пажаданьне. толькі бачыш цяпер, што гэтага лепш не рабіць.*

*Я ня ведаю цябе. Мне цяжка здагадацца, што табе цікава, што цябе хвалюе й непакоіць.*

*Сёньня я не ў гуморы.*

*Адам, вельмі хочацца цябе ўбачыць!*

*Плакаць ня буду.*

*P.S. У жаночым часопісе я прачытала, што вугорцы маюць вялікую схільнасьць да самагубства, як і наогул усе народы з вугра-фінскай групы. Сапраўды так.*

*Татахоза. 1976. Жнівень. 7.*

*Твая Агі.*

* * *

Можа, дэ Сад і падлічваў — колькі кропель асалоды тоіць у сабе заплянаваны зьдзек, а я ведаю адно — шмат. І асноўная сакаўная слодыч не ў самых кпінах, а ў чаканьні свайго ўзвышэньня над абранымі ахвярамі. Яны й думаць ня думалі, і ведаць ня ведалі. Яны спалі й ціхенька ўцягвалі ленінградзкае, гнілаватае паветра праз чатыры дзірачкі ў двох насох і так жа ціха выпускалі адпрацаваны лёгкімі газ. Яны ж былі ў гасьцях, а таму не маглі сабе дазволіць сапсьці. Як і я ня мог рыпець спружынамі старога, купленага знарок для гасьцей, цёткітосінага фатэля. Я ляжаў перад сном і думаў пра Музэй рэлігіі й атэізму, што месьціўся ў Казанскім саборы. У думках абыходзіў экспазыцыю і ўважліва разглядаў прылады для катаваньня. Мне спадабалася жалезная маска з даўжэзным доўгім носам, на які насаджвалі кавалак смажанага мяса, каб закутая ў кайданы ахвяра памерла з голаду, бачачы страву й чуючы водар смажаніны. Падобных прыладаў было шмат, поўныя сутарэньні, і ўсе яны належалі каталіцкай інквізыцыі. Зрэшты й праваслаўная царква мела ў музэі адпаведны зьвярыны твар. На сьценапісе ў пякельным полымі гарэлі Леў Талстой і Міхаіл Лермантаў. У клясыкаў расейскай літаратуры былі акуратныя, нібыта перамаляваныя з энцыклапэдыі тварыкі. Быў у Музэі рэлігіі й атэізму адзін беларускі твар, і нават ня твар, а толькі профіль: на маленькім фотаздымку, пад якім стаяў подпіс: «Адольф Гітлер вітае здрадніка савецкага народу Хведара Абрамовіча, які абвясьціў незалежнасьць беларускай праваслаўнай царквы». На здымку Гітлер усьміхаўся; мусіць, думаў пра блізкае аб'яднаньне Эўропы. Абрамовіч таксама ўсьміхаўся, мусіць, думаў пра доўгае жыцьцё беларускага фашызму. Абодва трымаліся за таўсьцезную кнігу. Хто каму дорыць ці перадае — няясна. Што за кніга — невядома. Можа, Біблія, а можа, і «Мая барацьба». З размовы пра аўтаксфалію беларускай царквы я й пачаў размову з Валодзем Бортнікам. У яго стрыечны брат служыў папом, таму тэма зацікавіла, Бортнік нават сказаў... Мог і сапраўды быць факт сувэрэнізацыі царквы. Але размова пра рэлігію была шырмаю, мяне зусім не цікавіў Гітлер з Абрамовічам, мяне хвалявала, як адрэагуе пара зь несапраўдным каханьнем на пару з каханьнем сапраўдным. Ці спраўдзіцца мая надзея на ўзвышэньне. Спраўдзілася. Бялькевіч зьвяла, згарнулася, як зрэзаная лілея без вады. А я з садысцкай радасьцю зазначыў, што прынізіў сяброў. І апраўдваў сябе тым, што чалавека нельга прынізіць да таго часу, пакуль ён сам не пажадае прыніжэньня. Я меў поўнае перакананьне — Бортнік і Бялькевіч жадалі прыніжэньня. А йнакш нашто ён паўсюль расказваў пра вельмі інтымныя рэчы. А Бялькевіч прыніжала Бортніка капрызамі й бясконцымі патрабаваньнямі. А я прынізіў іх абодвух, бо побач з дохлым ценем каханьня паставіў жывое каханьне зь першага погляду. Я атрымаў задавальненьне, а ўсе астатнія не цікавілі мяне, нават Агі, зь якой у нейкіх кавярнях, на нейкіх паркавых лаўках парастрасаў, параскідаў, праўсьміхаўся тры дні. І зусім нечакана для сябе працьверазеў і ўбачыў — сяджу на чыгуначным вакзале адзін. У пачакальнай залі ніхто ня спаў, бо міліцыянты забаранялі спаць. Як толькі нехта заплюшчваў вочы, яны абавязкова падыходзілі й патрабавалі дакумэнты. Гэта ў міліцыянтаў было накшталт гульні-забаўкі, каб служба шпарчэй ішла. Цётцы Тосі я сказаў, што зьяжджаю ўранку, каб не хвалявалася. І яна, мусіць, не перажывала, а ціха, спакойна спала ў ленінградзкай камунальнай кватэры. А я ня мог заснуць з-за міліцыянтаў. Ночы падзяляюцца на два станы: адзін — калі хочаш спаць і табе не даюць, а другі — калі ня можаш заснуць. Спаць хацелася страшна. Я ўзяў сумку й пайшоў уздоўж пэрона, уздоўж пакгаўзаў, паўз нейкія склады, пералезшы праз паркан, знайшоў пад ім кардонныя скрыні з-пад халадзільнікаў і заснуў на іх, паклаўшы пад галаву сумку. Мне нічога не прысьнілася. Звычайна ў мяне каляровыя сны яркія й вельмі прывязаныя да сапраўднасьці, але ні разу ў мой сон не завітала вугорка Агі Ляхоцкі. Перад тым як трапіць на вакзал, мы разьвіталіся, яна зайшла ў інтэрнат, і больш я ніколі ня бачыў Агі, якую пакахаў зь першага погляду. Яна плакала, а я ня плакаў. Агі была вельмі лёгкая на сьлёзы. Яна была лёгкая на ўсё — словы, пачуцьці, лісты, сьлёзы.

* * *

*Дарагі Адам!*

*Мне вельмі-вельмі хочацца, каб гэты ліст ты атрымаў адразу, як толькі прыедзеш у Менск.*

*Я думаю-думаю пра цябе, ты мой першы любімы сябра. Можа, ты пакрыўдзісься за «сябра», але для мяне гэта больш, чым палюбоўнік. Каб я напісала табе, што закахалася ў цябе, і мне больш за ўсё падабаецца займацца з табою сэксам, ці — я ніколі ў жыцьці не забуду нашае пачуцьцё — быў бы падман. А хлусіць не хачу й ня буду. Ты мілы-мілы, быць побач з табою прыемна. А больш за ўсё мне падабаецца гаварыць з табою. Ты першы й адзіны хлопчык, зь якім мне прыемна размаўляць. У тваім характары ёсьць кранальная непасрэднасьць. Наша каханьне ты будзеш памятаць нават тады, калі я забудуся пра яго.*

*Яшчэ зусім сьветла, хоць на гадзіньніку — глыбокая ноч. Я пішу, седзячы каля вакна. Сьветла, і ня трэба запальваць лямпу.*

*Спадзяюся, твая цётка Тося не сварылася на цябе, здаецца, сягоньня мы разьвіталіся крышку раней, чым заўсёды.*

*Шкада, усё так хутка скончылася. Каб ты разумеў па-вугорску, я пісала б табе вершы.*

*Шкада, ты так і не намаляваў мой партрэт, і ня тое, каб для мяне мела вялікае значэньне наяўнасьць самога партрэту, зусім не, хацелася паглядзець, як ты працуеш. Я сама зусім ня ўмею маляваць, зусім.*

*Заўтра, па дарозе на занятկі, я ўкіну ліст у паштовую скрыню і ўзрадуюся, бо ты хутка атрымаеш вестачку. А вось на вакзал я вырашыла не прыходзіць, не люблю плакаць і цалавацца на пэроне.*

*P.S. З Вугоршчыны дашлю сваю фотакартку, а ты, калі ласка, дашлі сваю, ці лепш намалюй маленькі аўтапартрэт.*

*Прабач, але не было добрай белай паперы, вось таму першы ліст атрымаўся жоўты й непрыгожы.*

*Буду цябе памятаць доўга-доўга.*

*Дзякуй за каханьне.*

*Ленінград. 1976. Ліпень. 21.*

*Твая каханая Агі.*



# ЛІТОЎСКІ ПАХОД НА ВІЛЬНЮ

**У 1990 годзе літоўская дасьледчыца гісторыі Рэгіна Жэпкайтэ выдала кнігу «Фрагмэнт гісторыі Вільні 1939-1940» (Vilniaus istorijos atkarpa 1939-1940), у якой на падставе архіўных зьвестак распавядаецца пра тое, калі й як Вільня рабілася сталіцай сучаснай Літвы.**

**Колішні цэнтар Вялікага Княства Літоўскага, які паўстаў на мяжы этнасаў, на скрыжаваньні эўрапейскіх дарог, пасьля ліквідацыі ВКЛ апынуўся па-за вялікай палітыкай, на ўскрайку вялікіх дзяржаваў, што дазволіла яму стаць культурнай сталіцай Усходняй Эўропы, Бабілёнам, Атэнамі, Мэккай розных народаў, калыскаю іхніх культур, горадам нацыянальнае мары. Пасаджаны пасярод вялізнага абшару вёсак, мястэчак і гарадоў, ён зьбіраў у сябе ўсё вартае, што нараджалася на гэтым абшары — на Віленшчыне. І ў дасавецкай беларускай культуры няма старонкі, на якой ня згадвалася б ягонае імя.**

**У XX стагодзьдзі Вільня тройчы мяняла сваё адміністрацыйнае аблічча. Была горадам расейскім, польскім, літоўскім. І пры кожнай уладзе тут побач зь іншымі жылі беларусы, ствараліся лепшыя ўзоры культуры. Сёньня гутарка пойдзе пра палітычны дакумэнтальны фон, на якім выжывала віленская духоўнасьць у апошнія перадваенныя гады. Гэта будуць найбольш зьмястоўныя, на наш погляд, старонкі кнігі Р.Жэпкайтэ з нашымі камэнтарамі й водступамі.**

**Міжваенная Літоўская Рэспубліка, якая па праву пераемнасьці ад ВКЛ лічыла Вільню сваёй спрадвечнай сталіцай — пад польскай акупацыяй — і мела пра гэта запіс у сваёй канстытуцыі, пасьля падзеньня Польшчы пад нямецкім наступам атрымала горад ад Савецкага Саюзу, які захапіў Вільню разам з усёй Заходняй Беларусяй, і фактычна *прыйшла* ў горад. Рамантычны ідэал мала адпавядаў сапраўднасьці. Як згадвае ў «Нашай Ніве» (№7, 1992) сьведка тых падзеяў віленчук Лявон Луцкевіч, «чутка пра далучэньне да Літвы ўспрынялася нечаканасьцю».**

**З гэтага моманту пачалося ператварэньне сталіцы Ўсходняй Эўропы ў адміністрацыйны цэнтар маленькай дзяржавы. Дасьведчаны чытач заўважыць, што тая, даваенная сытуацыя тыпалягічна нагадвае падзеі пачатку 1990-х. За 50 савецкіх гадоў адбыўся адкат гораду на ранейшыя пазыцыі. І калі Літва выходзіла з складу СССР, яе кіраўнікам зноў давялося сутыкнуцца з тымі самымі праблемамі. Віленшчына зноў была моцна заслявяненая, эканамічна рэгіён зноў адставаў ад астатняй Літвы, зноў кудысьці трэба было дзяваць «прыбышоў» (на гэты раз ня польскіх, а савецкіх), зноў паўставала праблема ляяльнасьці да Літоўскай Рэспублікі й праблема антылітоўскіх польскіх і камуністычных арганізацый, абмен інфляцыйных рублёў на цьвёрдыя літы, пераназоў вуліц, вёсак, шыльдаў...**

**Ператварэньне Вільні зь міжнароднага культурнага цэнтру ў літоўскі адміністрацыйны вымагае зьмены даўніх вызначальных атрыбутаў гораду. Вялізнае беларускае заплечча — Віленшчына — адрэзаная мяжой, польская культурная эліта рассыпалася ў суполкі нацыянальнай меншасьці, да мізэрных асяродкаў звузілася жыдоўства, літоўскі нацыянальны рух ператварыўся ў адміністрацыю. Сёньня цяжка сказаць, якія новыя складнікі будуць вызначаць аблічча гораду праз гады і што застанецца ад колішніх. На гэта патрэбна шмат часу й ведаў. Таму мы зьвяртаемся да гісторыі Вільні, да самага загадкавага яе эпізоду. Няцяжка ўявіць сабе, як прыходзілі сюды Расея ці Польшча. Але зусім малавядомы ў Беларусі эпізод — пра тое, як прыйшла Літоўская Рэспубліка.**



*Літоўскі вайсковы парад у Вільні 28 кастрычніка 1939 году.*

## ПЕРАДГІСТОРЫЯ

На пачатку другой сусьветнай вайны Бэрлін і Масква дзялілі паміж сабой рэгіёны ўплыву. Віленшчына тады ўваходзіла ў склад Польшчы. Перад тым, як напасьці на Польшчу, немцы падахвочвалі Літву захапіць Вільню. Але ўрад Літвы займаў пазыцыю нэўтралітэту. І тады, калі немцы занялі большую частку Польшчы, Віленшчыну разам з усёй Заходняй Беларусяй забрала Масква. З савецкай гісторыяграфіі мы ведаем пра гэты эпізод як пра ўзьяднаньне 17 верасьня.

17 верасьня Чырвоная Армія пераступіла былую дзяржаўную мяжу Польшчы й рушыла ў глыбіню Заходняй Беларусі (да вызначанай у савецка-нямецкім тайным пратаколе 23 жніўня дэмаркацыйнай лініі).

«Вызваленчы паход» Чырвонай Арміі на захад выклікаў вялікую занепакоенасьць ураду Літвы, — піша Рэгіна Жэпкайтэ, — хоць урад Савецкага Саюзу паведаміў, што захоўвае адносна Літвы нэўтралітэт. Тым ня менш, было няясна, дзе спыніцца Чырвоная Армія. У Коўне разважалі так: згодна зь мірнай дамовай ад 12 ліпеня 1920 году паміж Літвой і Савецкай Расеяй, яна павінна затрымацца каля мяжы, вызначанай у гэтым трактаце (г. зн. у Маладэчне), але зь іншага боку, Вільня й Віленшчына маглі быць занятыя як тэрыторыя Польшчы.

Сытуацыю разглядалі на паседжаньні ў Міністэрстве Ўнутраных Спраў 18 верасьня... Было выказана некалькі поглядаў. Генэральны сакратар Саюзу Таўтінінкаў (нацыяналістаў) Статкус выказаўся за тое, каб тэрмінова паслаць літоўскае войска для заняцьця Вільні... На думку Статкуса, дамова 1920 году не дазволіла б Савецкаму Саюзу пярэчыць у тым выпадку, калі б Літва пастанавіла заняць Вільню. Іншае меркаваньне меў дырэктар палітычнага дэпартамэнту МУС Э.Тураўскас. Ён заўважыў, што нельга нічога рабіць, пакуль невядомая думка вялікіх суседзяў: пасьля 16 верасьня Нямеччына больш не прапанавала Літве заняць Вільню, няясная таксама пазыцыя Савецкага Саюзу. Э.Тураўскаса падтрымаў міністар унутраных справаў К.Скучас. Ён сьцьвердзіў, што ня лічачыся з суседзямі можна ня толькі не вярнуць Вільню, але страціць і Коўна.

19 верасьня падразьдзелы Чырвонай Арміі занялі Вільню. Першыя ў горад увайшлі танкі, потым кавалерыя. Падчас маршу на горад у няволю было ўзята каля 10 тыс. польскіх жаўнераў, 1000 афіцэраў рознага рангу... Падразьдзелы Чырвонай Арміі ўсталі на былой дэмаркацыйнай лініі паміж Польшчай і Літвой.



*Шлюб па каханьню ці па разьліку?.. (Ангельская карыкатура 1939 году).*

Маючы на ўвазе заявы савецкага ўраду адносна Вільні, зьмешчаныя ў мірнай дамове 1920 г., у пакце аб неагрэсіі ад 28 верасьня 1926 г., у пратаколах 1931 і 1934 гг. адносна працягу пакту аб неагрэсіі, літоўскі ўрад спадзяваўся, што можна будзе вярнуць Вільню й Віленшчыну мірным шляхам. 19 верасьня паслу Літвы ў Маскве Л.Наткявічусу было даручана зьвярнуцца да народнага камісара замежных справаў В.Молатава з запытам, ці зьбіраецца савецкі ўрад вярнуць Вільню Літве, у прыватнасьці таму, што «занятая войскамі Савецкага Саюзу віленская акруга населеная літоўцамі і што Літва мае на гэтыя землі правы». У адказе на заяву Л.Наткявічуса В.Молатаў сьцьвердзіў, што для гэтага няма падставовых перашкодаў, аднак канкрэтнага адказу ўраду Літвы давялося пачакаць. Р.Жэпкайтэ тлумачыць гэта тым, што Літва знаходзілася ў сфэры нямецкіх, а не савецкіх уплываў. І толькі 29 верасьня была падпісаная новая дамова Савецкага Саюзу й Нямеччыны і новыя тайныя пратаколы ад 28 верасьня, паводле якіх Літва трапіла ў сфэру ўплываў Савецкага Саюзу.

## БЕЛАРУСКІ ЭПІЗОД

**Тымчасам занятыя Чырвонай Арміяй Вільня й Віленшчына разглядаліся як частка Заходняй Беларусі. Дзеля кіраваньня жыцьцём гораду быў створаны ворган ваеннай адміністрацыі — часовая ўправа Віленскай акругі Беларускага фронту (начальнік Жылянін, ад 7 кастрычніка Краскоў). Выходзіла газэта на беларускай мове «Віленская Праўда». У канцы верасьня часовая ўправа была рэарганізаваная ў гарадзкую і названая часовай управай гораду Вільні. У павятовых цэнтрах былі створаныя часовыя павятовыя ўправы, у гмінах і вёсках скліканыя камітэты. Гэта былі ўжо органы цывільнае ўлады. У цэнтральных органах кіраваньня акругі ключавую ролю адыгрывалі работнікі, дэлегаваныя органамі партыі і ўлады зь Менску. Распараджэньні, пастановы часовых управаў, абвесткі камітэтаў даводзяць, што на Віленшчыне твbooрыўся сацыялізм сталінскага тыпу, які запанаваў у Савецкай Беларусі і ва ўсім Савецкім Саюзе, — падкрэсьлівае Р.Жэпкайтэ.**

**Пры набліжэньні Чырвонай Арміі зь Віленшчыны сыйшло альбо схавалася шмат уласьнікаў вялікіх гаспадарак. Таму гмінным і вясковым камітэтам было даручана нацыяналізаваць зямлю, што належала маёнткам, фальваркам і высокімураднікам і перадаць яе бясплатна бедным сялянам, батракам і парабкам. Гэта датычыла таксама зямлі, якая належала касьцёлам. Камітэты павінны былі арганізаваць ахову маёнткаў ад уладальнікаў і іх наймітаў, каб не падпалілі, не выводзілі жывёлу і ня кралі іншай маёмасьці. На нарадзе прадстаўнікоў вясковых камітэтаў віленска-троцкага павету, якая адбылася 4 кастрычніка, пастаноўлена прыступіць да парцаляваньня гаспадарскай зямлі, падзелу кароў і коняў для сялянаў, якія іх ня мелі... Камітэты абавязаліся ў бліжэйшыя дні (быў кастрычнік) арганізаваць копку бульбы і збор гародніны на гаспадарскіх палях.**

**У віленскіх прадпрыемствах і фабрыках работнікі выбіралі т.зв. «тройкі». На іхнім сходзе, які адбыўся 30 верасьня ў Гарадзкім Тэатры, начальнік часовай управы гораду Вільні Е.Жылянін указаў, што трэба ўстанавіць прычыны, якія перашкаджаюць пачаць нармальную працу, і ў бліжэйшыя дні прыступіць да працы. Не дапускаць, каб уладальнікі і мінулая адміністрацыя прадпрыемстваў дэзарганізавалі вытворчасьць, а адначасова і нармальнае жыцьцё гораду.**

**Для падтрыманьня парадку ў горадзе была створана Рабочая Гвардыя, у якую прыймалі таксама й жанчын.**

**Выконваючы пастановы адміністрацыі, сяляне дзялілі маёмасьць пакінутых уладальнікамі гаспадарак, высякалі лясы. У Вільні была адроджана біржа працы, і атрымаць работу можна было толькі праз яе пасярэдніцтва. Каля тысячы чалавек было занята на публічных работах, 450 работнікаў далей будавалі водную электрастанцыю ў Турнішках, адбудоўвалі радыёстанцыю, пашкоджаную ў выніку налётаў нямецкай авіяцыі. Было паабяцана забясьпечыць горад дрэвам на зімовы сэзон.**

**Усе гэтыя справы, у тым ліку й абяцаньні, прыхільна настройвалі да Чырвонай Арміі й новага парадку бедныя слаі насельніцтва Віленшчыны. Перацягнуць іх на свой бок, экспрапрыяваць буржуазію, інтэлігенцыю, высокіх чыноўнікаў — такую мэту ставілі будаўнікі сацыялізму.**

**Частку палітыкі ваеннай і цывільнай адміністрацыі Вільні складалі сыстэматычныя арышты й дэпартацыі. Многіх заможных жыхароў апанаваў страх, вайскоўцы хаваліся. Але, — заўважае літоўская дасьледчыца, — мы не знайшлі дадзеных пра рух супраціву ці дывэрсіі супраць акупантаў.**



СКАЯ ПРАЎДА

№ 4
26 верасня 1939 г.
аўторак

На сходзе культурна-асветных работнікаў-беларусаў

Наша жаданне — жыць у брацкай сям'і народаў Краіны Соцыялізма

Цяжкім быў лёс працоўнага беларуса.

Вялікае дзянуй нашай

*Першая старонка «Віленскай Праўды» за 26 верасьня з тэкстамі выступаў А.Луцкевіча, Ф.Грышкевіча, С.Бусла й іншых на сходзе віленскай беларускай інтэлігенцыі.*

**Вельмі значная для жыцьця Вільні была пастанова часовае ўправы акругі й гораду Вільні ад 6 кастрычніка 1939 году. Па разглядзе адозвы часовае ўправы Беластока да ўсіх управаў Заходняй Беларусі, Віленская ўправа прыняла прапанову ўдзельнічаць у выбарах народнага сходу Заходняй Беларусі, які меўся прыняць пастанову аб далучэньні Заходняй Беларусі да Беларускай ССР, а адначасова ўключэньні ў Савецкі Саюз. Часовая ўправа Вільні заклікала рабочых, сялян, інтэлігентаў прыняць пастанову, актыўна яе падтрымаць і ўдзельнічаць у выбарах. У Віленскі акруговы выбарчы камітэт управа вылучыла сваіх прадстаўнікоў: П.Узіна, Е.Пуграмэнта, А.Кляпачку — беларускіх (так у Р.Жэпкайтэ) грамадзка-палітычных дзеячоў.**

**7 кастрычніка адбываліся сходы на прамысловых прадпрыемствах. У сувязі з выбарамі скліканы таксама агульны сход з удзелам работнікаў і інтэлігенцыі Вільні. Прэса пісала, што ў сходзе ўдзельнічалі каля 75 тысяч чалавек. Вёў сход новы начальнік часовай управы Краскоў. Прамоўцы прынялі ініцы-**

*Працяг на старонцы 12*

# ЛІТОЎСКІ ПАХОД НА ВІЛЬНЮ

*Працяг са старонкі 11*

ятыву часовае ўправы Беластоку, ухвалу віленскае ўправы, падкрэсьлілі, што дэлегатам народнага сходу даручаецца пастанавіць, каб Заходняя Беларусь улучылася ў Беларускую ССР і СССР... З гэтай нагоды «Віленская Праўда» пісала: «Здавалася, што ня будзе канца радасьці люду. О, старажытнае места Вільня! Шмат было ў ім дзяржаўных сьвятаў, але ніколі яно ня бачыла такога ўсеагульнага энтузіязму».

8 кастрычніка абвешчаны парадак выбараў у народны сход. Аднак насельніцтву Вільні й Віленшчыны ўдзельнічаць у іх не давялося. У Маскве йшлі перамовы паміж Літвой і Савецкім Саюзам. 10 кастрычніка была падпісаная «Дамова аб перадачы Літоўскай Рэспубліцы Вільні й Віленшчыны і аб узаемнай дапамозе Літвы й Савецкага Саюзу».

Да 10 кастрычніка ў Вільні яшчэ заўважныя элемэнты будаўніцтва сталінскага сацыялізму, пасьля — пачалося рабаваньне места...

Міністэрства Замежных Справаў Літвы мела зьвесткі, што зь Вільні вывезена абсталяваньне прадпрыемства радыёапаратаў «Электрыт» і каля 2 тысяч гатовых апаратаў. Было дэмантаванае й вывезенае абсталяваньне паперні, аляярні, кансэрвавай фабрыкі, вялікіх друкарняў, радыёстанцыі, з клінік — рэнтгенаўская апаратура, з польскага вайсковага шпіталя — мэбля й лекі... Моцна была разрабаваная віленская чыгунка. Адразу па заняцьці Вільні ваеннай адміністрацыяй Чырвонай Арміі вайсковай здабычай сталі 97 паравозаў, 1500 вагонаў, некалькі саставаў цягнікоў, загружаных правіянтам і зброяй, ваенныя склады... Зь менш вартаснага маёнтку вывезеныя мэбля магістрату, куратары, сканфіскаваныя ў прыватных асобаў фартэп'яны, радыёапараты...

Вываз архіваў, старых унікальных кніг прынёс вялікія страты навуцы й культуры. У лісьце Наткявічуса Молатаву за 13 студзеня 1939 году наконт вывезеных у пэрыяд 19 верасьня — 27 кастрычніка каштоўнасьцяў культуры, адзначана, што на даручэньне начальніка аддзелу культуры часовае ўправы віленскай акругі К.Клімава ў Менск вывезеныя матэрыялы архіву старажытных актаў XVI-XIX ст., музэю Мураўёва, вялікага князя Канстанціна, Віленскай Археалягічнай Камісіі, канцылярыі віленскага генэрал-губэрнатара, управы Віленскай губэрні, управы паліцыі й жандармэрыі й яшчэ шмат іншых архіваў. З надзвычай старанна сабранай бібліятэкі Ўрублеўскіх (цяпер Цэнтральная Бібліятэка Літоўскай Акадэміі Навук) вывезена 72 тамы аддзелу гісторыі Літоўскай дзяржавы, 678 тамоў аддзелу Вялікага Княства Літоўскага, 435 тамоў віленскага аддзелу літуаністыкі й іншыя зборы...

Пра лёс «мноства вывезеных у Менск бясцэнных кніг і архіваў» згадвае ў сваёй рэцэнзіі на кнігу Р.Жэпкайтэ «Рацыя толькі аднаго боку» польскі гісторык праф. П.Ласоўскі (Studia z dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej, t.XXXVII, 1993): «Там яны былі зваленыя ў падвалах і калідорах розных грамадзкіх будынкаў. Частка зь іх пазьней была залітая вадою й зьнішчана, частку літоўцы вярнулі ў часе нямецкай акупацыі».

У рапарце міністру замежных справаў 25 кастрычніка генэральны консул Літвы ў Вільні А.Трымакас пісаў, што робіць усё, што ў ягоных сілах, але ягоныя дэмаршы ня маюць выніку: прадстаўнікі цывільных і ваенных уладаў унікаюць спатканьняў зь ім, не прыймаюць яго, а ў часе выпадковых сустрэчаў у гатэлі (дзе ўсе яны жылі) тлумачаць, што маёмасьць вывозіцца зь Вільні як вайсковая здабыча. У тым самым рапарце ён піша, што К.Клімаў заахвочвае віленскую беднату секчы дрэвы ў парках, забіраць зь дзяржаўных складоў дровы й вугаль. Калі Трымакас запратэставаў супраць такіх дзеяньняў, Клімаў адказаў, што «хоць бы пры такой нагодзе трэба насыціць галодных, якія на працягу 20 гадоў ня мелі нічога». У Вільні панаваў хаос, незадавальненьне насельніцтва, што ўскладняла першыя дні літоўскай адміністрацыі. Усё гэта дзеялася на фоне перамоваў і падпісаньня дамовы паміж Літвой і Савецкім Саюзам...

## ЛІТОЎСКА-САВЕЦКАЯ ДАМОВА

Перамовы ў Маскве пачаліся 3 кастрычніка. У склад дэлегацыі Літвы ўваходзілі Урбшыс (міністар замежных спраў) і Наткявічус, Савецкі Саюз прадстаўлялі Молатаў, Пацёмкін; удзельнічаў прадстаўнік Савецкага Саюзу ў Літве Пазднякоў, на многіх паседжаньнях прысутнічаў Сталін.

У сваім *pro memoria* за 4 кастрычніка 1939 году Л.Наткявічус занатаваў такі эпізод: «Сталін сказаў, што Нямеччына хоча захапіць сабе яшчэ болей Літвы (Маецца на ўвазе — больш, чым Клайпеда, якая ўжо адыйшла да Нямеччыны. — **Рэд.**). І ён, Сталін, хацеў бы нават параіць літоўцам, каб саступілі, можна было б потым кампэнсаваць гэта большай тэрыторыяй на ўсходзе (Віленшчыне. — **Рэд.**). Акрамя таго, немцы нагадвалі яму, што ва ўсёй Літве жыве шмат немцаў і што яны маглі б згадзіцца на перасяленьне гэтых немцаў на частку тэрыторыі, якая павінна адыйсьці да іх, а літоўцы маглі быць пераселеныя на месца тых немцаў альбо ва Ўсходнюю Літву».

Р.Жэпкайтэ адзначае, што выканаўцы палітыкі Сталіна не забыліся нагадаць, што перадача Літве Віленшчыны — не такая простая справа, бо на яе прэтэндуюць таксама беларусы, што рэгіён усё больш «саветызуецца». У сваіх успамінах Урбшыс занатоўвае, што Молатаў «зьвярнуў увагу літоўскай дэлегацыі на паведамленьні газэт і дадаў, што ўрад Савецкага Саюзу «ня зможа доўга супакойваць працоўных людзей Вільні і не зважаць на іхнія жаданьні»».

Пасьля доўгіх дэбатаў літоўскі ўрад пастанавіў прыняць прапанову кіраўнікоў Савецкага Саюзу адносна заключэньня дамовы аб узаемнай дапамозе, але без гарнізонаў Чырвонай Арміі на тэрыторыі Літвы. Згодна з інструкцыяй, літоўская дэлегацыя, якая гэтым разам складалася з Урбшыса, віцэпрэм'ера К.Бізаўскаса, галоўнага камандзера арміі С.Раштікіса і інш., мусіла прапанаваць Савецкаму Саюзу абмен вайсковымі місіямі, павелічэньне колькасьці літоўскай арміі, ахову яе сіламі межаў Літвы, просьбу ў разе патрэбы аб дапамозе СССР.

7 кастрычніка пачаўся другі этап перамоваў. На паседжаньні 8 кастрычніка, у якім удзельнічаў Сталін, былі катэгарычна адкінутыя прапановы літоўскай дэлегацыі. Прадстаўнікі савецкага ўраду адкрыта казалі, што для Савецкага Саюзу Літва нашмат важнейшая за Латвію й Эстонію, бо мае мяжу зь Нямеччынай і ня здолее абараніць яе ўласнымі сіламі. Літве не шкадавалі абяцаньняў: зьнізіць кантынгент савецкіх войскаў да 20 тысяч, не перашкаджаць у самастойнай унутранай і замежнай палітыцы, захаваць яе сувэрэнітэт. Прыгадалі, што Нямеччына згадзілася, каб Літва была ў сфэры ўплываў СССР, што толькі на жаданьне Савецкага Саюзу немцы, якія хацелі забраць трэць тэрыторыі Літвы, саступілі й пакінулі сабе кавалак памежжа на Сувальшчыне. Гаварылася таксама пра вяртаньне Вільні Літве. Молатаў зазначыў, што Літва не павінна забываць, што тое, чаго не атрымала ад Лігі Нацый, вярнуў ёй Савецкі Саюз...

(П.Ласоўскі ў сваёй рэцэнзіі крытыкуе Р.Жэпкайтэ за сьцьверджаньне, быццам Нямеччына ня ўмешвалася тады ў справы савецкай дыпляматыі. Гітлераўскі ўрад, — піша польскі гісторык, — інфармаваў Літву пра тое, што менавіта зь нямецкай ініцыятывы Вільня перадаецца Літве).

Раніцою 9 кастрычніка Бізаўскас і Раштікіс былі выкліканыя ў Коўна... Тут ім было даручана падпісаньне двух дамоваў: аб перадачы Вільні й акругі Літве і аб узаемнай дапамозе з Савецкім Саюзам на ўмовах, накінутых ягонымі правадырамі. Надзеленыя адпаведнымі паўнамоцтвамі Бізаўскас і Раштікіс увечары 9 кастрычніка вярнуліся ў Маскву... Але цяпер замест ранейшых дзьвюх дамоваў — аб вяртаньні Літве Вільні й Віленшчыны і аб узаемнай дапамозе — ім была прадстаўленая адна дамова, якая злучала ў сабе дзьве папярэднія. Натуральна, што зроблена гэта было невыпадкова: вяртаньне Вільні было непадзельна зьвязана з умовамі дагавору аб узаемнай дапамозе — прагнучы вярнуць Вільню, Літва не магла адмовіцца ад аднаго з найважнейшых пунктаў дамовы аб узаемнай дапамозе, г.зн. пусьціць да сябе гарнізоны Чырвонай Арміі.

*Pro memoria* Наткявічуса за 11 кастрычніка 1939 году адлюстроўвае рэзкую зьмену атмасфэры перамоваў на іх канцовым этапе: кожная заўвага ці прапанова літоўскай дэлегацыі выклікала моцнае раздражненьне Молатава. Літоўскай дэлегацыі ўручылі мапу, на якой была пазначаная ўжо вернутая тэрыторыя. Яе ўсходняя мяжа праходзіла прыблізна ў адлегласьці 50, часам 70 км ад Вільні. Літоўская дэлегацыя згадзілася на ўсе ўмовы. Дагавор быў падпісаны ўвечары 10 кастрычніка 1939 году.

Ва ўступе было зазначана, што справядлівае вырашэньне пытаньня дзяржаўнай прыналежнасьці Вільні й Віленскай акругі, а таксама запэўненьне бясьпекі адпавядае інтарэсам абодвух дагаворных бакоў. У восьмым пункце дамовы ўстаноўлены час яе дзеяньня — 15 гадоў. Разам зь Вільняй Літве перадавалася тэрыторыя ў памеры 6656 км², якая ў дамове была акрэсьленая як акруга. На апошнім паседжаньні 28 кастрычніка было падпісанае пагадненьне ў справе дыслякацыі кантынгенту савецкіх салдатаў (20.000) на тэрыторыі Літвы. Пастаноўлена разьмясьціць вайсковыя падразьдзелы Савецкага Саюзу ў Аліце, Прэнах, Гайжунах і Новай Вялейцы...

Хада перамоваў паказвае, — піша літоўская дасьледчыца, — што найбольш увагі было прысьвечана праблемам дамовы аб узаемнай дапамозе. Вяртаньне Вільні было ператворана ў сродак націску на літоўскі ўрад і яго дэлегацыю, каб яны згадзіліся на ўмовы савецкіх дыпляматаў. У сваіх успамінах Урбшыс пісаў, што гэта была унікальная, магчыма адзіная нагода вярнуць Вільню.

13 кастрычніка пасол Польшчы ў Літве Ф.Харват прыбыў у Міністэрства Замежных Справаў і ўручыў ноту пратэсту. «Ад імя свайго ўраду, — гаварылася ў ноце, — публічна й катэгарычна пратэстую супраць гэтага акту, які ня можа адпавядаць міжнароднаму праву й гуманнасьці». Вяртаньня Літве Вільні й Віленшчыны не прызналі таксама буйныя дзяржавы, у тым ліку Англія. Т.Г.Прэстан, прадстаўнік Англіі ў Коўне, сказаў у размове з дэлегацыяй прыбылых у Коўна палякаў, што Англія ў знак пратэсту супраць учыненага Літвою захопу Вільні не перанясе туды свайго пасольства.

## ЛІТОЎСКІ ПАХОД НА ВІЛЬНЮ

Для прыняцьця Вільні й Віленшчыны з розных адзінак літоўскага войска было ўтворанае Віленскае згрупаваньне. 14 кастрычніка загадам міністра аховы краю была створана ваенная камэндатура места Вільні.

Ва ўстаноўлены час 28 кастрычніка, не сустракаючы ніякага супраціву, падразьдзелы літоўскага войска ўступілі ў Вільню. Прывітаньне было вельмі ўрачыстае, — зазначае Р.Жэпкайтэ. З прамовамі выступілі дэлегацыі літоўцаў і беларусаў. Большасьць насельніцтва ацаніла прыход літоўскага войска як меншае зло: гэта было лепш, чым акупацыя гітлераўскай Нямеччыны, а для заможных — лепш за прыход Чырвонай Арміі.

29 кастрычніка наступіла ўрачыстасьць падняцьця сьцяга на Гары Гедыміна, у часе якой павінны былі біць званы ва ўсіх касьцёлах места, аднак яны не азваліся. Такім чынам каталіцкі касьцёл Вільні пачаў выказваць свае адносіны да ўступленьня літоўскага войска ў горад, а адначасова й да літоўскае ўлады.

У той час грамадзтва самой Літвы было падзеленае на дзьве процілеглыя часткі. Адна зь іх, левая, была пад уплывам КПЛ. Яе пазыцыю 11 кастрычніка выказаў Юстас Палецкіс: «У вольную Вільню павінна йсьці

*Працяг на старонцы 23*

ТАПАГРАФІІ

# Дзе жыве ведзьма?

Сяргей Вітушка

У ліпені гэтага году мелася адбыцца цікавая экспэдыцыя да вытокаў рэчкі Віленкі. Ладзілі яе менчукі, а мы, зь Вільні, вырашылі далучыцца да іхняе кампаніі. Кіраваў экспэдыцыяй мой даўні сябра археоляг Эдвард Зайкоўскі. Трэба сказаць, што раскопкі з Эдвардам ніколі не былі проста археалягічнымі раскопкамі. Гэта заўсёды была праца ў нейкім адмысловым рэжыме — мэтадычнае навуковае здабываньне рэштак матэрыяльнае культуры і, як бы жартоўныя (дзеля апраўданьня перад іншымі), а папраўдзе страшэнна сур'ёзныя спробы рэканструкцыі сьветапогляду й містычных рытуалаў нашых першабытных продкаў. Эдвард Зайкоўскі дасьледуе паганскія капішчы.

Так было й на гэты раз. Экспэдыцыя ладзілася да вытокаў Віленкі. Пра крыніцы, зь якіх пачынаецца рэчка, да гэтае пары захавалася мноства ўсялякіх баек, а гэта стопроцэнт, што калісь тут было капішча. Раскопкі й этнаграфічнае дасьледаваньне якраз мелі пацьвердзіць гіпотэзу.

Калі прыбылі на месца, то зразумелі, што спазьніліся. Гадоў на пяць. Тады, як кажуць мясцовыя людзі, паднялі былі «шуру-буру», зрабілі «мэльярацыю». Тая мэльярацыя «зьніштожыла» многія крыніцы, прыроднае рэчышча Віленкі. Рэчка абмялела й была ўвагнана ў роўную канаву. Камяні, што стаялі ля крыніцаў, пасьцягвалі ўбок, большыя нават паўзрывалі.

Пасьля аднэй «шуры-буры» неўзабаве наляцела другая. Паміж Беларусяй і Літвой усур'ёз абвясьцілі мяжу, а мяжа тая яшчэ раней была праведзена якраз па рэчышчы Віленкі. Вядома, каб ня дзьве тыя акалічнасьці, дасьледаваць гэты край было б значна лацьвей. Але варта было пашукаць хаця .ж тое, што засталося.

Мы прыбылі на літоўскі бок таго поля, дзе пачынаецца Віленка, у вёску Віндзюны, і вырашылі, каб ня йсьці ў госьці з пустымі рукамі, абсьледаваць усё па гэты бок мяжы. Пачалі пытаць пра крыніцу ў мясцовых жыхароў. Нам паведамілі, што мы ня першыя ёю цікавімся і сталі паказваць хто ў адзін, хто ў другі бок. «Мне тата паказваў — вунь там пачынаецца Віленка, на Кямянскім полі. Вунь — адсюль відаць, там беларуская крыніца...» «... Дзе тая крыніца? Ну, мусі, там, у той канец вёскі, напроці хаты Зыдора Дудзеня. — А ці вялікая туды далей ваша вёска? — Настаяшча...»

Празь мяжу да беларускай крыніцы не сьпяшаемся, ідзем у другі бок, да іншай крыніцы. Чым бліжэй падыходзім, тым больш цікавымі й падрабязнымі робяцца аповеды людзей. Нарэшце паказваюць месца, дзе колісь з-пад камяніцы (з-пад крушні каменьня) біла крыніца. Цяпер ад яе не засталося й сьледу. Трохі далей пачынаецца мэліярацыйная калюжына, на дне якое сочыцца вада.

Але нас у гэтых мясьцінах цікавіць ня толькі крыніца. Мы маем зьвесткі, што дзесь тут мусіць быць камень зь дзіўнаю назваю — «ведзьміна печ». На пачатку вёскі нам пра яго ніхто нічога ня мог сказаць. А вось тут пашанцавала. Ля аднае хаты, што стаіць у бярэзьніку, наводдаль ад вёскі, на панадворку сустрэлі бабульку й разнаёміліся. Гэта пані Альжбета, мае восемдзесят гадоў. «... Тут заўсёды жыем — і дзяды, і бацькі, і дзеці, і дзецяняты...» Пытаемся пра камень. «Ёсьць такі. Там вунь, далей, у лесе. Ведзьміна печ. Ломіна печ. — Ломіна? Чаму ломіна? — Ну, так называлі, можа, што пабітая была... (потым мы ўжо самыя здагадаліся, што «ломіна» калісьці відаць гучала як «лойміна», а «laūmė», «лойма» ў літоўскай мове і некаторых дыялектах беларускай азначае вядзьмарку, чараўніцу). І мама, і тата казалі, што ведзьма там жыла, усё печ тапіла, зімой грэлася, дзяцей кругом цягала. Мы то баяліся туды хадзіць. — А пазьней, як вырасьлі, ці хадзілі, ці бачылі тую печ? — Не. Я й цяпер там

*Працяг на старонцы 23*

# МІЖНАРОДНАЯ ХАРТЫЯ

## ў справе кансэрвацыі й рэстаўрацыі помнікаў і гістарычных мясьцін

**Сёлета — 30-я ўгодкі «Вэнэцыянскае хартыі», што была прынятая на II-м Міжнародным Кангрэсе архітэктараў і тэхнічных спэцыялістаў у гістарычных помніках. У рабоце Кангрэсу ўзялі ўдзел дэлегацыі UNESCO, Рады Эўропы ды іншых сусьветных арганізацый, прадстаўнікі 61 краіны — разам больш за 500 удзельнікаў. Цягам амаль трацiны стагодзьдзя папера, якая мае афіцыйны назоў «Міжнародная хартыя ў справе кансэрвацыі й рэстаўрацыі помнікаў і гістарычных мясьцінаў», рэглямэнтуе чыннасьць удзельнікаў працэсу аховы й рэстаўрацыі архітэктурнае спадчыны ва ўсім цывілізаваным сьвеце.**

**Распрацаваная ў Вэнэцыі хартыя мела значна больш шырокі ўплыў, чымся папярэдняя «Атэнская хартыя» (1931) і, будучы фундамэнтальным міжнародным дакумэнтам па тэорыі рэстаўрацыі, адбілася ў многіх нацыянальных заканадаўствах, у рэгіянальных хартыях розных частак сьвету.**

**Ну, а што ж Беларусь?**

**Заняволеная Савецкім Саюзам, наша краіна толькі ў 1976 годзе атрымала «Закон аб ахове й выкарыстаньні помнікаў гісторыі й культуры», цалкам дэкляратыўны й нядзейсны. Недакладны пераклад хартыі на расейскую мову як адну з рабочых моваў UNESCO быў апублікаваны ў кнізе «Методика и практика сохранения памятников архитектуры» (Масква, 1974) і ў ратапрынтавым інфармацыйным аглядзе «Актуальные проблемы охраны памятников истории и культуры» (Масква, 1976). Уважаючы на тое, што наступныя 25 гадоў тэкст хартыі не друкаваўся, наклады першых публікацыяў (1000 і 1060 асобнікаў) у маштабах Савецкага Саюзу ўражваюць. Што да беларускага чытача, дык ён з «Вэнэцыянскай хартыяй», здаецца, не знаёмы наогул.**

**Таму прачытайма тэкст упершыню па-беларуску, узгадайма стан нашых помнікаў, плён свойскае саматужнае рэстаўрацыі — няякасную індустрыйную цэглу на цэмэнтавай рошчыне, зь якой наноў збудаваны Лідзкі замак, змытыя руплiўцамі Беларускае Каталіцкае Грамады фрэскі магілёўскага Станіславаўскага касьцёла, недарэчную нэавізантыйскую мазаіку на бараковым фасадзе менскага Катэдральнага сабору — і паспрабуем уявіць, ці ж блізкі будзе беларускі шлях да цывілізацыі ў гэтым кірунку.**

Прасякнутыя сьведчаньнямі мінуўшчыны, гістарычныя помнікі, створаныя пакаленьнямі людзей, паўстаюць у сёньняшнім часе жывымі сьведкамі сваіх пракаветных традыцыяў. Людзі ўсё больш усьведамляюць адзінства чалавечых вартасьцяў і глядзяць на старажытныя помнікі як на агульную спадчыну. Яны прызнаюць сваю супольную адказнасьць за захаваньне помнікаў для наступных пакаленьняў. Наш абавязак — перадаць іх у поўным багацьці іхняе аўтэнтычнасьці.

Істотна неабходна, каб прынцыпы, якімі кіруюцца ў захаваньні й рэстаўрацыі старажытных будынкаў, былі ўзгодненыя й выпрацаваныя на міжнародным груньце, прычым каб кожная краіна была адказная за іхнюю рэалізацыю ў межах свае ўласнае культуры й традыцыяў.

Упершыню вызначаючы гэтыя базавыя прынцыпы, Атэнская хартыя 1931 года паспрыяла разьвіцьцю шырокага міжнароднага руху, што знайшло канкрэтнае адлюстраваньне ў нацыянальных дакумэнтах, у працы ICOM і UNESCO і ў заснаваньні апошняю Міжнароднага цэнтра дасьледваньняў у галіне кансэрвацыі й рэстаўрацыі культурнае спадчыны. Спатрэбілася глыбейшае ўсьведамленьне й крытычнае вывучэньне, каб вырашаць праблемы, што няспынна ўскладняюцца і ўразнастайваюцца; сёньня надыйшоў час перагледзець Хартыю дзеля падрабязнага вывучэньня закладзеных у ёй прынцыпаў і пашырэньня ейных межаў у новым дакумэнце.

З улікам вышэйпададзенага, II Міжнародны кангрэс архітэктараў і тэхнічных спэцыялістаў у сфэры гістарычных помнікаў, што адбыўся ў Вэнэцыі 25-31 траўня 1964 году, прыняў наступны тэкст:

### «ВЫЗНАЧЭНЬНІ»

Артыкул 1. У паняцьце гістарычнага помніка ўваходзіць ня толькі асобны архітэктурны твор, але й гарадзкі або сельскі асяродак, што мае прыкметы адмысловае цывілізацыі, свасасаблівага шляху разьвіцьця або гістарычнае падзеі. Яно пашыраецца ня толькі на выдатныя творы мастацтва, але й на больш сьціплыя творы мінуўшчыны, што набылі культурную значнасьць зь цягам часу.

Артыкул 2. Падчас кансэрвацыі й рэстаўрацыі помнікаў належыць зьвяртацца да ўсіх відаў тэорыі і практыкі, што могуць спрыяць вывучэньню й захоўваньню архітэктурнае спадчыны.

Артыкул 3. Мэтаю кансэрвацыі й рэстаўрацыі помнікаў ёсьць захаваньне іх як твораў мастацтва, а таксама як гістарычнага сьведчаньня.

### «КАНСЭРВАЦЫЯ»

Артыкул 4. Істотна важным для кансэрвацыі помнікаў ёсьць няспынны догляд іх.

Артыкул 5. Кансэрвацыя помнікаў заўсёды палягчаецца скарыстаньнем іх дзеля сацыяльна карысных мэтаў. Таму такое скарыстаньне пажаданае, але пры тым не павінны ўносіцца зьмены ў распляноўку або ў аздабленьне будынкаў. Толькі ў гэтых межах маюць быць разгледжаныя й могуць быць дазволеныя мадыфікацыі, што вымагаецца зьмяненьнямі функцыяў.

Артыкул 6. Кансэрвацыя помніка прадугледжвае захваньне сувымернага яму асяродзьдзя. Там, дзе традыцыйнае асяродзьдзе йснуе, яно павінна захоўвацца. Недапушчальнае ніякае новае будаўніцтва, разбурэньне або мадыфікаваньне, што можа ўнесьці зьмены ў сувязь аб'ёму й колеру.



Артыкул 7. Помнік неадлучны ад гісторыі, сьведкам якое ён паўстае, і ад асяродзьдзя, дзе ён разьмешчаны. Перамяшчэньне ўсяго або часткі помніка недапушчальнае, за выключэньнем выпадкаў, калі гэта апраўдваецца нацыянальнымі або міжнароднымі інтарэсамі выключнай значнасьці.

Артыкул 8. Скульптурныя, жывапісныя або аздабленчыя каштоўнасьці, што ўтвараюць складовую частку помніка,

*Працяг на стар. 14*

# БЕЛЫ НАСАРОГ

Антон Сіюль

Сымбалі кажуць нам болей, чым тамы энцыкляпэдый. Звычайны грамадзянін не прыгадае й аднаго імя эгіпэцкага бога. Затое, варта пабачыць выяву славутых пірамідаў, і адразу ўсплывае ў памяці ўвесь школьны баляст... Згадваюцца фараоны.

Сымбалі зазвычай перажываюць сваіх стваральнікаў і носьбітаў. Калі, вядома, гэта выбітныя сымбалі гісторыі з геаграфіяй. Вялікі мур — Кітай. Адраснасьць абсалютная. Статуя Свабоды — ... Эйфэлева вежа — ... Калізэй — ... і г.д.

Меншая ці большая таямніца ёсьць у кожным кутку Зямлі. Прыгожы лес, дзікая неруш за палямі ці проста вялікая гара, пра якую складаюць паданьні — таксама сымбалі розных краёў. Большасьць нашых ведаў, да прыкладу, пра Нэпал засяроджана вакол Эвэрэсту. А нашыя суседзі (далёкія й блізкія) па сёньняшні дзень упэўненыя, што Беларусь — гэта край балотаў.

Кожны народ мае свае сьвятыні, якія належаць яму выключна. Нават калі яны існуюць за межамі нацыянальнае дзяржавы. Каму можа належаць мячэт Амара ў Ерусаліме, апроч тых, для каго ён сьвятыня? Нацыянальныя сьвятыні высьвячаныя мітамі, жарсьцямі і... прагаю імі валодаць. Нават таталітарныя рэжымы Расеі, Кітаю, Румыніі нават падчас лютаваньня «культурных рэвалюцыяў» не падымалі руку на некаторыя помнікі, лёс якіх цалкам залежаў ад іх. Мяжа, ля якой спыніцца разьятраны вандал, існавала нават пры камуністах.

Часам помнік, які зьяўляецца нацыянальнай сьвятыняй, паводле сваіх эстэтычных ці мэмарыяльных вартасьцяў настолькі пераўзыходзіць нацыянальны маштаб, што становіцца агульным. Піраміды Эгіпту, Баальбэк, Барабадур — гэта тое, што, належыць усяму людзтву, каардынаты, адносна якіх вымяраюць вяршыні чалавечага генію. Гэтаксама часьціны зямной прыроды, пушча, гара альбо белы насарог — не падлягаюць праву ўласнасьці аднае дзяржавы, аднае нацыі. Гэтая спадчына пароўну належыць усім.

Але спадчына: ці то архітэктурны помнік, ці то урбаністычны ансамбаль, унікальны краявід, некрануты закутак прыроды, — адчувае на сабе наступ разбуральнага часу. Перад такой небясьпекай, як антрапагенны прэс (урбанізацыя, індустрыялізацыя, забруджваньне), які набыў глябальны характар, узьнікае разуменьне патрэбы транснацыянальных высілкаў дзеля зьберажэньня дзікай прыроды й абсалютных у сваёй значнасьці помнікаў чалавечага розуму й пачуцьця. Перад чалавецтвам стаіць мэта стварыць такі сусьветны мэханізм, зь якім можна было б гарантаваць, што эталёны прыродных комплексаў розных куткоў сьвету захаваюцца як адзіны непарыўны ланцуг на ўсёй плянэце. Тое самае тычыцца й помнікаў чалавечае культуры.

Канвэнцыя, прынятая ў лістападзе 1972 году на Генэральнай канфэрэнцыі UNESCO, распаўсюджваецца на нерухомасьць. У ёй вызначаюцца помнікі, групы будынкаў і гістарычныя мясьціны як культурная спадчына, а зьявы прыроды (фізычныя й геалягічныя ўтварэньні, біялягічныя адзінкі й г.д.) — як прыродная спадчына. Гэты дакумэнт стаў правамоцны ў 1975 годзе. Беларуская ССР падпісала яго 12 кастрычніка 1988 г., праз паўгады пасьля Парагваю.

1 чэрвеня 1988 г. быў зацьверджаны Сьпіс сусьветнае спадчыны, куды ўвайшлі першыя 12 аб'ектаў.

З таго часу Сьпіс несупынна павялічваецца. Ён фармуецца наступным чынам: дзяржава прапануе пералік каштоўнасьцяў культурнае й прыроднае спадчыны, якія, на яе меркаваньне, маюць агульналюдзкую вартасьць. Камітэт сусьветнае спадчыны (які складае 21 прадстаўнік ад розных краінаў) улучае ў Сьпіс толькі тыя зь іх, якія адпавядаюць простай і надта шырокай, а таму непазьбежна суб'ектыўнай фармулёўцы — «выдатная ўнівэрсальная каштоўнасьць». Нягледзячы на ўдасканаленьне крытэрыяў, спрэчкі паміж мастацтвазнаўцамі й гісторыкамі, эколягамі й архітэктарамі не сьціхаюць.

Штогод увосень Камітэт зьбіраецца, каб улучыць у Сьпіс новыя прапанаваныя аб'екты. Вызначыць іх дапамагаюць

*Працяг на стар. 14*

# МІЖНАРОДНАЯ ХАРТЫЯ

*Працяг са старонкі 13*

могуць быць перамешчаныя ад яго толькі ў тым выпадку, калі гэта адзіны спосаб забясьпячэньня іхняе захаванасьці.

### РЭСТАЎРАЦЫЯ

Артыкул 9. Працэс рэстаўрацыі ёсьць высокаспэцыялізаванай апэрацыяй. Яе мэта — захаваньне й выяўленьне эстэтычнае й гістарычнае вартасьці помніка; яна грунтуецца на павазе да першапачатковага матэрыялу й аўтэнтычных дакумэнтаў. Рэстаўрацыю належыць спыніць у тым месцы, адкуль пачынаецца здагадка, і, апрача таго, у такім выпадку, любая неабходная дадатковая работа мусіць адрозьнівацца ад архітэктурнае кампазыцыі ды несьці на сабе адбітак сучаснасьці. У любым выпадку перад і падчас рэстаўрацыі павінна весьціся археалягічнае й гістарычнае вывучэньне помніка.

Артыкул 10. У выпадку непрыдатнасьці традыцыйных мэтадаў, умацаваньне помніка можа праводзіцца праз скарыстаньне сучасных канструкцыйных і кансэрвацыйных мэтадаў, плённасьць якіх пацьвярджаецца навуковымі дасьледаваньнямі ды гарантуецца на вопыце.

Артыкул 11. Значныя адбіткі ўсіх пэрыядаў пабудовы помніка мусяць шанавацца, бо адзінства стылю ня ёсьць мэтаю рэстаўрацыі. Калі будынак улучае ў сябе напластаваньні розных пэрыядаў, раскрыцьцё найранейшага стылю можа быць апраўданае ў выключных абставінах, калі зьнятыя элемэнты ўяўляюць малую цікавасьць, а раскрыты матэрыял мае вялікую гістарычную, археалягічную або эстэтычную вартасьць, і стан яго захаванасьці дастаткова добры для апраўданьня падобнага ўчынку. Ацэнка значнасьці такіх элемэнтаў і рашэньне адносна таго, што можа быць разбуранае, не павінны ўскладацца адно на асобу, адказных за работу.

Артыкул 12. Элемэнты, якімі замяняюцца страчаныя часткі, павінны гарманічна спалучацца з цэлым, але адначасова яны мусяць адрозьнівацца ад арыгіналу такім чынам, каб рэстаўрацыя не фальсыфікавала мастацкі або гістарычны грунт.

Артыкул 13. Дадаткі ня могуць быць дазволеныя, за выключэньнем выпадкаў, калі яны не ўплываюць на цікавыя часткі будынку, ягонае традыцыйнае атачэньне, на раўнавагу паміж ягонай кампазыцыяй і сувязьзю з навакольлем.

### ГІСТАРЫЧНЫЯ МЯСЬЦІНЫ

Артыкул 14. Мясьціны, дзе знаходзяцца помнікі, мусяць быць аб'ектамі спэцыяльнага клопату, што мае на мэце захаваць іхнюю інтэгральнасьць і забясьпечыць належным чынам іхні догляд і выгляд. Кансэрвацыйныя ды рэстаўрацыйныя работы, што праводзяцца ў такіх мясьцінах, павінны ажыцьцяўляцца адпаведна з прынцыпамі, выкладзенымі ў ранейшых артыкулах.

### РАСКОПКІ

Артыкул 15. Раскопкі мусяць праводзіцца згодна з навуковымі стандартамі й рэкамэндацыямі, што вызначаюць міжнародныя прынцыпы правядзеньня археалягічных раскопак, прынятымі UNESCO ў 1956 г.

Руінам павінны забясьпечвацца догляд, і павінны прымацца неабходныя захады дзеля сталае кансэрвацыі ды аховы архітэктурных элемэнтаў і выяўленых прадметаў. Апроч таго, належыць прыняць усялякія захады, каб палегчыць разуменьне помніка й паказаць яго, не скажаючы ягонага значэньня.

Любая рэканструкцыя павінна адкідацца *a priori* (адразу). Толькі анастылёз, г.зн. зьбіраньне ацалелых, але разрозьненых частак можа дапускацца. Матэрыял, ужыты для аднаўленьня цэльнасьці, заўжды мае быць пазнавальны, а ўжывацца ён мусіць у мінімальнай колькасьці, толькі дзеля забесьпячэньня кансэрвацыі помніка ды аднаўленьня ягонае формы.

### ПУБЛІКАЦЫЯ

Артыкул 16. Ва ўсіх работах у галіне захаваньня, рэстаўрацыі або раскопак заўжды мае быць складзеная дакладная дакумэнтацыя ў форме аналітычных і крытычных справаздач, ілюстраваных крэсьленьнямі і фотакарткамі.

У яе мае ўваходзіць кожная стадыя работ у раскрыцьці, умацаваньні, прыстасаваньні ды інтэграваньні, а таксама тэхнічныя й фармальныя рысы выяўленыя падчас работы. Гэты дакумэнт мусіць быць зьмешчаны ў архівы грамадзкай установы й заставацца даступным для дасьледчыкаў. Рэкамэндуецца публікаваньне такой справаздачы.

Пераклад з ангельскай Алеся Істоміна

# 13 ПОМНІКАЎ

Ігар Чарняўскі

Беларуская частка сусьветнага Сьпісу помнікаў можа выглядаць так:

**1. Краснасельскія крэмневыя капальні часоў нэаліту й бронзы пад Ваўкавыскам;**
**2. Спасаўская царква XII ст. Спаса-Еўфрасінеўскага манастыра ў Полацку;**
**3. Барысаглебская (Каложская) царква XII ст. у Горадні;**
**4. Замак XIV ст. у Крэве Смаргонскага раёну;**
**5. Стары замак XV-XVIII стст. у Горадні;**
**6. Царква XV ст. у Сынковічах Зэльвенскага раёну;**
**7. Царква XVI ст. у Мураванцы Шчучынскага раёну;**
**8. Замак XVI-XVII стст. у Міры Карэліцкага раёну;**
**9. Замак і парк XVI-XVIII стст. у Нясьвіжы;**
**10. Фарны (езуіцкі) касьцёл XVI ст. у Нясьвіжы;**
**11. Сафійскі сабор XI-XVIII стст. у Полацку;**
**12. Дом Ураду ў Менску;**
**13. Ляндшафтны заказьнік «Блакітныя азёры» ў Мядзельскім раёне.**

Пры адборы гэтых прапановаў немагчыма было прыкласьці нейкія адназначныя крытэрыі ацэнкі. Найперш мелася на ўвазе тое, што вызначае помнік як выключна беларускую зьяву: ці адлюстраваліся ў ім традыцыі, мараль, этапы гісторыка-культурнай эвалюцыі краіны. Але істотныя былі й сьведчаньні ўзаемных уплываў з культурамі суседніх народаў.

Было ўлічана таксама найбольш поўнае захаваньне гістарычных прыкметаў. У шэрагу выпадкаў з-за больш позьніх перарobак, якія нанесьлі страты аўтэнтычнасьці помніка й ня сталі фактарам яго разьвіцьця, даводзілася адмаўляцца ад спакусы назваць тую або іншую каштоўнасьць. Так, прыкладам, сталася з гістарычнай забудовай Горадні або Менску. У першым выпадку сучасная архітэктура гвалтоўна ўварвалася ў раён плошчы Савецкай і аднайменнай вуліцы гораду, ня толькі не дапоўніла горадабудаўнічы ансамбаль, але й нанесла яму шкоду, стала «бяльмом на воку» ў гістарычным асяродзьдзі. Выправіць сытуацыю магчыма празь ліквідацыю гэтага гвалту і ўзнаўленьне старасьвецкае забудовы або арганічнае дапаўненьне прагалаў у кварталах творамі (!) сучаснае архітэктуры. Нешта падобнае можна было б гаварыць пра Нясьвіж, Пінск, Полацак, Слонім і многія іншыя беларускія гарады й мястэчкі.

У Менску нічым не апраўдаеш «творчасьць» сучасных архітэктараў на Нямізе, у Ракаўскім прадмесьці. Дыскусійным бачыцца зьяўленьне дзевяціпавярховых гмахаў у кварталах вуліц Інтэрнацыянальнай, Рэвалюцыйнай (назвы самы раз для гораду з тысячагадовай гісторыяй). Дастаткова спрэчны мэтад «рэстаўрацыі», якая вядзецца сёньня ў «саборнай» частцы Верхняга гораду. У некаторых выпадках гэтыя работы складана назваць нават рэканструкцыяй, бо адбываецца поўнае зьнічаньне канструктыўных асаблівасьцяў будынкаў, іх вонкавага абліччa, месца ў традыцыйным асяродзьдзі. Таму на сёньня й не выпадае гістарычную забудову хаця б аднаго зь беларускіх гарадоў ці мястэчак выводзіць у ранг сусьветнага эталёну.

Паколькі стандартны пералік крытэрыяў для ўсяго сьпісу прыкласьці немагчыма, то да кожнай з вылучаных пазыцыяў варта даць камэнтар. Зразумела, што ў кожным канкрэтным выпадку ўплывае й прыватнае стаўленьне, уласны эмацыйны падыход, магчыма, настальгічныя пачуцьці, бо з кожным помнікам зьвязаны кавалак асабістага жыцьця. Але гэта — не ад празьмернай пачуцьцёвасьці аўтара, які вымушаны спадзявацца на ўласную інтуіцыю — у сваім вузкім і слаба інфармаваным коле зацікаўленых гэтай справай спэцыялістаў, якія яшчэ не знайшлі свайго месца ў структуры міжнароднага рэстаўрацыйнага руху й ня вызначыліся з крытэрыямі адбору.

1. Краснасельскія крэмневыя капальні ўнікальныя ня проста для тэрыторыі Беларусі, але і ў кантэксьце станаўленьня вытворчых адносінаў, узаемакантактаў і ўзаемаўплываў паміж насельнікамі розных тэрыторый, разьвіцьця пэўнай прафэсійнай дзейнасьці чалавека й падзелу працы. Гаворачы пра гэта, варта мець на ўвазе цэлы комплекс занятkaў: капальніцкая дзейнасьць па здабычы крэмню; вытворчасьць зь яго вырабаў; падрыхтоўка прадукцыі — як крэмневай сыравіны, так і ў выглядзе апрацаваных прадметаў працы й вайсковага рыштунку — на продаж; рэалізацыя ўсяго гэтага; дастаўка ў ваколіцы Краснасельскага радовішча ўсяго неабходнага для капальнікаў, вытворцаў вырабаў, іхніх родзічаў. Археалягічныя дасьледаваньні сьведчаць, што здабыча крэмню пад Красным Сялом мела значэньне далёка за межамі яго ваколіцаў.

# БЕЛЫ НАСАРОГ

*Працяг са старонкі 13*

ICOMOS і MSAP, якія прыцягваюць да супрацоўніцтва спэцыялістаў з розных кантынэнтаў. Нарэшце й Беларусь сабралася самастойна вызначацца з сваімі помнікамі. Што ж у нас такога «каштоўнага ўнівэрсальна»?..



У падтрымку Канвэнцыі UNESCO быў створаны Фонд аховы сусьветнае культурнае й прыроднае спадчыны, які дае фінансавую й тэхнічную дапамогу абмежаваным у сваіх рэсурсах краінам. Складкі ў Фонд паступаюць ад усіх дзяржаваў-бакоў: альбо адзін працэнт ад абавязковых складак у бюджэт UNESCO, альбо добраахвотныя складкі, роўныя таму ж аднаму працэнту. Апроч таго, Фонд атрымлівае сродкі ад няўрадавых арганізацыяў і ад прыватных асобаў. Фінансуе ён канкрэтныя праграмы. Напрыклад, для Гаіці была распрацаваная праграма захаваньня гістарычных помнікаў (Ля-Сітадэль, Сан-Сусі й Рам'ер) і падрыхтоўкі кадраў на агульную суму 4 млн. даляраў. Дапамогу гаіцянам у гэтым праекце з канца 70-ых даюць Аўстрыя, Канада, Галяндыя, Францыя, Нямеччына й Чылі. Пінaчэтаўскае Чылі, яшчэ не далучыўшыся да Сьпісу, давала добраахвотную дапамогу ў справе ўратаваньня помнікаў на Гаіці...

Ня менш уражвае й праект уратаваньня белага насарога ў нацыянальным парку Гарамба ў Заіры. Гэта адзіны на зямлі прытулак 12-ці ўнікальных жывёлаў. Дзякуючы падтрымцы Фонду колькасьць гэтае папуляцыі вырасла ўдвая. Сёньня парк Гарамба зьяўляецца ўзорным. На яго тэрыторыі (4.480 км²) жывуць сотні тысячаў дзікіх жывёлаў: сланоў, бегемотаў, жырафаў... і белыя насарогі.

Натуральна, у Сьпіс сусьветнае спадчыны ўнесена далёка ня ўсё з таго, што вартае ўвагі на плянэце. Але сам факт улучэньня таго ці іншага аб'екту стымулюе захаваньне асяродзьдзя й помнікаў культуры на ўсіх узроўнях. Падпісаўшы Канвэнцыю, дзяржава ўмацоўвае свой прэстыж, мае права на атрыманьне канкрэтнае, неадкладнае дапамогі ў выпадку стыхійных бедзтваў альбо эканамічнага крызысу.

Па меры ўдакладненьня задачаў Канвэнцыі, стае відавочным, што сродкі, неабходныя для іх выкананьня, перавышаюць тыя рэсурсы, якія мае Камітэт сусьветнае спадчыны, і той вымушаны абмяжоўвацца фінансаваньнем толькі самых неабходных праектаў. Найперш сусьветная супольнасьць усё ж мусіць дамовіцца пра тое, што зьяўляецца «спадчынай», асабліва цяпер, калі разьвіцьцё навукі й пашырэньне канцэпцыяў гісторыі культуры вядуць да пашырэньня гэтага паняцьця на ўсё, што ні ёсьць. Усё існае належыць гісторыі, уся прырода, любое стварэньне чалавечых рук заслугоўваюць вывучэньня й руплівага стаўленьня. Але калі людзтва не дамовіцца пра тое, што менавіта трэба лічыць супольнай спадчы-

2. Спасаўская царква XII ст. у Полацку — першае вядомае збудаваньне, якое паклала пачатак перайначаньню на мясцовы лад візантыйскіх традыцыяў у архітэктуры. Менавіта ў яе аблічча ўвасобілася ідэя пабудовы стромкіх вежападобных збудаваньняў, што было пэўным запазычаньнем з грамадзянскай ды вайсковай архітэктуры. У сваю чаргу, полацкая школа дойлідзтва XII ст. зрабіла выключны ўплыў на разьвіцьцё будаўнічай справы ва ўсходнеславянскіх землях. Першая пад непасрэдным уплывам полацкай архітэктуры была ўзьведзеная царква Арханёла Міхаіла ў Смаленску. Распаўсюджаньне новай мастацкай традыцыі па ўсходнеславянскай тэрыторыі прывяло да станаўленьня нацыянальнай маскоўскай архітэктуры, зь якой вырасла расейская традыцыя праваслаўнага будаўніцтва.

Прыёмы пабудовы вежападобных культавых збудаваньняў вярнуліся на Беларусь у XIX ст. у вобразе «мураўёвак», бо з XIII ст. на беларускіх землях укараняюцца позьнераманскія і неўзабаве — раньнегатычныя традыцыі. Мэнтальнасьць беларускага народу, традыцыі ўзаемадачыненьняў зь сьветам дазволілі беспераашкодна прыжывацца на нашых землях кожнай зь перадавых мастацкіх зьяваў, якія спазнала эўрапейскае грамадзтва, з пэўнай карэкціроўкай іх у адпаведнасьці зь беларускім сьветаўспрыманьнем. Спасаўская царква была перабудаваная ў XIX ст. у традыцыях клясыцызму. Разам з тым, у паддашшы захаваліся элемэнты старажытнага збудаваньня, што дазваляе правесьці рэканструкцыю яе першапачатковага выгляду. Асаблівую каштоўнасьць уяўляюць фрэскі XII ст., прапанаваная мэтодыка рэстаўрацыі якіх дазваляе захаваць і дэманстраваць усе пазьнейшыя жывапісныя напластаваньні.

3. На прыкладзе Барысаглебскай царквы XII ст. у Горадні выявілася здатнасьць майстроў да сынтэзу й творчага пераасэнсаваньня ў адным творы розных мастацкіх традыцый. Вытворчасьць будаўнічых матэрыялаў для помнікаў тагачаснай гарадзенскай школы была распачатая пад уплывам полацкай плінфаробчай традыцыі. Аб'ёмна-кампазыцыйнае фармаваньне цэркваў праходзіла пад узьдзеяньнем валынскай і полацкай архітэктураў. Прыём аздабленьня фасадаў апрацаванымі камянямі, істотна ўдасканалены ў Горадні, быў запазычаны на Валыні. Аналёгіі насьцілу маёлікавай падлогі прасочваюцца ў гнезьненскім касцёле XI ст. Пры гэтым малюнак машчэньня ў гарадзенскіх будынках быў даведзены да дасканаласьці й ня ведаў сабе роўных у адначасовых збудаваньнях бліжэйшых і далёкіх суседзяў. Асаблівасьцю гарадзенскіх мураваных збудаваньняў стала шырокае выкарыстаньне сюжэтаў з маёлікавых плітак на фасадах.

Ня раз разбураная Барысаглебская царква сёньня ўяўляе сабой у пэўнай ступені маляўнічую руіну. Як убачым ніжэй, гарадзенская школа дойлідзтва мела пэўны ўплыў на архітэктуру іншых усходнеславянскіх земляў.



*Малюнак Дзяніса Раманюка*

4. Крэўскі замак варта разглядаць як шматплянавую гісторыка-культурную каштоўнасьць, у якой адлюстроўваюцца падзеі, што наклалі адбітак на лёс ня толькі беларускага народу, але й народаў Эўропы: Крэўская унія, вайна з Масковіяй у другой палове XVII ст., першая сусьветная вайна, творчае пераасэнсаваньне традыцый пабудовы замкаў-кастэляў, што выявілася ў зьмене наступальнай функцыі — у крыжакоў — на выключна абарончую — у нашых продкаў.

Асаблівасьцю Крэўскага замка стала выкарыстаньне яго мураваных збудаваньняў для жыльля й зьяўленьне ў яго кампазыцыі першай вядомай на Беларусі вежы-данжона. Пад уплывам яго аб'ёмна-плянавага кампазыцыйнага рашэньня адбывалася далейшае разьвіцьцё замкавага будаўніцтва на беларускіх землях. Сьведчаньні разьвіцьця Крэўскага замка дазваляюць выбраць некалькі варыянтаў яго зьберажэньня: кансэрвацыя «маляўнічых» руінаў, аднаўленьне Княскай вежы й кансэрвацыя астатніх пабудоваў. Гэта дазволіць выкарыстаць збудаваньне як музэйны комплекс.

5. Стары замак у Горадні дэманструе станаўленьне архітэктурных традыцый з XII да XVIII ст. Дасьледаваньні апошніх гадоў далі падставы гаварыць пра ўдзел у стварэньні гарадзенскіх збудаваньняў таленавітага дойліда Пятра Міланега, творчы патэнцыял якога асабліва выявіўся ў кіеўскім дойлідзтве. Магчыма, яго дзейнасьцю і вытлумачваецца ўзьнікненьне ў XII ст. адметнай мастацкай зьявы, якой стала гарадзенская школа дойлідзтва. Ня выключана, што шлях гэтага выдатнага творцы ў Кіеў пралягаў праз Чарнігаў, дзе быў збудаваны амаль аналягічны гарадзенскаму княскі хорам. Дзейнасьць Міланега ў Горадні дазваляе інакай глядзець на ролю Беларусі ў культурных працэсах вялікага абшару Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы й паварочваць накірункі ўплываў замест «адтуль сюды» на «адсюль туды».

Прапанаваная архітэктарам Уладзімерам Бачковым канцэпцыя рэстаўрацыі гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Старога замка дазваляе наглядна паказаць кожны з пэрыядаў разьвіцьця гэтага «слаёнага пірага». Узнаўленьне гістарычнага аблічча кожнага з будынкаў абапіраецца на комплекс матэрыяльных і тэарэтычных абгрунтаваньняў, што дае падставы гаварыць пра моцны навуковы бок праекту. Адзінай яго хібай можа аказацца імкненьне аўтара змакеціраваць, як і ў выпадку з Дабравешчанскай царквой, забудову дзядзінца XII ст.

6 і 7. Цэрквы абарончага тыпу ў Сынковічах і Мураванцы — выключная зьява ў гісторыі дойлідзтва і характарызуецца менавіта беларускай адметнасьцю, калі іншаземная традыцыя на беларускім грунце перапрацоўвалася на мясцовы кшталт. Гэтая акалічнасьць, як і ў іншых выпадках, пра якія ўжо гаворана або будзе, дазваляе казаць пра магутны творчы патэнцыял беларускай традыцыі ў архітэктуры, а калі шырэй, то і ў кожным зь відаў мастацтва, што дазваляла мясцовым творцам ствараць узоры збудаваньняў (абразоў, кнігаў, скульптураў) з выразнымі нацыянальнымі прыкметамі, хоць і ў рэчышчы плыняў эўрапейскай культуры.

8. Мірскі замак — адзіны ў сваім родзе прадстаўнік найперш гатычнага мастацтва на Беларусі. Разам з тым, на яго прыкладзе прасочваецца арганічнае разьвіцьцё архітэктурных стыляў праз рэнэсанс і барока. Такую рэтраспэкцыю каштоўнасьці здолелі правесьці ў канцэпцыі праекту рэстаўрацыі яго аўтары, хоць наступная распрацоўка дакумэнтацыі й яе рэалізацыя ў натуры — не без заганаў.

*Працяг на старонцы 18*

най і як яе ахоўваць, тады ў віры жыцьця могуць незваротна зьнікнуць каштоўнасьці абсалютныя. Можна згубіць самое ўяўленьне пра тое, што ёсьць нязьменныя каштоўнасьці.

Розныя дзяржавы адрозьніваюцца адна ад адной па тэрыторыі, шчыльнасьці насельніцтва, старажытнасьці культуры, асаблівасьцях гістарычнага разьвіцьця й магчымасьцях захаваньня нацыянальнае спадчыны. Мэта Канвэнцыі — зьберагчы самабытнасьць кожнага народу. І размова тут ня толькі пра магчымасьць атрымаць дапамогу. Дзейнасьць у межах Канвэнцыі становіцца істотным бар'ерам на шляху схаванага (ад сьвету) зьнішчэньня нацыянальнае спадчыны.

Такім чынам, найперш сама нацыя павінна скласьці рэестар тых аб'ектаў, якія для яе найбольш каштоўныя і рэпрэзэнтуюць нацыянальную культуру, гісторыю й прыроднае асяродзьдзе на ўзроўні стэрэатыпаў.

Адзін з найбольш трывалых беларускіх стэрэатыпаў, пасьля 300 (?) нацыянальных страваў з бульбы, — гэта зубар. Сапраўды: папуляцыя зуброў была рэканструяваная на Беларусі, зубар быў выяўлены на геральдыцы XIX ст., сёньня гэта найбольш папулярны пэрсанаж розных сувэніраў, эмблемаў і г.д. Але ня варта забывацца пра тое, што ініцыятыва аднаўленьня зуброў належыць польскім навукоўцам, а менавіта прафэсару Яну Штольману. Спэцыялісты з Швэцыі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі й Польшчы сабралі па ўсёй Эўропе зуброў і шляхам шматгадовае сэлекцыі аднавілі іх статак у Белавескай пушчы. Па вайне, як вядома, пушча была падзеленая паміж СССР (145 тыс. га) і Польшчай (57 тыс. га). З таго часу зубрыны генафонд апынуўся ў руках дзьвюх дзяржаваў. Толькі зь беларускай часткі пушчы было вывезена каля 150 зуброў у суседнія краіны, у Нямеччыну, Чэхаславаччыну. Сёньня ў Эўропе ўжо каля 200 цэнтраў разьвядзеньня зубра. Польскі статак у тры разы перавышае колькасьць беларускага на тэрыторыі пушчы. А самая вялікая колькасьць зуброў... на Ўкраіне.

Ня менш яскравым беларускім стэрэатыпам стала Хатынь, вядомая дзякуючы таленавіта зробленаму архітэктурна-мастацкаму ансамблю. Яе назва — знаходка для савецкай ідэалёгіі, што як бы перакрыла сабою Катынь. Але чаму сёньня за нацыянальны сымбаль узятая не, скажам, Шунеўка, дзе таксама створаны скульптурны мэмарыял. У дваццатым стагодзьдзі быў і Саласпілс і Пірчупіс, Хірасіма й Сангмі... Што абярэ чалавецтва як сымбаль на ўсе часы? Ужо сёньня ў сьпіс унесены Асьвенцім. Не Бухенвальд, не Дахаў, дзе таксама створаны мэмарыялы, якія ўражваюць сьвядомасьць, а менавіта Асьвенцім.

Хатыні павінна быць месца ў нашай сьвядомасьці як манумэнту ўсім беларускім вёскам, што былі зьнішчаныя людзьмі чужымі. Гэта тое, ад чаго можна мераць ступень правіны, кошт існаваньня й межы гісторыі.

Яшчэ больш складана для беларусаў сёньня вызначыць месца сваіх культурных каштоўнасьцяў. Пасьля двух стагодзьдзяў пасьлядоўнага й плянавага зьнішчэньня помнікаў старабеларускай культуры. Для любога беларускага нацыяналіста раскіданыя камяні Крэўскага замка альбо патрушчаная бажніца ў Юравічах — сьвятыні. Мы асацыятыўна дамалюем усё, што нас нітуе зь імі. Але перад намі задача абраць пэрліну *сусьветнае культуры*. Калі даводзіцца пра гэта разважаць, адчуваеш сябе бедаком, які ня ведае, што яшчэ надасца з бабулінага куфэрка, дзе амаль усё спарахнела, пацьвіла, хоць выкідаць шкада.

Мы традыцыйна лічым Горадню, Полацак, Пінск месцамі, дзе захаваліся каштоўнасьці бясспрэчныя для нас. Мова гэтых месцаў нам зразумелая... Але французы не ўлучылі ў Сьпіс ніводнага помніка Парыжу. Немцы не прадстаўляюцца ў сьвеце Кёльнам. А вось з нарвэскіх помнікаў патрапіла невялікая драўляная царква ў Урнэсе (11-12 ст.), бо яна найбольш красамоўна дэманструе нацыянальны стыль царкоўнага дойлідзтва «стаўкірку».

Сьпіс сусьветнае спадчыны амаль на трэць складаецца з аб'ектаў прыроды, альбо тых, якія вызначаюцца проста хараством, альбо якія маюць значэньне для навукі й падтрыманьня экалягічнага балянсу. Вядома, гэта й Эвэрэст, і Гранд-Каньён, і Вялікі Бар'ерны Рыф. У Сьпіс аб'екты прыроды ўносяцца пера-

*Працяг на старонцы 18*

# канструкцыі

*ДЗЯНІСАВЫМ у Менскай рэдакцыі «НН»*

Верхняга гораду застаўся толькі адзін — дом №31 па вул. Інтэрнацыянальнай, дзе раней знаходзілася бібліятэка імя Пушкіна. Гэта старажытная шляхецкая сядзіба канца XVIII ст., пабудаваная паводле праекту першага губэрнскага архітэктара Менску Хведара Крамэра, адзін зь першых помнікаў клясыцызму ў Менску. І будынкаў такога клясу было ў Верхнім горадзе... Зараз падлічым... Дом №25 па Інтэрнацыянальнай, №21/3 на рагу Інтэрнацыянальнай і Энгельса — так званы дом Манюшкі, дамы па вул. Герцана №2, 4, 8 і 2а, які знаходзіўся ў сярэдзіне квартала. У свой час лімаўскі артыкул Зянона Пазьняка «Родны кут у горадзе» стаў адзіным, дзе быў зроблены аналіз і ўпершыню дадзена ацэнка рэгенэрацыі Траецкага прадмесьця. Улічваючы памылкі пры праектаваньні Траецкага прадмесьця, можна было вызначыць асноўны прынцып рэканструкцыі й рэгенэрацыі Верхняга гораду — *гістарызм*. Значыць, найперш патрэбны былі комплексныя дасьледаваньні кожнага помніка як унікальнага.

«НН»: Ці можам мы казаць, што сёньня ёсьць адыход ад той першай канцэпцыі? Ці гэта гвалт над канцэпцыяй, ці, у выніку, рэалізацыя яе?

У.Д.: А ці была тая канцэпцыя? Я вельмі добра памятаю: як у 1987 г. у Палацы прафсаюзаў адбылася спроба грамадзкага абмеркаваньня прынцыпаў рэгенэрацыі Верхняга гораду... Упершыню былі выстаўленыя макеты й пляншэты. Заля была перапоўненая. Нават ня толькі партэр, але і ўсе гаўбцы былі занятыя менчукамі. І гэта было прарывам, таму што на пачатку 1980-х гадоў праектаваньне пачалося без усялякай канцэпцыі. Усе будынкі раздалі канкрэтным заказчыкам. Розныя праектныя ўстановы пачалі праектаваць кожны будынак паасобку. Рэстаўратарам аддалі толькі праектаваньне фасадаў, а асноўныя канструктыўныя элемэнты й прыстасаваньне — іншым установам, менавіта «Менкспраекту» й «Белжылпраекту». А тут прымусілі архітэктараў падумаць над аргумэнтацыяй, прымусілі ўбачыць цэльны ансамбаль. Не заўсёды дасьледаваньні праводзіліся кампэтэнтна. А грамадзкая думка ўжо больш не магла ўплываць на лёс Верхняга гораду — публічных абмеркаваньняў пазьбягалі. І дакумэнтацыя на сёньня такая — на кожны помнік, незалежна ад астатніх, быў распрацаваны праект рэканструкцыі (праектам рэстаўрацыі яго назваць нельга), у адпаведнасьці зь якім сярэдзіна помніка ў лепшым выпадку вычышчалася, а тое нават зносіўся ўвесь будынак. Праекты рэстаўрацыі былі зробленыя толькі для фасадаў. Прычым па жаданьню заказчыкаў перабіваліся вакonныя праёмы, падвышаліся паверхі...

«НН»: Хто даваў візу на гэта? Ці быў патрэбны подпіс канкрэтнага чалавека?

У.Д.: Не. Усё адбывалася нашмат больш заблытана. Першым зьнішчаным аб'ектам у рамках рэканструкцыі Верхняга гораду стаў дом Ваньковіча. Гэта на тэрыторыі Беларусі была адзіная захаваная драўляная гарадзкая сядзіба XVIII ст. Канструкцыі яе захоўваліся ў добрым стане. Пасьляваенная капітальная рэпарацыя захавала й драўляныя сьцены, і старажытную пляніровачную структуру. І вось была распрацаваная праектная прапанова, паводле якой помнік цалкам разьбіраўся. А муляж рабіўся ня з дрэва, а зь сілікатных блёкаў (падобнае здарылася і ў Кобрыне з «домам Суворава» — у сапраўднасьці домам Траўгута). Але яшчэ да гэтай муляжнай зьявы раптам узьнікла пастанова гарадзкіх уладаў аб поўным зьнішчэньні сядзібы, каб зрабіць там фантан. Так што муляж у выніку мусіў успрымацца як ня самы горшы варыянт. А на пляцы Волі прапаноўвалася пабудаваць вялізны будынак Купалаўскага тэатру, не аднаўляць найбольш каштоўныя помнікі — царкву Сьв. Духа й Ратушу. Толькі дзякуючы грамадзкаму абмеркаваньню ўдалося адхіліць гэтую прапанову. Але рэальныя вынікі рэканструкцыі практычна ажыцьцявілі самыя патаемныя думкі аб зьнішчэньні Верхняга гораду. Адбывалася гэта праз адсяленьне жыхароў, разборку дахаў... Калі разабралі дом №2а па Герцана, прэса нарабіла скандалу. Працы прыпынілі, але ўсе гэтыя гады самаразбураліся будынкі. Кансэрвацыі так і не зрабілі. Замкнёнае кола.

«НН»: Што атрымліваецца: замацаваўся погляд, маўляў, выдатна ў нас працуе школа архітэктараў-рэстаўратараў, добрыя праекты. Толькі ўсё гэтае марнуецца падчас рэалізацыі. Але, высьвятляецца, і на ўзроўні праектаў закладзеная дэструкцыя. Дый дасьледаваньні не да канца былі грунтоўныя?

У.Д.: Я магу з упэўненасьцю гаварыць: ні на адным аб'екце не былі выкарыстаныя рэстаўрацыйныя мэтодыкі па замацаваньню муроў, па кансэрвацыі драўляных канструкцый. Праводзіліся звычайныя агульнабудаўнічыя працы.

«НН»: І такія працы закладаліся ў сам праект?

У.Д.: Агульнабудаўнічыя працы й закладаліся. Да прыкладу, ва ўсіх будынках драўляныя перакрыцьці замяняліся на жалезабэтонныя. Інтэр'еры не дасьледаваліся.

«НН»: І як вынік — гэтая гісторыя з фрэскамі, шырака яшчэ не вядомая.

У.Д.: Тут трэба пачаць глыбей. Сабраныя матэрыялы прыводзяць да вельмі цікавай высновы — Менск канца XVIII-XIX стст. захаваў старажытныя сярэднявечныя традыцыі. Менск быў горадам правінцыйным, у сэнсе традыцыйным. Захоўваліся пабытовыя традыцыі, культурныя, у тым ліку й сярэднявечныя будаўнічыя — яшчэ ад менскага цэху дойлідаў. За 200 гадоў свайго йснаваньня цэх выпрацаваў тыя прыёмы, якія перадаваліся ад майстра да вучня ўсе гэтыя стагодзьдзі. А ў канцы XVIII ст. разам з Расеяй прыйшоў новы стыль — клясыцызм, які зьвязваецца ў Менску зь першым губэрнскім архітэктарам Крамэрам. Паводле ягоных праектаў на працягу 1795-1804 гг. было пабудавана шмат аб'ектаў. Але як тады вялося праектаваньне? Архітэктар распрацоўваў плян ды фасад будынка, якія зацьвярджаліся, а вось астатніх канструкцый і будаўнічых прыёмаў ён не кранаў. І што атрымалася? Зьявіўся новы стыль, але менскія муляры былі выгадаваныя на старых традыцыях. Тая ж старая цэглапальчатка скарыстоўвалася ў Менску і ў XIX ст. Такім чынам, галоўны фасад будынка — чысты прыклад клясыцызму, а астатнія канструкцыі зробленыя паводле сярэднявечных традыцыяў. Цокальныя паверхі выкладаліся зь велізарных валуноў, паверхня якіх адмыслова зашліфоўвалася, у рошчыну дадавалі каменьчыкі. Гэты прыём у беларускіх дасьледчыкаў атрымаў назву разынкавай муроўкі. Традыцыі разынкавай муроўкі захаваліся ў нас да сярэдзіны XX ст., хаця яна сягае яшчэ сярэднявечных традыцый... А канструкцыі будынкаў на Верхнім горадзе рабіліся таксама і з прускага муру, асабліва тарцавыя франтоны, што прыкрывалі тарцы дахаў, як на доме №4 па Герцэна...

«НН»: Фахвэркі?

У.Д.: Так. Прускі мур па-беларуску. Гэта вельмі цікавая зьява, не характэрная для клясыцызму наогул. Такі прускі мур быў і ў сярэдзіне будынка — перагародкі. Бэлькі-перакрыцьці ў інтэр'еры былі адкрытыя, не затынкаваныя, як і ў сярэднявечных будынках. Але зусім унікальная зьява — гэта росьпісы інтэр'ераў будынкаў мяжы XVIII-XIX



*Менск. Верхні горад. Плян 1988 г.*

стст. Рэшткі гэтых росьпісаў былі знойдзеныя ў доме №4 па Герцана. Ад таго дому амаль нічога ўжо не засталося. Больш вялікі фрагмэнт росьпісаў удалося захаваць у доме №2 на рагу вул. Герцана й Музычнага завулку. Прычым зьнішчэньне гэтага жывапісу ўдалося прыпыніць у апошні момант, бо па распрацаванай дакумэнтацыі помнік разбураўся амаль цалкам. А на другім паверсе будынка знаходзілася вялікая парадная заля, і, каб аптычна павялічыць яе памеры, сьцены былі расьпісаныя архітэктанічным дэкорам, які ўяўляў сабою сыстэму калянадаў, што апярэзвалі залю па ўсім пэрымэтры. Клясычныя прыклады такога аптычнага жывапісу больш вядомыя па алтарах у Будслаўскім ды Гальшанскім касьцёлах.

«НН»: Але ў Менску ўжо сьвецкі жывапіс.

У.Д.: Так. І я ня ведаю, каб у іншых гарадох Беларусі было знойдзена нешта падобнае.

«НН»: І гэтыя фрэскі захаваліся?

У.Д.: Толькі невялічкі фрагмэнт, зь вялікай залі — самая маленькая тарцавая сьцяна з рэшткамі жывапісу. Так што адзіны цалкам аўтэнтычны грамадзянскі будынак Верхняга гораду — гэта дом №31 па вул. Інтэрнацыянальнай. Там захавалася крокченая сыстэма XVIII ст., зробленая без адзінага цьвіка. Там ёсьць мантажныя знакі. Гэты дах першапачаткова зьбіралі на зямлі. Пакуль муляры ўзводзілі сьцены, цесьляры побач на зямлі (а контуры будынка былі ўжо ведамыя) зьбіралі канструкцыю даха. Унізе гэта было рабіць прасьцей, чым на вышыні.

*Працяг на старонцы 20*

вуковую каштоўнасьць якога для сьвету цяжка пераацаніць.

Ня меншую цікавасьць для навукі ўяўляюць і беларускія азёры. У Сьпіс можа быць прапанаваная й маленькая Сьвіцязь, выключны фэномэн беларускае прыроды, дзе ўжо створаны заказьнік для выратаваньня рэдкіх і нават эндэмічных расьлінаў. Сьвіцязь... А колькі ў ёй знайшла літаратура!

Альбо Асьвея, паўночнае беларускае мора, сёньня яшчэ вырай для соцень тысячаў птушак, у тым ліку й для палярных соваў, белых курапатак, беркутаў. На Асьвейскім возеры йснуе выспа, зь якое нядаўна сыйшлі сталыя жыхары, і сёньня тут — хараство пераможнае прыроды — рэдкі шанец для эколягаў — жывая лябараторыя. Аналягічны аб'ект, выспы Сэнт-Кілда каля Шатляндыі, улучаныя ў Сьпіс. Сёньня там створаны птушыны рэзэрват, навукоўцы вывучаюць працэс прыроднай рэгенэрацыі пасьля шматвяковага жыцьця тут людзей. А зусім нядаўна тут адрэстаўраваная вёска — этнаграфічны музэй, куды заяжджаюць турысты, часткова кампэнсуючы выдаткі на падтрыманьне запаведніка.

На беразе Асьвеі захаваўся адзін з старажытнейшых беларускіх паркаў XVIII ст. — унікальны помнік, якому сёньня пагражае зьнішчэньне, а таксама кляштар сёстраў міласэрнасьці з рэшткамі ракальнага касьцёлу...

Магчымасьць унесьці ў Сьпіс Нарачанскія й Браслаўскія азёры праблематычная, бо збольшага гэта зоны масавага адпачынку й мяняць гэтую інфраструктуру наўрад ці хто будзе. Дый ці трэба?

З помнікаў архітэктуры ў Сьпіс павінна патрапіць Полацкая Сафія. Найстарэйшая хрысьціянская бажніца Беларусі. Нязьменнасьць аблічча — зусім не абавязковы крытэрый. Сваё хараство й вялікі зьмест часам маюць менавіта шматкроць перабудаваныя помнікі. Да прыкладу, першы бэнэдыктынскі кляштар VII ст. Сэнт-Гален у Швэйцарыі, неаднаразова перабудаваны ў XVII і XVIII ст., лічыцца аднaчасова помнікам і археалёгіі і архітэктуры, у якім сюррэалістычна зьніталіся й раманіка з барока, і рэнэсанс з ракако. Гэты кляштар увайшоў у Сьпіс адным зь першых аб'ектаў. Арганічнасьць і эмацыйнасьць зрабілі Полацкую Сафію выключным помнікам дойлідзтва ракако, адным з найбольш цікавых для сьвету здабыткаў беларускае культуры й гісторыі.

Ёсьць на Беларусі помнікі, якія характарызуюць цэлыя школы дойлідзтва, адметныя па сваіх эстэтычных і канструктыўных асаблівасьцях. Гэта полацкая царква Сьв. Еўфрасіні, гарадзенская Сьвятых Барыса й Глеба на Каложы. Іх вартасьць у тым, што яны сталі прататыпамі іншых пабудоваў на вялікіх абшарах...

Гэтаксама, зыходзячы з крытэрыяў тыпалягічнай адметнасьці, у Сьпіс могуць быць прапанаваныя цэрквы-крэпасьці ў Сынковічах і Мураванцы. Падобныя інкастэляваныя бажніцы йснавалі і ў іншых краёх, да прыкладу, касьцёлы альбігойцаў на поўдні Францыі. Але беларускія бажніцы значна больш позьнія (што характарызуе адметнасьць гістарычнага шляху). Апроч таго, яны моцна розьняцца ад эўрапейскіх прыкладаў сваім пластычным і дэкаратыўным вырашэньнем. Іншасьць канфэсійная, этнічная, іншыя будаўнічыя матэрыялы, — фармавалі арыгінальны тып беларускай гатычнай бажніцы-фартэцыі...

У дадзеным выпадку давялося б, натуральна, узяць пад зусім іншы рэжым кантролю цэрквы ў Сынковічах і Мураванцы, не дапусьціўшы іх далейшых некваліфікаваных рэстаўрацыяў (што ўжо адбылося пасьля вяртаньня гэтых бажніцаў царкве).

Але зусім неабавязкова зыходзіць з крытэрыяў зьнешняй прэзэнтабэльнасьці на сёньняшні момант. Да помнікаў сусьветнай значнасьці далучаныя, як фэномэн культуры, амаль дашчэнту зруйнаваныя езуіцкія місіі Паўднёвай Амэрыкі (Сан-Мігель-дас-Місоес у Бразыліі, Сан-Ігнасія-Міні, Санта-Ана ў Аргентыне ды іншыя). Сетка беларускіх каталіцкіх кляштараў, калегіюмаў і шпіталёў XVII-XVIII стст. уяўляюць сабою фэномэн ня меншы. Між іншым, іх роля, што ў нашым краі, што за акіянам, надзвычай падобная. Сапраўды, размах каталіцкага кляштарнага будаўніцтва на мяжы XVII-XVII стст. у Беларусі, які злучыў у адзіны ланцуг рэлігію, навуку, адукацыю, мастацкую культуру ўсяго краю ад Асьвеі й Валынцаў да Юравічаў і Хвойнікаў, ня йдзе ў параўнаньне з тым, што рабілася

*Працяг на старонцы 20*

# Першапачатковыя канструкцыі

*Працяг са старонкі 19*

Да таго ж скарачаліся тэрміны будаўніцтва. Пасьля таго, як уся канструкцыя даха была гатовая, кожны яе элемэнт пазначалі адпаведнымі знакамі-засечкамі. Канструкцыю разьбіралі, падымалі на гатовыя муры й там зьбіралі наноў у адпаведнасьці з гэтымі меткамі. Мантажныя знакі XVIII ст. можна яшчэ ўбачыць. Захавалася й драўляная вінтавая лесьвіца канца XVIII ст. Я ўпэўнены, калі там зрабіць нармальныя дасьледаваньні інтэр'ераў, то будзе знойдзены й жывапіс. Сёньняшні праект прыстасаваньня будынка пад філію Нацыянальнай бібліятэкі зьнішчыць помнік, бо самі ўмовы бібліятэкі патрабуюць замены драўляных канструкцый на жалезабэтонныя. На месцы драўлянай лесьвіцы плянуецца ўзьвесьці новую. Будуць разабраныя й кафляныя печы XIX ст. Ды няма пэўнасьці, што й зьнешнія сьцены захаваюць — так паказвае практыка. Да падмуркаў зьнішчылі дом №25 па Інтэрнацыянальнай — будынак такога ж клясу; ад дому Манюшкі захаваліся толькі фрагмэнты фасадных сьцен. А было ацалелыя прускі мур у доме №2 па Герцана ніхто цяпер не зьбіраецца аднаўляць, хоць кансэрвацыя й рэстаўрацыя такой канструкцыі вядзецца па ўсёй Эўропе. Узгаданыя намі будынкі па вуліцы Герцана прыстасоўваюцца пад «Тэатар старога гораду». Але гэта будзе зусім навабуд у цэнтры гістарычнага квартала. У дварох капаецца катлаван пад сцэнічную скрыню...

«НН»: Гэта там быў замкнёны дворык?

У.Д.: Так, ужо гэтага дворыка ня будзе...

«НН»: А ці ёсьць шанец захаваць фрэскі?

У.Д.: Ведаеце, усё ж гэта ня фрэскі...

«НН»: Росьпіс — лепшы тэрмін?

У.Д.: Так. Гэта ж не па сырой тынкоўцы рабіўся жывапіс. А тое, што выратавалі, ёсьць магчымасьць захаваць. Але ж дзіўная неахайнасьць у саміх працах. Напрыклад, самы каштоўны помнік — дом №1 па Энгельса... Кляштар базыліянак... Першапачаткова на яго месцы былі жылыя мураванкі менчукоў XVI ст. Калі будаваўся кляштар у пачатку XVII ст., усе канструкцыі ранейшых пабудоваў былі ахайна захаваныя, практычна ўлучаныя ў новы кляштарны корпус. А цяпер, пры новай рэканструкцыі, рэшткі дамоў XVI ст. зьнішчылі.

«НН»: Але пры ўсіх сумных фактах нешта ж на Верхнім горадзе захаваецца?

У.Д.: Цяжка сказаць...

«НН»: Вы казалі, што за часамі СССР гэта быў помнік усесаюзнага значэньня?

У.Д.: Так, гістарычны цэнтар Менску, у тым ліку й Верхні горад, быў унесены ў сьпіс помнікаў усесаюзнага значэньня. Але сьпіс так і не зацьвердзілі... Не пасьпелі. Але Верхні горад быў улучаны ў гэты сьпіс раней, чым прыняты пад ахову ў Беларусі як помнік рэспубліканскага значэньня. У свой час была зацьверджана толькі ахоўная зона.

«НН»: А хто здолеў ініцыяваць унясеньне ва ўсесаюзны сьпіс?

У.Д.: Гэта была грамадзкая ініцыятыва. Фактычна справаю аховы помнікаў займалася са структур толькі Таварыства аховы помнікаў. У дзяржаве была толькі адна адзінка — адзін інспэктар.

«НН»: Ну дык што ўсё ж застанецца?

У.Д.: Зусім нядаўна прыяжджалі да нас рэстаўратары-тэарэтыкі з Кракаўскай політэхнічнай акадэміі. Яны ўбачылі, напрыклад, што на вуліцы Герцана захаваўся старажытны брук XVIII ст.

«НН»: А гэта брук XVIII ст.?

У.Д.: Так. І гэта зусім рэдкая знаходка для ўсёй Эўропы — жывы функцыянальны брук такога часу... Што яшчэ вельмі важнае — Верхні горад уяўляе сабою помнік археалёгіі. Але цяпер там цягнуцца камунікацыі, капаюцца катлаваны... Верхні горад перададзены акцыянэрнаму таварыству. Усё было б добра, але мэта таварыства — атрымаць максымальны прыбытак, не зважаючы на помнікі. Таму дзеля дадатковай плошчы, што можна здаваць пад арэнду, дабудоўваюцца новыя паверхі ў будынках, робяцца мансарды на тых помніках, якія ніколі іх ня мелі. Прычым гэтыя мансарды ня маюць нічога агульнага з гістарычнай менскай архітэктурай. Атрымаецца варыянт Траецкага прадмесьця.

«НН»: Вы думаеце, горшы варыянт?

У.Д.: Ужо так і ёсьць. Да прыкладу, калі вядзецца рэканструкцыя дому №25 па Інтэрнацыянальнай, дык замест таго, каб аднавіць разынкавую муроўку, цокальны паверх аблямавалі колатым гранітам, як звычайную падпорную сьценку ў сучасным мікрараёне Менску... Цяпер ёсьць магчымасьць захаваць, пакуль не пачалі рэканструкцыю, адзіны аўтэнтычны помнік грамадзянскай архітэктуры — той самы дом №31 па Інтэрнацыянальнай.

Размаўляў Алег Дзярновіч

# Полацкая Сафія

Сяргей Тарасаў

Полацкая Сафія — першы помнік у Беларусі, які аднесены да катэгорыі сусьветных культурных каштоўнасьцяў. Традыцыйна лічыцца, што ён быў збудаваны ўсьлед пасьля Кіеўскай і Наўгародзкай Сафіі ў часе паміж 1050-1055 гг.

XI ст. — пэрыяд найвышэйшага ўздыму першага беларускага гаспадарства — Полацкай зямлі. Знакаміты князь Усяслаў Чарадзей (1044-1101) да таго, як распачаў свае вядомыя паходы і ўвязаўся ў бойку з кіеўскімі князямі, займаўся ўнутраным мацаваньнем дзяржавы. Да палачанаў далучылася большасьць дрыгавічоў з сваім горадам Менскам. Пад надзейным кантролем полацкіх валадароў быў шлях да Балтыкі, дзе паўсталі полацкія фартэцыі Кукенас і Герсіка, днепра-дзьвінскія волакі. Насьпявала патрэба палітычную, дзяржаўную моц сьцьвердзіць духоўна ды ідэалягічна. Найважнейшым крокам у гэтай справе сталася пабудова Сафійскага сабора.

**Як вядома, хрысьціянства пачало пранікаць на землі Беларусі з другой паловы X ст. Ёсьць крыніцы, якія дазваляюць меркаваць, што ўжо ў гэты час у Полацку існавала некалькі храмаў: у манастыры Іаана Прадцечы на Востраве (пра яго апавядае ісляндзкая сага) і царква Багародзіцы (яе існаваньне А.Карташоў адносіць да 997 г.), якая ў летапісах згадваецца пад 1007 і 1159 гг. Але была патрэба ў храме, які б увасобіў у сабе ідэю агульнасьці народу й дзяржавы, пераемнасьць традыцый эўрапейскай цывілізацыі і разам з тым адметнасьць і непаўторнасьць старабеларускай, полацкай культуры.**

**Натуральна, што ў такіх памкненьнях погляд Усяслава Чарадзея быў зьвернуты ў бок Візантыі, якая стала першым хрысьціянскім асяродкам на эўрапейскім кантынэнце. Адыграла ролю й тое, што палачане-крывічы ўжо з IX ст. добра ведалі туды шляхі і, зразумела, культуру далёкіх краін.**

**Што мы маем на ўвазе, кажучы «Візантыя»? У гістарыяграфіі мінулага й новага часу пад гэтым словам разумеўся Канстантынопаль (Царгорад) як увасабленьне культуры ўсёй імпэрыі. Але ў канцы X — пачатку XI стст. у імпэрыю акрамя зямель уласнай мэтраполіі ўваходзіла 23 правінцыі ў Малой Азіі, Пірэнэйскі паўвостраў з Македоніяй і Балгарыяй, палова Італіі, Кіпр і безьліч выспаў у Эгейскім моры. І гэта былі ўжо зьменшаныя памеры былой велічы. Разам з тым культурны ўплыў, які зрабіла Візантыя на самыя далёкія землі (напрыклад, Арменія, Абхазія, Міжземнаморская Эўропа), ня толькі працягваўся, але разьвіваўся самастойна, закладаючы падмуркі мясцовых нацыянальных традыцый. Таму ў эўрапейскіх навуковых колах культура Візантыі, як і яе дзяржаўная пабудова, падзяляюцца на мэтрапольную і правінцыйную.**

З гэтага гледзішча архітэктура Полацкай Сафіі мае мала агульнага з культавымі пабудовамі тагачаснага Канстантынопаля і нічога з тамтэйшай Сафіяй. Мала агульнага ў полацкага храма і з кіеўскім саборам, акрамя крыжова-купальнай схемы, тэхнікі муроўкі й некаторых канструкцыйных дэталяў, што абумоўленыя самім прынцыпам архітэктурнай пабудовы. Значна больш падабенства паміж саборамі Полацку й Ноўгарада. Але і ў гэтым выпадку Полацкая Сафія мела некалькі істотных адрозных дэталяў. У першую чаргу, выцягнутасьць прапорцый па лініі захад-усход, у другую — наяўнасьць дадатковай перадалтарнай прасторы, вімы, для якой спатрэбілася дадаткова 4 слупы (Полацкая Сафія мае 16 крыжовых апорных слупоў, у той час як Наўгародзкая й Кіеўская — па 12), у трэцюю — зьмяшчэньне асноўнага купала ад цэнтру — на захад і, нарэшце, не 13 і 5, а 7 «вярхоў», адсутнасьць наўкольных галерэяў. Як адзначалі ў свой час дасьледчыкі старадаўняй архітэктуры, Полацкая Сафія адносіцца да храмаў «складанага» тыпу, што было ўвогуле не характэрна для «русской архитектуры». Але, адзначаючы шматлікія асаблівасьці полацкай архітэктуры XI-XII стст., вучоныя не далі адказу, адкуль яны зьявіліся.

Пошукі прывялі да больш уважлівага разгляду архітэктурных традыцый візантыйскіх правінцый, у прыватнасьці, Балгарыі. У свой час яшчэ М.Прысялкоў абгрунтавана даводзіў, што першыя крокі хрысьціянства ва ўсходнеславянскіх землях зьвязаныя не з Канстантынопалем, як сьцьвярджае агульнавядомая легенда пра Ўладзімера, а з Балгарыяй. Пры некаторых заўвагах зь ім пагаджаўся М.Ціхаміраў. Але ў сучаснай гістарыяграфіі гэтыя прынцыповыя для разуменьня нашай гісторыі высновы альбо забытыя, альбо сьвядома ігнаруюцца. Чамусьці ніхто з апалягетаў кіеўскага «паходжаньня» старадаўняй архітэктуры ня згадвае Сафійскія саборы ў Солуні (VIII ст.) і Охрыдзе (пачатак XI ст.), ня толькі іх «ідэалягічнае» падабенства, але й супадзеньне канцэптуальных архітэктурных дэталяў. Не засяроджваючыся на дэталях, адзначым, што, напрыклад, асноўныя памеры охрыдзкага й полацкага храмаў розьняцца ў 10-15 см.

Але самае цікавае, бадай, ня ў гэтым. Традыцыйная расейская праваслаўная апалягетыка замацоўвала ў сьвядомасьці тэзу: «Масква — трэці Рым, а чацьвертаму ня быць!» Паводле яе, цэнтрамі распаўсюджваньня праваслаўя (чытай: хрысьціянства) былі толькі Канстантынопаль, Рым і Масква. Пры гэтым абсалютна ігнараваўся й ігнаруецца той факт, што ў X ст., часе хрышчэньня многіх дзяржаваў Эўропы (Балгарыя, Вугоршчына, Польшча, Данія, Нарвэгія, Швэцыя, нарэшце, Кіеўшчына й Полацкая зямля), існавала пяць аўтакефальных цэркваў візантыйскага кірунку: Кіпрская,

# БЕЛЫ НАСАРОГ

*Працяг са старонкі 19*

ў астатняй Эўропе. «Выбуховасьць» каталіцкае культуры ў XVII ст. у Беларусі — зьява парадаксальная для краіны, што прыняла ўсходняе хрысьціянства ў X ст. Гэткі ўсплёск ня мае аналягаў у сьвеце ні па маштабе, ні па якасьці мастацкага ўвасабленьня. Маляўнічыя руіны кляштараў і касьцёлаў эпохі барока, раскіданыя на вялікай тэрыторыі, павінны набыць агульны статус як аб'ект, які складаецца зь некалькіх помнікаў. Гэткім жа чынам у Сьпісе фігуруюць каталіцкія місіі ў Аргентыне (5 помнікаў!), Бразыліі й Парагваі, раскіданыя на плошчы, ледзь не ў паў-Эўропы. Дарэчы, тут можна было б вытрымаць і «рэгіянальную справядлівасьць»: на Гомельшчыне ахове падлягаў бы Юравіцкі кляштар езуітаў, на Берасьцейшчыне — Бярозаўскі картэзіянаў і г.д., адбіраючы самыя яскравыя гістарычна й эстэтычна помнікі ў найбольш натуральным асяродзьдзі.

Падобнымі аб'ектамі магла б стаць група грэка-каталіцкіх цэркваў XVI-XVIII стст. (Белая царква ў Чашніцкім павеце, Ануфрыеўская ў Мсьціслаўскім, Траецкая ў Вольне, Жыровічы і г.д.), што склалі ўрэшце адметны «ўсходні» кшталт «віленскага барока», які моцна адрозьніваецца ад заходняй архітэктуры паводле сваёй тыпалёгіі, нутраной эвалюцыі стылю, а таксама група арыгінальных драўляных бажніцаў Палесься, якія належаць да вельмі самабытнай школы народнага дойлідзтва.

Праблема (калі ня драма) для Беларусі — вызначэньне найбольш каштоўных урбаністычных асяродкаў з тых, што ацалелі хоць у якой ступені. У аб'ектах такога кшталту найбольшую каштоўнасьць уяўляюць пляніроўка, архітэктурны ансамбаль, дзе вартасьць асобных помнікаў мае ўжо падпарадкаваны характар.

З найбольш мэмарыяльна значных і структурна захаваных такіх аб'ектаў на Беларусі ў першую чаргу мусіць быць



Сінайская, Ібэрыйская, Сэрбская й Охрыдзкая. На чале кожнай стаялі патрыярхі (арцыбіскупы), роўныя па сану і ўладзе патрыярху царгародзкаму.

Дык вось, канец IX — пачатак XI стст. быў часам найвышэйшага ўздыму Першай Балгарскай дзяржавы пры царах Самуіле й Сімеоне. Менавіта ў гэты час Восьмы й Дзявяты Ўсяленскія саборы ў Канстантынопалі зацьвердзілі аўтакефальнасьць балгарскага архіяпіскапа. Балгарскі дыяцэз быў нават выключаны зь сьпісаў Канстантынопальскай патрыярхіі. Адным зь першых незалежных балгарскіх патрыярхаў быў Клімент Охрыдзкі, зь якім зьвязваюць узьнікненьне сучаснай славянскай графікі — «кірыліцы», і ён як патрыярх, натуральна, меў права й пастаўляў япіскапаў і мітрапалітаў у розныя (ня толькі балгарскія) землі. М.Прысялкоў пісаў, што ў X — пачатку XI стст. «русская церковь входила в состав церкви охридского патриархата».

Тут насьпеў час згадаць, што першым полацкім япіскапам быў балгарын Нікіфар, які ў 1092 г. стаў кіеўскім мітрапалітам, а ня Міна, які згадваецца ў 1104 г. (Той, хто з гэтым ня згодны, можа для пачатку паспрачацца з М.Тацішчавым, А.Карташовым і Б.Рыбаковым.) Гэта не магло быць выпадковасьцю. Тым часам, як у сярэдзіне XI ст. Кіеў пры Яраславе Мудрым мяняе сваю царкоўную арыентацыю непасрэдна на Канстантынопаль, у Полацку ўзмацняюцца антыкіеўскія тэндэнцыі.

Чаму так сталася? У першаю чаргу таму, што ў 1014-1019 гг. візантыйскі імпэратар Васіль II (976-1056) захапіў і зруйнаваў Першае Балгарскае царства, за што атрымаў мянушку Балгарабойца. Была ліквідаваная й балгарская аўтакефалія. Візантыйскія правіцелі праводзілі палітыку падзелу балгарскага насельніцтва шляхам стварэньня ў Балгарыі калёній зь перасеrange туды печанегаў, армян, туркаў і г.д. У выніку нейкая частка балгараў пакідала радзіму й пераходзіла за Дунай. Можна меркаваць, што, як і ва ўсе часы, у першыя хвалі эміграцыі траплялі найбольш таленавітыя й здольныя людзі: інтэлігенцыя, сьвятары й майстры высокай кваліфікацыі. Відаць, якраз яны, трапляючы ў Полацак (магчыма, і ў Ноўгарад), прывозілі кнігі, будавалі (ці кіравалі будоўляю) Сафійскія саборы. Хутчэй за ўсё, Полацкая Сафія будавалася раней, альбо разам з саборам ў Ноўгарадзе. У XII ст. пераемнасьць Полаччынай культуры Балгарыі яшчэ больш узмацнілася, аб чым сьведчыць гісторыя Беларусі таго часу.



Такім чынам, Полацкі Сафійскі сабор у пэўнай ступені быў ня толькі адзнакаю незалежнай дзяржавы, але й сымбалем пераемнасьці хрысьціянскіх традыцый, іх абавязковага захаваньня.

На мяжы XV-XVI стст. Полацкі храм быў перабудаваны ў 5-верхі сабор-замак абарончага тыпу. Гэта быў самы пачатак няспыннай маскоўскай агрэсіі на Беларусь, якая расьцягнулася на доўгія стагодзьдзі. Полацак усьлед за Смаленскам быў для Масквы «ключом» ад усяго Вялікага Княства, што абумовіла неабходнасьць яго ўмацаваньня. Пасьля Полацкай вайны 1563-1579 гг., калі горад трапіў да Масквы, а пасьля быў вернуты Вялікаму Княству, прывілеем С.Батуры ад 21 траўня 1580 г. Сафія перададзена ў валоданьне арцыбіскупа Феафана Богдана. Двума гадамі пазьней — езуітам, а ў 1668 г. — базыліянам. Апошнія заснавалі поблач з Сафіяй свой кляштар.

Двойчы, у 1607 і 1643 гг., сабор гарэў і двойчы аднаўляўся. Падчас Паўночнай вайны, у 1705 г., калі ў горад на правах саюзьнікаў увайшлі расейскія войскі, кляштар на пэўны час быў зачынены, а ў Сафіі зроблены склад пораху й зброі. Першага траўня 1710 г. склад падарваўся і сабор амаль цалкам быў зьнішчаны.

У 1738-1750 гг. пры арцыбіскупе полацкім Фларыяне Грэбніцкім паводле праекту архітэктараў Б.Касінскага і І.Глаўбіца Сафія была адноўлена, але ўжо ў выглядзе базылікі ў стылі «віленскага» ці «беларускага» барока зь дзьвюма сьпічастымі вежамі. Была зьменена й прасторавая арыентацыя сабора. Алтар перамясьціўся з усходу на поўнач. Трэба аддаць належнае ўніятам-базыліянам, якія ня сталі разьбіраць захаваныя пасьля выбуху фрагмэнты сьцен і падмуркаў да рэшты. Наадварот, яны імкнуліся захаваць як мага болей фрагмэнтаў старажытнага храма. Тую ж цэглу й камяні, якія былі раскіданыя пасьля выбуху, яны скарысталі, паклаўшы ў падмурак будынка свайго новага кляштара. Археалягічныя досьледы 1993-1994 гг. выявілі гэтыя падмуркі. Дзіва, але манахі, акрамя выкарыстаньня старажытнай цэглы, імкнуліся выкласьці мур у тэхніцы XI ст.! І гэта ім удавалася.

Уніятам сабор належаў да 1839 г., калі на Полацкім царкоўным саборы пад расейскім уціскам была скасаваная сама Унія. У 1918 г. падчас нямецкай акупацыі Сафія выкарыстоўвалася як гарнізонны касьцёл, да яе нават была пракладзеная драўляная маставая ад Стралецкай вуліцы. Але ўжо ў 1921 г. рашэньнем мясцовых бальшавіцкіх уладаў храм быў зачынены, а яго каштоўнасьці канфіскаваныя на карысьць галадаючых Паволжа. Падчас другой нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. храм адчынілі, і ён выкарыстоўваўся як гарадзкая царква. З прыходам улады саветаў яго зноў зачынілі. Спачатку зрабілі музэй, пасьля — архіў і базу кнігагандлю. Нарэшце, у 70-я гады тут адзінаццаць гадоў запар ішла рэстаўрацыя. Сабор аднавілі. Але да таго часу ўсё наваколье было шчыльна застаўленае будынкамі гарадзкой бальніцы.

Сёньня сабор — асноўны асяродак культуры ў Полацку. Пераважна ён выкарыстоўваецца як канцэртная заля. І ўсё, здавалася б, павінна быць добра... але дзьве праблемы мае цяпер Сафія. Адна — вірлівая рака чалавечых амбіцый, спрэчак паміж праваслаўнымі, уніятамі й каталікамі за валоданьне храмам. Другая — унутраная хвароба: храм разбураецца. Праблема прыналежнасьці храма, на наш погляд, сёньня невырашальная. Па-першае, некалькі хрысьціянскіх канфэсій Беларусі маюць на сёньняшні (!) сабор аднолькавыя правы. Па-другое, калі Сафія адновіцца як культавы будынак, то пры вырашэньні на карысьць праваслаўных яна перастане выконваць сьвецкія культурныя функцыі. А па-трэцяе, перадача Сафіі любой канфэсіі будзе азначаць прызнаньне за гэтай канфэсіяй статусу дзяржаўнай рэлігіі ў Беларусі.

Другая бяда — разбурэньне — дакладна ўстаноўлена дзьвюма незалежнымі экспэртнымі ўстановамі з С.-Пецярбурга й Масквы. Правядзеньне ўсебаковых досьледаў з выкарыстаньнем касьмічнай тэхнікі каштавала немалых грошай. Дык вось, сучасны храм стаіць на падмурку XI ст., які складзены зь вялікіх камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне. Амаль за тысячагодзьдзе вакол храма адклаўся культурны пласт зямлі на 2,5 м, на што першыя будаўнікі, натуральна, не разьлічвалі. Не разьлічвалі на гэта й будаўнікі XVIII ст., бо падмуркі фактычна не былі ўмацаваныя. У выніку — падняўся **ўзровень** грунтовай вады-верхаводкі, якая паступова вымывае з падмуркаў рошчыну. Сьцены храма пачалі даваць рознавялікую ўсадку, ад якой як звонку, так і знутры нават голым вокам можна бачыць шматлікія шчыліны. Па вялікім рахунку, вежы Сафіі адвальваюцца ад асноўнага аб'ёму і неўзабаве могуць абрынуцца ў Дзьвіну.

Выйсьце ёсьць. Праекты featured рознага кошту й тэхналёгіі маюць на мэце паніжэньне ўзроўню вады ці ізаляцыю падмуркаў Сафіі. Зразумела, што работы такога маштабу каштуюць дорага. Ні Полацкаму гісторыка-культурнаму запаведніку, на балянсе якога знаходзіцца сабор, ні ўсім хрысьціянскім канфэсіям разам узятым такую суму грошай не «падняць». Гэта павінна быць агульнадзяржаўная, агульнацыянальная праграма.

Пабудова сабора не была прыхамацьцю аднаго Ўсяслава Чарадзея. На яе былі сканцэнтраваныя высілкі ўсёй старажытнай беларускай дзяржавы. Стагодзьдзямі стаяла Сафія як сымбаль і адна з асноўных катвігаў гэтай дзяржавы і гэтага народу. Яна ахоўвала й абараняла нашу незалежнасьць, наш нацыянальны гонар. Насьпеў час паклапаціцца пра яе.

названы Верхні горад у Менску, якому да апошняга часу шанцавала.

Як мэмарыяльная мясьціна, зьвязаная зь лёсам дзясяткаў слынных дзеячоў культуры, палітыкі й рэлігіі, менскае Верхняе места далёка пераўзыходзіць беларускі маштаб. Дамы, што ацалелі, вуліцы, пляцы, памятаюць тых, хто ўвайшоў у гісторыю сьвету. Адных толькі ўкраінцаў прадстаўлялі тут такія асобы, як Сматрыцкі, Мазэпа, Лэся Ўкраінка... Палякаў, якія тут нарадзіліся, вучыліся, жылі, пісалі ды музыкавалі, не зьлічыць. Расейцы, немцы, французы, амэрыканцы... Буйныя фігуры й ня надта, пэрсоны й пэрсанажы: імпэратар Пётар І, мітрапаліт Сялява, казачнік Андэрсан, кампазытар Манюшка, карэспандэнт Конан Дойл... Ужо ў мінулым стагодзьдзі пра Верхні горад пісалі: «... тут кожны мянчук Вам распавядзе й пакажа дом, дзе нарадзіўся Бальзак, або ў якім жыла Жорж Санд...». Каго толькі не пабачылі тэатральныя залі Верхняга гораду! Ледзь ня кожнага артыста Беларусі, Польшчы й Расеі. Адсюль загучала беларуская опэра. Са сьценаў разьмешчанае тут Менскае мужчынскае гімназіі выйшла сусьветна вядомых гадаванцаў ня меней, чым зь якога ўнівэрсытэту: Зан, Ельскі, Трусаў, Дыбоўскі, Пякарскі... У залі купецкага банку дэклямаваў юны Маякоўскі; у гатэлі «Эўропа» тыднямі жылі Горкі, той самы, і францускі Горкі Рамэн Ралян; у цір на вуліцы Дзям'яна Беднага заходзіў Лі Харпэр Освальд. XX ст. зрабіла зь Верхняга гораду сцэну, дзе разыгрывалі лёс Беларусі, невыпадкова купалаўскія «Тутэйшыя» напісаныя з усёй тутэйшай тапаграфіяй.

Сам жа горадабудаўнічы ансамбаль Верхняга гораду, які ў асноўным склаўся ў сярэдзіне XVII ст. — клясыка эпохі барока. Барочную яго першаснову не перайначылі, а толькі выгодна падкрэсьлілі помнікі пазьнейшых часоў. Рэгенэрацыя асноўных аб'ектаў, неабходных для навязаньня візуальных узаемасувязяў, — не загана, бо помнік — увесь ансамбаль, шматмерны падручнік па беларускай архітэктуры... У Сьпіс жа патрапіў гістарычны цэнтар Варшавы, — збольшага адбудаваны, рэгенэраваны па вайне, — менавіта з прычыны яго мэмарыяльнае й горадабудаўнічае каштоўнасьці.

Нас не павінна бянтэжыць уварваньне ў панараму старога Менску новабудоўляў. Да прыкладу, стары Манрэаль, улучаны ў Сьпіс, ужо даўна абкружаны новым горадам. Статус вялікай сталіцы сучаснай дзяржавы, натуральна, ня можа супадаць зь ідэяй стэрыльнасьці старасьвецкага цэнтру некалі правінцыйнага места.

Куды больш захаваныя цэнтры некаторых гарадоў і мястэчак на пэрыфэрыі. Першы тут Нясьвіж — унікум у эўрапейскай практыцы урбанізму. Па-першае, ён быў узьведзены першакляснымі майстрамі (Бэрнардоні, Фантана, Ждановіч, Спампані, Пэдэці...), якія працавалі тут у XVI-XVIII стст., па-другое, тут упершыню ў Эўропе была рэалізаваная раньнебарочная схема «ідэальнага» гораду, у самы кароткі тэрмін (апошняя чвэрць XVI ст.), якая захавалася збольшага да нашых дзён. Аналягі цяжка знайсьці. На працягу некалькіх пакаленьняў Нясьвіж пераўтварыўся пад канец XVIII стагодзьдзя ў горад-сад літаральна. Ён — гісторыка-культурны здабытак народаў Рэчы Паспалітае... і Італіі. Але й тут трэба найперш вызначыцца з праўным статусам і прыкласьці максымум фантазіі, каб калі не адрадзіць былы бляск, дык надаць новы...

На дзіва пашанцавала Мсьціславу. На сёньня гэта, бадай, адзіны горад на ўсходзе, які яшчэ ўяўляе сабою суцэльны

*Працяг на старонцы 22*

# Пра намінацыю помнікаў у UNESCO

Валянцін Калнін

Сёньня ўсе на Беларусі граюць драму без камэдыі: цяжкое жыцьцё, яшчэ цяжэйшае чакае, і нібыта выйсьця няма. Тое самае адбываецца з помнікамі культуры. Крычаць: каравул! ратуйце! далучыце нас да UNESCO, бо загінем.

Мне асабіста даспадобы ангельскі гумар, а паколькі я рэстаўратар-кансэрватар, то заадно й ангельскія помнікі архітэктуры, асабліва замкі. Стаяць яны закансэрваваныя, нібыта разбураныя, траўка навокал, і ніхто не крычыць: каравул.

Толькі што я вярнуўся з супольнай польска-беларускай экспэдыцыі па нашых замках і паглядзеў на нашыя помнікі вачыма замежнікаў. Спачатку было сорамна ад занядбанасьці й россыпу муроў на вачах, але потым высьветлілася, што гэты россып па-сапраўднаму залаты. На Захадзе ўжо даўно такога няма: там усё здаўна адрэстаўравана й выдатна выглядае — пачышчана, прыбрана й адноўлена так, што нішто не зьдзіўляе. Мы ж маем экзотыку — некранутую рэстаўрацыяй спадчыну, якая, праўда, разбураецца, але выглядае вельмі прыцягальна для разбэшчанага ўладкаваным жыцьцём вока замежніка. Шукаючы экзотыкі, госьці былі вельмі зьдзіўленыя, што мы не выкарыстоўваем як сьлед нашыя напаўразбураныя помнікі для паказу. Іхні прыватнік даўно зарабляў бы з руінаў добрыя грошы.

А мы тым часам пнемся да Эўропы, хочам, каб помнікі нашыя выглядалі ня горш за іхнія, але з гэтага атрымліваецца толькі сорам. Адноўленыя з нашых прасавецкіх будаўнічых матэрыялаў, яны выглядаюць горш за незахаваную руіну, пры гэтым шмат натуральных фрагмэнтаў помніка проста зьнішчаецца бязь сьледу. Так, пад сьценамі Мірскага замка ляжаць глыбы разбуранага верху адной зь вежаў, які быў заменены сучаснай дзіркаватаю цэглай. Вядома, адноўленая частка пакуль нішто сабе выглядае, але глыбы ляжаць нераскіданыя — дужа моцная цэгла і рошчына. Тэхналёгія вельмі простая — замест мацаваньня швоў муроўкі і замены асобных пашкоджаных цаглінак (вельмі марудная й малааплатная праца, такой практыкі ў нас яшчэ не было) прасьцей і хутчэй параскідаць старыя муры і ўзьвесьці новыя. Тут верхаводзіць так званая «кубатура», паводле якой адпаведна з узьведзеным новым аб'ёмам уздымаецца і заробак.

Нават старым часткам Мірскага замка надаецца выгляд «акуратнасьці»: выкрышаная цэгла далепліваецца, а потым заціраецца тынкам так тлуста й старанна, што здаецца, нібы муры аблізалі каровы. Адпаведна выглядае афарбоўка — прыгожыя нішы верхніх муроў прытарна-ружова-белыя, а на доле — брудна-бела-шэрыя. Сям-там яшчэ захаваліся некранутыя кавалкі з наслаеньнямі розных эпохаў, але раю пасьпяшацца іх пабачыць — «аблізваньне» помніка йдзе поўным ходам. Статус нашае спадчыны пакрысе зьмяняецца — з арыгінальнай яна становіцца новабудоўляю ня лепшага гатунку. Напрыклад, замак у Лідзе захаваў значныя часткі арыгінальных муроў, але пасьля рэстаўрацыі вызначыць старое ўжо немагчыма.

У Ружане, на Берасьцейшчыне, у выдатным палацавым ансаблі XVI-XVIII стст. вырашылі падмацаваць падмуркі аркадаў паміж карпусамі. Добры пачатак. Але «аднаўленчы» сьверб перамог памяркоўнасьць — заадно пачалі аднаўляць калюмны й гзымсы той самай дзіркаватай сучаснай цэглай. Мала таго, што далікатныя профілі былі падмененыя крывымі й касымі, дык і рассыпаюцца яны проста на вачах. Мімаволі падумаеш, што лепей павольнае натуральнае паміраньне помніка, чым гвалтоўная штучная сьмерць, прадпісаная органамі аховы. На душы робіцца яшчэ горш ад таго, што драма помнікаў адбываецца часьцей на правінцыі, у жывым прыродным асяродзьдзі.

Тут можна доўга распавядаць пра выканаўцаў рэстаўрацыі і пра тое, што такое помнік культуры, нацыянальная самасьвядомасьць альбо па-простаму пачуцьцё прафэсійнага гонару. Няма ў іх ні першага, ні другога, ні трэцяга. Хочацца бегчы далёка, далёка, да самага Парыжу, кінуцца да ўзьбярэжнага парапэту й прамыць сваімі горкімі сьлязьмі замутнёную ваду Сэны, ды так, каб захістаўся ад роспачы на паверхні яе хваляў адбітак Нотар Даму. Пасьля прачышчэньня славутай Сэны горка-чыстымі сьлязьмі — проста ў галоўную кватэру UNESCO. Тут ужо сапраўды: ратуйце, дапамажыце, уключыце беларускую спадчыну ў ахову ад рэстаўрацыі, прышліце войскі ААН і разьмясьціце іх каля кожнага помніка за калючым дротам, з аўтаматамі, і каб нікога не дапушчаць, асабліва нашых рэстаўратараў!

Няхай пакуль што браткі-беларусы паезьдзяць па сьвеце, няхай адчуюць тугу па родным краі, няхай на чужыне навучацца па-сапраўднаму шанаваць свой дом, свае помнікі. Так, як шануюць памяць аб радзіме беларусы, якія жывуць на чужыне не адзін дзясятак гадоў, якія, гасьцюючы на бацькаўшчыне, імкнуцца вырвацца з парадных аб'ездаў Траецкага прадмесьця й Мірскага замка, каб апынуцца нарэшце ў родных мясьцінах, на парослых кустоўем падмурках бацькоўскай хаты, каля зруйнаванага, але да болю блізкага душы старадаўняга палаца, касьцёла ці царквы з родных ваколіц.

Што датычыць самой рэстаўрацыі, то нам яшчэ трэба будзе прайсьці вскавы шлях, пройдзены іншымі дзяржавамі. Менавіта ў канцы XIX стагодзьдзя італійскі тэарэтык рэстаўрацыі Каміл Байто занатаваў: «Я аддаю перавагу дрэнна зробленым рэстаўрацыям перад зробленымі добра. У той час, калі першыя ў добрасным няведаньні даюць мне магчымасьць выразна адрозьніць старадаўнія часткі ад новых, другія з цудоўным куншам і хітрасьцю вымушаюць новае выглядаць як старое, пры гэтым маё ўспрыманьне натрапляе на такія цяжкасьці, што асалода ад сузіраньня помніка цалкам зьнікае».



Здымак Дзяніса Раманюка

# БЕЛЫ НАСАРОГ

Працяг са старонкі 21

архітэктурна-археалягічны запаведнік (безь юрыдычнага статусу). Амаль ідэальна захаваная пляніроўка сярэдзіны XVIII ст., помнікі розных эпохаў ад позьняга барока (езуіцкі кляштар), да псэўдарускага стылю (царква Аляксандра Неўскага) ды іншыя, якія на невялікай плошчы старога гораду як нідзе больш красамоўна распавядаюць пра лёс нашае культуры ад XVII ст. да 30-х гадоў XX ст. Разам з навакольнымі манастырскімі ансамблямі (Ануфрыеўскі, Пустынкаўскі й інш.) стары Мсьціслаў можа быць улучаны ў Сьпіс як урбаністычны цэнтар на эўрапейскім памежжы, як тыпалягічны аб'ект.

Яшчэ адным такім аб'ектам можа быць Мір, зь якога, на шчасьце, своечасова прыбралі райцэнтар, а таму сёньня Мір — суцэльны помнік горадабудаўніцтва XVI ст. Стылістычная адметнасьць Мірскага замку, яго захаванасьць і натуральнасьць атачэньня дазваляюць спыніцца ўжо на ім адным (у Сьпісе ёсьць замкі Шамбор у Францыі, Алькасар у Гішпаніі і група замкаў часоў Эдуарда I у Гуінэце ў Англіі). Але само мястэчка, якое ўвасабляе сабою клясычны урбаністычны тып нашага рэгіёну, уяўляе ня меншую цікавасьць.

Да ансамбляў дойлідзтва далучаюць і яскравыя этнаграфічна сельскія паселішчы. У Сьпіс унесеныя традыцыйныя паселішчы народу ашанці ў Гане, літоўцы прапануюць дзукійскую вёску Жэрвінас. Збольшага ў Эўропе традыцыйныя паселішчы не захаваліся, толькі цяпер іх рэзэрвуюць у скансэны. У Беларусі такой экзотыкі яшчэ хапае: Моталь, Рубель ды іншыя, дзе захаваўся традыцыйны лад, рамёствы, навакольнае асяродзьдзе. Праблема ў тым, як абраць самае-самае?

Калі ж рэзка памяняць пункт погляду на культурныя аб'екты, разгледзеўшы ня іх фізычную статыку, а мэтафізычную прастору, то вартасьць многіх стане нечакана большай. Віцебск... На першы погляд згадка пра тое, што яго некалі называлі «... нашым... Таледа» (І.Рэпін), сёньня можа выклікаць толькі лёгкую млосьць. Але гэта калі нам у вочы б'е зьнявечаны краявід: запахабленыя старыя кварталы, брыда запусьценьня там, дзе зусім яшчэ нядаўна зьдзіўлялі сваім харастовом незьлічоныя бажніцы. Але ацалеў Віцебск... 1917-21 гадоў, ацалелі будынкі, дзе жылі, працавалі й мроілі тыя, хто склаў гонар эўрапейскаму мастацтву XX ст. Маршрут, па якім са сваёй хаты да мастацкай вучэльні хадзіў Шагал, амаль не кранутыя (вядома ж, выпадкова). Хоць астракізму й пляжаваньню падлягала «папскае барока» і г.д., у горадзе над Дзьвіною засталася прастора, вымярэньне, у якім луналі патас Малевіча, скептыцызм Дабужынскага, упартасьць Лісіцкага...

Тут на пяць гадоў сабраліся тыя, каму адсюль наканавана было паляцець па розных арбітах. Але быў парад плянэт. Інтэлігентны інвалід Стрэмінскі, які сёньня так папулярны ў Польшчы; Дабужынскі, якога прынамсі тры народы рэжуць па кавалачку, як дэсэрт; Ахола-Вало, сёньня клясык фінскае й швэдзкае графікі, у Віцебску засьпеў беларусізацыю. Менавіта ён склаў мапу Віцебску 20-х гадоў, якую швэдзкі часопіс «Siksi» надрукаваў у першым нумары за 1992 год. На ёй пазначаны й Віцебскі мастацка-практычны інстытут, маладзёжны тэатар, ТЭАРУСАТ, тэатр «Пралетары», дом Ю.Пэна і нямецкая кавярня, ангельская ўніяцкая царква, дзе Ахола-Вало пабраўся шлюбам з Аленаю Ніканович, дачкою біскупа, дом сям'і Шагала, будынак камсамолу, дзе адбываліся мастацкія выставы ды г.д. Атрымоўваецца, што ідэя структурызацыі Віцебскае Прасторы належыць і Ахола-Вало. Фальк, Аксэльрод... Надзея Хадасевіч. Настаўнікі й вучні. Віцебск Хруцкага... У адзін унівэрсальны аб'ект можна злучыць будынкі мастацкага тэхнікуму й музэяў, кватэры й майстэрні той мастацкай пляяды, што тварыла міт Віцебску. Віцебск — «экамузэй». Параўнаньне з Парыжам тут некарэктнае. Бо размова вядзецца пра пэрыяд ня ў 100, 50, а ў 5-7 гадоў.

Зрэшты, справа сапраўды ня ў тым, як ацэняць нашыя здабыткі ў Камітэце з прадстаўнікоў 21 дзяржавы. Калі ў Сьпісе ёсьць манумэнт Вялікай Зімбабвэ і Статуя Свабоды, чаму б там ня выкраіць месца для плошчы Перамогі — аднаго з найлепшых ансамбляў Менску ў духу «ар-дэко» 1940-50-х гг. з драўляным дамком, зь якога шмат што пачалося ў XX ст. Калі ўся навюткая сталіца Бразыліі ў Сьпісе ёсьць, то значыць і на Беларусі магчымыя цуды...

У рэшце рэшт, чым горшая БНА (колішні БДУ імя У.І.Леніна) дзе вучыліся дзясяткі сёньняшніх першых асобаў Беларусі, Эгіпту, Мадагаскару, Нікарагуа, Афганістану ды г.д. за Шарлотсвілскі ўнівэрсытэт у ЗША? Альбо ці ж ня больш менскі Дом Ураду, дзе была абвешчаная Дэклярацыя аб сувэрэнітэце, за Індэпэндэнт-хол?..

Пачуваесься больш тывала ў жыцьці, калі ўсьведамляеш, што белы насарог існуе, пасьвіцца ў прасторах афрыканскае саваны, і нехта за гэта адказны.

# ЛІТОЎСКІ ПАХОД НА ВІЛЬНЮ

*Працяг са старонкі 12*

вольная Літва, г. зн. Літва, кіраваная не аўтарытарным рэжымам А.Сьмятоны, а дэмакратычная. Толькі такая краіна была б у стане справядліва вырашыць назапашаныя ў Вільні праблемы». Аднак падобныя галасы былі заглушаныя галасамі лібэральнай інтэлігенцыі. Праз яе прэсу праводзілася думка, што большасьць мясцовых жыхароў Віленшчыны — спаланізаваныя літоўцы і трэба вярнуць іх ва ўлоньне літоўскасьці.

На тэрыторыі, што была перададзеная Літве, жылі, паводле афіцыйных дадзеных перапісу 1937 году 457 тыс. чалавек, у тым ліку ў Вільні 299.442 чалавекі. Жыхары польскай нацыянальнасьці складалі 39,37%, жыды — 34,16%, літоўцы — 19,23%. Рэшта — беларусы й іншыя нацыянальнасьці. Натуральна, што гэтая статыстыка ўжо не адлюстроўвала стану рэчаў у апошнім квартале 1939 году. Вайна выклікала значныя дэмаграфічныя зьмены...

(Праф. Ласоўскі не згаджаецца з Р.Жэпкайтэ: «інфармацыя пра тое, што ў 1937 годзе ў Вільні было звыш 19% літоўцаў не адпавядае праўдзе. Паводле польскіх дадзеных, яны складалі няпоўны 1%»).



*Літоўская армія ў Вільні. Лёгкія танкі.*

## «ПРЫБЫШЫ»

Так літоўскія грамадзкія й палітычныя дзеячы называлі жыхароў Вільні й Віленшчыны, якія аселі ў гэтым рэгіёне пасьля 9 кастрычніка 1920 году, г. зн. пасьля таго, як горад заняў ген. Л.Жаліґоўскі. Было вылічана, што насельніцтва Вільні за гэты пэрыяд вырасла амаль на 85 тыс. чалавек. Гэта ня быў ані натуральны прырост жыхароў, ані вынік міграцыі насельніцтва з навакольных вёсак. Лічбу гэтую складалі прыбылыя з глыбіні Польшчы ўраднікі, студэнты, прадпрымальнікі, выкладчыкі вышэйшых школаў, прадстаўнікі вольных прафэсій, пэнсіянэры, якія шукалі тут лягчэйшых умоваў жыцьця.

Р.Жэпкайтэ ня ставіць задачу параўнаць гэты паток з пазьнейшым літоўскім, калі ў Вільню з Коўна прыбываў такі самы кантынгент. (Згадваючы яшчэ ранейшую гісторыю, мы ўбачым, што гэткія ж людзі, але расейскай нацыянальнасьці, наваднілі прасторы Вялікага Княства Літоўскага, калі яно было акупаванае Расейскай імпэрыяй.) Але тыпалягічна гэта падобныя працэсы.

Ад «прыбышоў» у Вільні, — піша літоўская дасьледчыца, — новыя ўлады адкаснуліся ў прынятым 27 кастрычніка 1939 году законе аб упарадкаваньні Вільні й рэгіёну. Артыкул 2 гэтага закону казаў, што жыхары Вільні й рэгіёну, якія ў дзень абмену ратыфікацыйнымі дакумэнтамі мірнага трактату паміж Літвой і Савецкай Расеяй ад 12 ліпеня 1920 году жылі ў Вільні ці на Віленшчыне, прызнаюцца грамадзянамі Літвы. Сужэнцы гэтых грамадзянаў Літвы і іх дзеці ва ўзросьце да 21 году таксама прызнаюцца грамадзянамі Літвы. Пажылыя людзі прызнаюцца грамадзянамі Літвы ў тым выпадку, калі жылі ў Вільні й рэгіёне ў дзень уваходу ў жыцьцё гэтага закону (27 кастрычніка 1939 году). Усе астатнія, а таксама мясцовыя жыхары, якія ня мелі сталае працы ці нерухомасьці, права на літоўскае грамадзянства ня мелі. Усе яны былі кваліфікаваныя ў катэгорыі замежнікаў, «прыбышоў». Згодна з удакладненьнямі да закону аб грамадзянстве, яны ня мелі ніякіх правоў і на тэрыторыі Літвы знаходзіліся часова, да канца вайны. Гэты закон, — піша Р.Жэпкайтэ, — не адпавядаў тагачаснаму эўрапейскаму заканадаўству.

«Прыбышы» былі перашкодаю для інтэграцыі вернутых земляў з астатняй Літвой. Як заўважыў прэм'ер А.Мяркіс на веснавой сэсіі сойму ў 1940 годзе: «Яны ня маюць і ня могуць мець нічога супольнага ані з нашай зямлёй, ані з нашай нацыяй. Нашы памкненьні, нашы ідэалы ёсьць і заўсёды будуць для іх чужыя».

Паводле дадзеных Літоўскага Чырвонага Крыжа ад 15 траўня 1940 году ў Вільні было зарэгістравана 87.616 чалавек «прыбышоў», а разам зь Віленшчынай — 97.893. Найбольшую групу сярод іх складалі рабочыя — разам зь сем'ямі 35.181 чалавек, або 42%. Мноства іх, — падкрэсьлівае Р.Жэпкайтэ, — былі мясцовыя жыхары Вільні й рэгіёну, аднак не маглі давесьці сваё права на літоўскае грамадзянства.

27 кастрычніка 1939 году ў Вільні й на Віленшчыне ўступілі ў сілу літоўскія законы, а польскія перасталі дзейнічаць. Такім чынам усе ўстановы, арганізацыі, таварыствы, клюбы, школы ўсіх тыпаў страцілі ўсе правы й былі распушчаныя. У выніку гэтага толькі ў Вільні літоўскія ўлады звольнілі з працы 6809 чалавек. Зь іншых прычынаў засталіся бяз працы яшчэ 15.744 чалавекі. Зімою 1940 году большасьць зь іх ня мела ніякіх сродкаў для існаваньня, іх высялялі з кватэраў. Літоўская дзяржава не зьбіралася дапамагаць ім, і ўся дапамога, на якую яны маглі разьлічваць, ішла ад міжнародных арганізацый і польскага эміграцыйнага ўраду.

## «ТУТЭЙШЫЯ»

У новых літоўскіх уладаў не бракавала праблемаў і зь мясцовымі жыхарамі. Незадавальненьне сярод сялянаў выклікала літоўская палітыка адносна земляўласьнікаў, якія вярталіся, і падзеленыя між сялянамі зямлю, жывёлу й маёнткі трэба было аддаваць назад.

У выключна цяжкім становішчы апынуліся й гараджане. Тыя, хто жывіўся дробнай вытворчасьцю й гандлем, страчвалі свае заробкі з прыходам на рынак манапалістычных літоўскіх аб'яднаньняў. Літоўскія прадпрыемствы ня бралі на працу тых, хто ня ведаў літоўскае мовы, а прывозілі ўласны пэрсанал.

Незадаволенасьць тутэйшых расла, але ўсе сходы (у тым ліку вясельныя й бацькоўскія ў школах) былі забароненыя й перасьледаваліся паліцыяй. Тым ня менш, у лютым-сакавіку 1940 году аднавіліся прафсаюзы будаўнікоў, гарбароў, друкароў, пекараў і іншыя. Была створаная Рада прафсаюзаў, якая дамагалася іх легалізацыі. Страйкі, — адзначае Р.Жэпкайтэ, — пачаліся адразу, як толькі Літва атрымала Вільню.

Адразу паўстала й праблема выжываньня места. Атрыманы рэгіён ня быў у стане пракарміць Вільню. Паводле падлікаў літоўскага эканаміста А.Рымкі, пракарміць горад маглі землі ў абшары 75 км вакол яго. Аднак у польскія часы з прычыны нізкай ураджайнасьці й слаба разьвітае жывёлагадоўлі амаль палову харчаваньня дастаўлялі мясцовасьці, адлеглыя ад гораду на 100-200 і болей км. Калі ж Літва атрымала Вільню, навакольныя землі звузіліся да 50 і менш кілямэтраў. Такім чынам Літва, якая стала забясьпечваць Віленшчыну за кошт зьнешняга гандлю, мусіла зьменшыць свой экспарт на 25 млн. літаў.

## ПАЛІТЫЧНЫ СУПРАЦІЎ

Ужо 29 кастрычніка ў Вільні пачаліся маладзёжныя дэманстрацыі пратэсту. Экстрэмісцкая частка польскага грамадзтва, — піша Р.Жэпкайтэ, — уважала Літву за слабога ворага. Меркавалі, што Нямеччына неўзабаве прайграе вайну й Польская дзяржава будзе адроджана ў ранейшых межах. Паліцыя мусіла разганяць грамады моладзі. У ноч на 30 кастрычніка нехта абстраляў літоўскую варту. Гэта былі толькі першыя сыгналы.

31 кастрычніка ў доўгіх чэргах каля пякарняў пачаліся хваляваньні з прычыны падвышанага ў 2-3 разы кошту хлеба. Хлеба не хапала. Пайшлі пагалоскі, што ўладальнікі складоў, галоўным чынам жыды, хаваюць хлеб. Паліцыя й салдаты спрабавалі разагнаць тлум гумовымі палкамі, але жыдоўскія пагромы ў горадзе ўсё ж пачаліся. Перад гарадзкой управай натоўп патрабаваў зьменшыць кошты на хлеб, зраўняць злоты зь літам, крычалі «Няхай жыве Польшча», «Літоўцы, прэч», гукалі Савецкі Саюз і Чырвоную Армію. На Вялікай вуліцы літоўскім жаўнерам крычалі: «Ідзіце, адкуль прыйшлі», кідалі ў іх камяні.

З данясеньня дэпартамэнту бясьпекі ад 3 лістапада 1939 году бачна, што беспарадкі ў Вільні цягнуліся цэлы дзень, што літоўская паліцыя спачатку нічога не рабіла, а пасьля ўжо нічога не магла зрабіць. Пагром разганялі конная паліцыя й рэзэрв паліцыі, на дапамогу прыйшлі чырвонаармейцы. Толькі каля 19 гадзіны, калі па вуліцах праехалі савецкія танкі, удзельнікі пагрому разыйшліся.

Хваляваньні адбываліся таксама 1 лістапада. Зноў працягваліся жыдоўскія пагромы, якія адбыліся таксама ў Новай Вялейцы, Майшаголе, Падбродзьдзі... Р.Жэпкайтэ разважае пра тое, хто інсьпіраваў гэтыя пагромы. Яна даказвае, што — польскія экстрэмісты, але пры гэтым згадвае меркаваньне жыдоўскай грамадзкасьці пра тое, што гэта літоўцы скіравалі гнеў насельніцтва супраць жыдоў.

Дэманстрацыі супраціву й польскія патрыятычныя выступы, дывэрсіі на сувязі й на чыгунцы, абстрэл літоўскіх вайскоўцаў адбываліся ў горадзе й рэгіёне ўвесь час. Пілавалі тэлеграфныя слупы, пад чыгуначнымі рэйкамі выкапвалі яміны. Ужо ў канцы кастрычніка сталі паступаць зьвесткі пра партызанскія атрады, якія пагражалі тэрорам, стваралася польскае падпольле.

*Працяг на старонцы 24*

# Дзе жыве ведзьма?

*Працяг са старонкі 12*

ніколі не хаджу. — Можа й нам ня можна? Можа яна й дагэтуль жыве? — ... Вайна была — можа забілі. Можа ўцякла... Можа дзе й цяпер у яміне сядзіць...» Бабуля расказвае гэта цалкам сур'ёзна — ні ценю ўсьмешкі. Нейкі час доўжыцца маўчаньне. Потым мы пераводзім размову на іншыя тэмы.

Бабуля Альжбета працытавала нам вершык аб маршалку Пілсудзкім, якому навучылася яшчэ ў школе, прыгадала даўнейшую песьню «І туды гара, і сюды гара, паміж тымі горамі крутымі ўсходзіла зара...» «... Даўней пялі, — кажа бабуля, — цяпер няма ўжо тых песьняў — хоць пуп трэсьні. Радзію ўключыш — зусім ня тое». Мы дзякуем бабці Альжбеце і йдзем далей. Па дарозе трапляецца яшчэ пара хатаў-хутароў. Гісторыя пра «ведзьміну печ» абрастае цікавосткамі й набывае нечаканы дэтэктыўны працяг.

Расказвае дзядук Іван Дудзень: «Дык таго каменя ўжо няма. Як мальярацыю рабілі, то згарнулі яго, загналі ў кусты. Алзін тут такі быў, кажа: «Я гэту ведзьму выганю!» Яго потым трактар задавіў». Нішто сабе казачкі! Тут калі й ня хочаш, то ў ведзьму паверыш. Але йдзем далей і нарэшце чуем: «Так, вось тут камень той і ляжаў, — гэта распавядае пажылая кабета Гэня Ваўчок, — мама казала, што тут ведзьма жыла, дзяцей калыхала, але мы не баяліся. Каровы пасем, пасядзім; тут арэхі расьлі, дык зьбіралі. Гэта ўсё нашая зямля была, але каля каменя не гаралі. Ля каменя бяроза расла, унізе дуб стаяў. А камень такі быў, як вапенны, і пячуркі ў ім былі, вот як у печы робяць на запалкі». Пані Гэня згадзілася правесьці нас на тое месца. Узыйшлі на пагорак, расхінулі зарасьні лубіну — тырчаць зь зямлі нарослыя мохам рэшткі таго каменя. Тырчаць, як раскрышаныя ўчарнелыя зубы ў роце самой вядзьмаркі...

Мы пытаемся пра таго чалавека, што зьніштожыў камень. «Так, — пацьвярджае кабета, — гэта на куцыю было. Ён нечага вылез з трактара, а той ня быў заглушаны, яму адзежу зубамі ўчапіла й задавіла трактарам. Там, ля аўтобуснага прыпынку, крыж паставілі». Слухаючы ў гэткім месцы гэткія гісторыі стала трохі ніякавата, але мы былі яшчэ заведзеныя на зьбіраньне інфармацыі й таму запыталіся дзе сям'я таго чалавека. «А вы ня ведаеце? Сёлета ж, на Юр'я жонку ягоную забілі. — Хто, чаго?! — Ат, рознае казалі. Вот пахавалі і ўсё. Пілі то страшна і ён, і яна, і дзеці п'юць».

Пакуль што хопіць гэтых жахаў. Дай бог пачутае пераварыць. Мы вырашаем тэрмінова перабрацца на беларускі бок і шукаць табар сваіх сяброў.

Дзяржаўную мяжу перайшлі... нават не заўважылі, дзе. І гэта падштурхнула мяне да развагаў пра межы праўдзівыя і ўяўныя. Дзе мяжа паміж новым і старым, паміж верай і паняверкай, паміж рацыянальным і бязглуздым? Якіх межаў мусім пільнавацца? Якія пераадольваць?

Наступныя некалькі дзён толькі пацьвердзілі мае сумненьні. Была праца ў тым самым спэцыфічным рэжыме, пра які казаў вышэй — мы адкопвалі рэчы тысячагадовай даўніны, ад мясцовых жыхароў запісвалі проста неверагодныя гісторыі, вечарамі пры вогнішчы заводзілі размовы, што нагадвалі больш сьпірытычныя сэансы. Адначасна мы жылі й працавалі ў памежным рэжыме, у памежнай зоне — штодня бралі ваду з «замежнай» студні, штоночы сачылі, як па полі гойсалі машыны, відаць, зь нейкай кантрабандай, а за тымі машынамі гойсалі памежнікі на матацыклах...

Праз нейкі час вынікі нашае экспэдыцыі будуць апрацаваныя ды апублікаваныя ў якім-небудзь гістарычным часопісе. Не хацелася б толькі, каб у той момант паўтарылася адна з запісаных намі гісторыяў. Казалі, што ў трыццаць дзявятым надта ж лютую мяжу былі зрабіўшы тут. Колькі людзей былі паарыштоўваўшы, нават пазабіваўшы...

# ЛІТОЎСКІ ПАХОД НА ВІЛЬНЮ

*Працяг са старонкі 23*

Цяжка ўстанавіць, — піша Р.Жэпкайтэ, — дзеля чаго 26 красавіка шэф паўночнага сэктару Віленскага гарнізону рыхтаваў плян дзеяньняў на выпадак небясьпекі. У пляне адзначана, што кожную хвіліну Вільні й вайсковаму гарнізону можа пагражаць небясьпека: узброенае паўстаньне арганізаванага непрыхільнага мясцовага насельніцтва, якое падтрымалі б узброеныя атрады з-за гораду. Надыходзілі сьвяты 1 траўня і 3 траўня — дня польскай канстытуцыі. Можна здагадвацца, — піша дасьледчыца, — што вайскоўцы баяліся саюзу рабочых і польскіх нацыяналістаў супраць літоўскай улады ў Вільні.

## МЕРЫ СТАБІЛІЗАЦЫІ

Неўзабаве ў горадзе былі ўведзеныя харчовыя карткі. Дзякуючы павелічэньню колькасьці крамаў, дастатковай колькасьці прадуктаў (за літы ва ўсіх крамах тавары прадаваліся бяз картак) — справа забесьпячэньня Вільні ўваходзіла ў нармальную каляіну. Харчоў было дастаткова, але людзі ня мелі грошай. З 2 да 20 лістапада быў праведзены абмен злотых на літы.

Шмат насельніцтва было занята на публічных работах — на воднай электрастанцыі ў Турнішках, на дарозе праз Панары, на разбудове вода-каналізацыйнай сеткі, парадкаваньні Катэдральнага пляцу й вуліц, раёну Новай Вялейкі. На ўсіх гэтых работах біржа працы задзейнічала каля 9 тыс. чалавек. Амаль тысяча працавала ў лесе. Улады імкнуліся, па-першае, забясьпечыць працай беспрацоўных і, па-другое, выкарыстаць танную рабочую сілу для ўпарадкаваньня рэгіёну. Але, — заўважае Р.Жэпкайтэ, — публічныя работы ня вырашылі праблему беспрацоўя ў Вільні й на Віленшчыне.

Прэм'ер А.Мяркіс, які перад тым быў упаўнаважаным ураду ў Вільні, прызнаў на зьезьдзе Саюзу Таўтінінкаў у пачатку студзеня 1940 г., што пасьля страты Вільні ў 1920 г. урад усю ўвагу скіроўваў на дыпляматычную й палітычную барацьбу за яе, але зусім не вывучаліся рэальныя ўмовы жыцьця. «Калі мы ўвайшлі ў Вільню, трэба было дзейнічаць навобмацак», — казаў ён. Таму праграму дзеяньняў даводзілася карэктаваць. Пры гэтым стратэгічныя задачы заставаліся нязьменныя — засвоіць горад і зрабіць так, каб пасьля сканчэньня вайны сьвет убачыў літоўскую Вільню. У сваёй прамове прэзыдэнт А.Сьмятона заўважыў, што дзяржава будзе шанаваць культурныя асаблівасьці віленчукоў настолькі, наколькі дазваляюць законы. У выкладзе праграмы ўраду, які Р.Жэпкайтэ прыпісвае А.Меркісу, сказана, што невядома, як вырашыцца справа палітычнай прыналежнасьці Вільні пасьля заканчэньня вайны, трэба аднак упарта й сыстэматычна выконваць задачу — захаваць Вільню для Літвы.

Гэты пункт гледжаньня дасьледчыца называе лібэральным. Але была яшчэ й праграма скрайне правага крыла, дзе ставілася задача надаць Вільні — сталіцы Літвы адпаведны літоўскі выгляд, рэгуляваць грамадзкае жыцьцё з улікам таго, што горад належыць ня толькі яго жыхарам, але і ўсёй Літве, патрабавалася ўвесьці выключна літоўскую мову, таму што «дзяржаўная мова ў Літве толькі адна».

## ШКОЛА

З прыходам у Вільню літоўскае ўлады з сыстэмы асьветы ў горадзе было звольнена 583 работнікі. На месцы дырэктараў і кіраўнікоў школаў прызначалі літоўцаў. Новы закон аб школе патрабаваў у іншамоўных школах увесьці прадметы літоўскай мовы й па-літоўску — пазнаньня айчыны, гісторыі й геаграфіі Літвы. Усё гэта, — піша Р.Жэпкайтэ, — выклікала буру пратэсту. Увядзеньне літоўскае мовы польскія школы сустрэлі агульным страйкам. Выходзілі на вуліцы, сьпявалі польскі гімн, закідалі камянямі паліцыю, крычалі «Літва, прэч».

У такіх умовах літоўскія ўлады прыступілі да рэарганізацыі Віленскага ўнівэрсытэту. Паводле загаду новага рэктара І.Кончуса, усе студэнты да 1 сьнежня мусілі запоўніць анкеты — назваць месца паходжаньня, зь якога часу жыве на гэтай тэрыторыі. Хто не запаўняў анкету — лічыліся выбылымі. У адказ на гэта дэлегацыя прафэсуры адправілася ў Коўна, дзе прасілі хоць бы год не зьмяняць ва ўнівэрсытэце нічога, інакш яны складаюць зь сябе адказнасьць за эксцэсы, якія могуць арганізаваць студэнты.

Літоўская дасьледчыца прыводзіць дадзеныя 1936-37 акадэмічнага году, паводле якіх увогуле ў Віленскім унівэрсытэце было 3415 студэнтаў, у тым ліку 2295 палякаў, 636 жыдоў, 105 літоўцаў, 99 беларусаў.

13 сьнежня літоўскі сойм прыняў новы закон аб унівэрсытэтах, паводле якога ў Літве йснавалі два ўнівэрсытэты — Ковенскі й Віленскі. Другі мусіў кіравацца статутам першага. Па сутнасьці ранейшы Віленскі ўнівэрсытэт імя Сьцяпана Батуры быў ліквідаваны цалкам. З Коўна сюды былі пераведзеныя разам з студэнтамі, прафэсурай і выбарнымі ўладамі факультэты гуманітарных навук і права, якія мусілі стаць ядром новага ўнівэрсытэту. Усе іншыя факультэты былі зачыненыя. Студэнты гэтых факультэтаў, якія мелі права на літоўскае грамадзянства, маглі працягваць навучаньне ў Ковенскім унівэрсытэце. Такіх студэнтаў пераехала 141, у тым ліку 21 літовец, 17 палякаў, 78 жыдоў і 17 беларусаў.



*Літоўскія жаўнеры каля Віленскай катэдры. 1939 г.*

## ДЭПАРТАЦЫІ

Тым часам больш жорсткія рабіліся адносіны літоўскіх уладаў да ўцекачоў і «прыбышоў». У законе было сказана, што ўцекачы, якія ўяўляюць пагрозу для грамадзкага парадку, рашэньнем начальніка павету могуць быць адпраўленыя ў лягеры прымусовай працы (у законе — канцэнтрацыйныя лягеры).

Уцекачам трэба было штомесяц або што два тыдні рэгістравацца ў паліцыі, нельга было пакідаць месца жыхарства (парушальнікі арыштоўваліся на 6 месяцаў), належаць да палітычных партый, абмяркоўваць у публічных месцах парадак унутранага жыцьця, выступаць з дакладамі, пісаць у замежны друк, мець друкарскія машынкі. З пачатку 1940 году ўцекачы, якія ня мелі рэгістрацыйнага пасьведчаньня, не атрымлівалі харчаваньня. 28 лютага ў Вільні было зарэгістравана 26.836 уцекачоў.

20 сакавіка да ўцекачоў былі прыраўняныя ў правох «прыбышы». Абодвум катэгорыям дазвалялася наймацца на працу толькі ў поле ці ў лес. Увогуле такіх асобаў налічвалася 150 тысяч чалавек. Але найвялікшым ударам для іх была пастанова літоўскіх уладаў аб высяленьні. Перасялялі іх у спэцыяльныя баракі ва ўнутраных раёнах Літвы.

У актах літоўскіх уладаў захавалася шмат матэрыялаў пра тое, што мноства ўцекачоў не хацела пакідаць Вільню й не падпарадкоўвалася загадам. Адныя ўкрываліся, другія пісалі просьбы ў камісарыят, які быў завалены такімі просьбамі, трэція падраблялі дакумэнты.

У канцы красавіка камісар па справах уцекачоў прадставіў начальніку Вільні й павету свой плян *эвакуацыі*. На думку ваеннага камэнданта Вільні П.Каўнаса, плян гэты быў «драконаўскі». У сапраўднасьці, — піша Р.Жэпкайтэ, — гэта была прымусовая дэпартацыя.

Літоўскія ўлады спрабавалі таксама праводзіць рэпатрыяцыю. Яны дамовіліся з СССР і Нямеччынай, каб тыя дазволілі ўцекачам вярнуцца зь Літвы туды, дзе яны жылі перад вайной. 13-20 сакавіка 1940 г. ў Літве працавала савецкая рэпатрыяцыйная камісія, 18-21 сакавіка — нямецкая. На рэпатрыяцыю ў акупаваную немцамі частку Польшчы згадзіліся 3900 чалавек уцекачоў і 1600 інтэрнаваных жаўнераў. СССР прыняў 1081 уцекачоў і 1706 інтэрнаваных.

З такой самай мэтай Літва праводзіла перамовы з Англіяй, Швэцыяй, Даніяй, Нарвэгіяй. Прасілі прыняць хоць бы па тысячы ўцекачоў. Паслам у Вашынгтоне й Аргентыне даручана было прасіць, каб прынялі па 10 тыс. Пасольства Англіі згадзілася прыняць толькі асобных людзей, астатнія краіны адмовіліся.

## ЛІТОЎСКІЯ РАДЫКАЛЫ

Зьмену лібэральнай палітыкі літоўскіх уладаў у Вільні на палітыку «цьвёрдай рукі» Р.Жэпкайтэ тлумачыць найперш націскам правага крыла літоўскага грамадзтва. Прадстаўнікі гэтага крыла наяжджалі ў Вільню, патрабавалі тэрмінова літуанізаваць выгляд гораду, зьмяніць усё чынавенства на літоўцаў, увесьці толькі адну мову, былі заклікі заключыць усіх уцекачоў і «прыбышоў» у канцлягеры.

У 1940 г. у Вільні пачалі дзеіць радыкальныя літоўскія студэнцкія арганізацыі, якія стварылі аднаЛітны нацыяналістычны студэнцкі фронт за літуанізацыю краю. 7 красавіка пачаліся выпады студэнтаў на вуліцах, у кавярнях і касьцёлах. Было вырашана зрабіць так, каб да летніх вакацыяў грамадзкае жыцьцё Вільні набыло літоўскую афарбоўку. Даходзіла да боек. Віленскім студэнтам, — піша Р.Жэпкайтэ, — дапамагалі ковенскія.

Вясной 1940 г. у Вільню з Коўна перабраліся Саюз Адраджэньня Літвы й Віленскі Жалезны Фонд. Іх мэтаю было выхаваньне народу ў літоўскім духу. ВЖФ, напрыклад, стварыў на Віленшчыне 52 сьвятліцы з радыёпрыёмнікамі, патэфонамі, літоўскімі кружэлкамі, газэтамі, стваралі хоры, паказвалі кіно, арганізоўвалі турызм зь Літвы ў Вільню. У Вільні ствараліся літоўскія газэты, тэатры, праводзіліся канцэрты. Выдаткі на непрыбытковую культурную дзейнасьць пакрываліся зь бюджэту дзяржавы.

Апошні разьдзел кнігі Р.Жэпкайтэ прысьвечаны адносінам з касьцёлам. Польскі касьцёл быў самым упартым супраціўнікам літуанізацыі, і перамагчы ягоны супраціў літоўцам удалося толькі эканамічнымі сродкамі.

## ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА

Вільня — старажытная сталіца Літвы, пра што было сказана ў канстытуцыі краіны нават у тыя гады, калі часовай сталіцай было Коўна. Аднак пасьля вяртаньня Вільні літоўскі ўрад не перанес сюды сталіцу. Літоўскія гісторыкі пісалі, што А.Сьмятона не хацеў пераяжджаць у Вільню, бо атрымаў яе ад Савецкага Саюзу, бо Англія й Францыя не прызналі далучэньня Вільні да Літвы, бо пераезд сталіцы стаў бы ўдарам для домаўласьнікаў, рамесьнікаў Коўна, узрасла б колькасьць беспрацоўных, павялічыліся рэвалюцыйныя настроі. Гэта праўда, — піша Р.Жэпкайтэ, — але былі й нашмат важнейшыя прычыны.

У горадзе панавала нэндза, частка жыхароў была непрыхільна настроеная да Літвы, дзейнічалі ўзброеныя падпольныя арганізацыі. Акрамя гэтага, не было канчаткова вырашана пытаньне палітычнай прыналежнасьці места.

Патрэбныя былі памешканьні для дзяржаўных установаў і кватэры для сем'яў чыноўнікаў, бо разам з сталіцай у Вільню мусіла пераехаць 12 тыс. чыноўнікаў, разам зь сем'ямі — 35 тыс. чалавек. Будаўніцтва новых дамоў было не па кішэні літоўскаму бюджэту.

Аднак пакрысе Вільня станавілася часткай Літвы. Сюды былі пераведзеныя некаторыя дзяржаўныя ўстановы. 2 чэрвеня 1940 г. была ліквідаваная пасада ўпаўнаважанага ўраду. Гэтым даводзілася, што літоўскі ўрад прызнаў, што Вільня й Віленшчына дастаткова інтэграваныя з жыцьцём Літвы.

Калі ў 1940 г. Савецкі Саюз акупаваў Літву, першы этап інтэграцыі ўжо завяршыўся. Далей працэс інтэграцыі працягваўся, але ўжо ў іншых абставінах і іншымі мэтадамі.




*Паўднёва-ўсходняя мяжа Літоўскай Рэспублікі:*
*паводле дамовы з Сав. Расеяй 1920 г.*
*пасьля захопу Віленшчыны Польшчай.*
*па вяртаньні Віленшчыны Літве ў 1939 г.*
*сучасная.*

БІБЛІЯТЭКА

# Беларусы на ўсходзе Літвы

**Міндаўгас Тамашюнас зьмясьціў у віленскай газэце «Diena» 27 верасьня рэцэнзію на кнігу «Lietuvos Rytai» («Усход Літвы»), якую ў канцы мінулага году накладам 5 тысяч асобнікаў апублікаваў Дзяржаўны Выдавецкі Цэнтар.**

«Кніга ўключае артыкулы 22-х аўтараў — мовазнаўцаў, гісторыкаў, юрыстаў, сацыёлягаў — на актуальныя тэмы з галіны гісторыі, культуры й нацыянальных адносінаў ва Ўсходняй Літве (г. зн. на Віленшчыне. — **Рэд.**), — піша рэцэнзэнт. — Выданьне ўключае 4 мапы: распаўсюджаньне моваў ва Ўсходняй Літве ў чацьвертым дзесяцігодзьдзі XIX ст., на пачатку і ў канцы XX ст., а таксама фармаваньне межаў Літвы з Польшчай ад XVI ст. да нашага часу.

Аўтары артыкулаў — вядомыя нашы навукоўцы — абгрунтавана падаюць свае думкі. Аднак сумлеў выклікае сьцьверджаньне акадэміка Зігмаса Зінкявічуса, што за савецкі пэрыяд «літоўскасьць у Паўднёва-Ўсходняй Літве атрымала балючы, а нават сьмяротны ўдар».

Такой катэгарычнай выснове пярэчыць агульна вядомы факт, што на працягу апошняга стагодзьдзя толькі ў савецкія гады ў Вільні, як ніколі дагэтуль узрасла лічба літоўцаў, наша сталіца літуанізавалася. Колькасьць літоўцаў, хоць і павольна, расла таксама ў Віленскім раёне (паводле зьмешчанага ў кнізе артыкула Пятраса Кальнюса «Роля нацыянальна мяшаных сем'яў у сучасным працэсе асыміляцыі жыхароў Віленшчыны»)...

Істотна колькасьць літоўцаў зьмяншалася ў Салечніцкім раёне. Так было таму, што галоўны паток міграцыі ў гэты раён ішоў з суседняй Беларусі. Мае рацыю этнограф П.Кальнюс, называючы Салечнікі «ўнікальным» раёнам Літвы з «унікальнымі» жыхарамі. Дасьледаваньні П.Кальнюса даводзяць, што ў Салечніцкім раёне адбываліся своеасаблівыя нацыянальныя працэсы. Ніводная з нацыянальнасьцяў, што жывуць тут, не пярэчыла нацыянальнай асыміляцыі. Тут усе мелі ўласную нацыянальнасьць, але ня надта яе цанілі...»

Дадамо, што праблемы тутэйшага беларускага насельніцтва прадставіў у кнізе Лявон Луцкевіч.

(брат)

# Марцэлі Марцінайць

## ЗВЫЧАЙНАЯ ПЕСЕНЬКА

На высокім беразе
Даўна я сяджу,
Думаю аб нечым
Альбо ў ваду гляджу.

Па табе сумую
Ці то па вясьне.
Можа ўспамінаю,
Бачанае ў сьне.

Хай сьнег тае
Ці дажджы ліюцца,
На твае словы —
Як мне адгукнуцца?

Птушкі вяртаюцца
Зь цёплага краю,
На цябе гляджу ўсё —
Ды ніяк не пазнаю.

Твар твой скамянеў —
Я, аднак, чакаю.
Пра цябе ўсё думаю,
Цябе — не ўспамінаю.

## СІГУТЭ ЛЯ РАКІ

Не ўзірайся так пільна ў
ваду...
або аглухнеш,
або станеш дурніцай.
Будзеш глядзець, глядзець...
І дамоў ня вернесься.
Як засьнеш на беразе,
так пра ўсё забудзеш.
Выйдуць з гушчару зьвяры,
абліжуць цябе,
і станеш ты чужаніцай.

* * *

Калі я — дрэва,
якое аднойчы сьпілуюць,
то прашу: не гарадзіце зь мяне
паркан,
на дровы не сячыце.
Лепш пабудуйце зь мяне кладку,
дзьверы, альбо парог,
над якім вітаюцца.

Пераклаў зь літоўскай А.А.



# ВЯСЁЛКА ГРАВІТАЦЫІ

**Герой «Карычных крамак» у Бруна Шульца выбягае на хвілінку з тэатру, каб вярнуцца дахаты па забытую рэч. Каб спраставаць дарогу, зварочвае ў незнаёмую вулку і... беззваротна губляецца ў лябірынтах таямнічага гораду, які здаваўся знаёмым да драбніцаў. Нешта падобнае перажывае чытач твораў Томаса Пінчана. Сьвет яго раманаў (а іх усяго тры: «V», «№49 ідзе з малатка» й «Вясёлка гравітацыі») тапаграфічна нам знаёмы й зразумелы, аднак ужо зь першых крокаў — першых старонак — адчуваеш, што Пінчанава рэальнасьць падпарадкоўваецца іншым законам, звыклыя й прывычныя «каардынаты быцьця», прычынныя сувязі й заканамернасьці саступаюць месца безаблічнай, нябачнай, таямнічай і жахлівай Змове, у неадступнай абладзе якой жывуць усе Пінчанавы пэрсанажы.**

**Бард усеабдымнай Энтропіі, вяшчун Параноі — Томас Пінчан (нарадзіўся ў 1937 годзе ў Глен-Коўве, штат Нью Ёрк) будуе замкнёны самадастатковы сусьвет, вандруючы ў якім бяз компасу й мапы ён і сам почасту губляе ўсе дарогі. Магчыма, Я.М., пераклаўшы раман да канца, не заблукае ў непралазных гушчарах Пінчанавых думак і вобразаў.**

BKZ

Томас Пінчан

1

## НІЖЭЙ НУЛЯ

*Прырода ня ведае адміраньня; яна ведае толькі пераўтварэньне. Усё, чаго я даведаўся ад навукі, і чаго даведваюся далей, толькі мацуе маю веру ў працяг нашага духовага йснаваньня пасьля сьмерці.*

— Вэрнэр фон Браўн

Віскатня працінае неба. Такое бывала й раней, але цяперашняга не параўнаць ні з чым.

Ужо запозна. Эвакуацыя ўсё працягваецца, але гэта толькі цырк на дроце. У вагонах пагашана сьвятло. Пагашана паўсюль. Высока над ім бэлькі, старыя, як жалезная каралева, і дзесьці яшчэ вышэй шкло, што прапускае дзённае сьвятло. Але цяпер ноч. Ён баіцца, калі падае шкло; яно пачне падаць неўзабаве, і гэта будзе відовішча: абвал крышталёвага палацу. Абрынецца ў поўнай цемры, ні блісьне, адно вялікі нябачны розгрым.

У сярэдзіне вагона, пабудаванага ў некалькі ярусаў, ён сядзіць у глыбокай цемры, ня мае нават недапалка і чуе, як далей і бліжэй трэцца й стыкуецца мэтал, як з пшыкам вырываецца пара, вібруе вагонны каркас, балянсуе; няўтульна, ціснуць з усіх бакоў; слабамоцная, другасортная паства, бяздольная й бясчасная: п'яніцы, старыя вэтэраны, ачмурэлыя ад артылерыйскіх залпаў 20-гадовай даўнасьці, кішэньнікі ў выхадных гарнітурах, адшчапнецы, зможаныя кабеты з гэткай плоймай дзятвы, аж ня верыцца, што камусьці яна прыналежыць, пастаўленыя ў капу разам зь іншымі пажыткамі, вынесенымі дзеля збавеньня. Відаць адно бліжэйшыя твары, дый тое толькі як срэбнасмужныя абрысы ў візіры, або як зялёнаплямістыя твары Важных Шышак за непрабівальнымі шыбамі ў самаходах, што газуюць па горадзе. ...

Яны скрануліся зь месца. Выходзяць зьмейкай з галоўнага вакзалу, з цэнтру, і пачынаюць прабівацца ў старэйшую й больш занядбаную частку гораду. Ці гэта й ёсьць выйсьце? Твары паварочваюцца да вокнаў, але ніхто не насьмельваецца запытацца, прынамсі ўголас. Пачынаецца дождж. Не, яны не выблытваюцца з, а паступова *зашморгваюцца ў* — яны ўяжджаюць пад выгбы, у сакрэтныя ўваходы з трухлага бэтону, што выглядаюць як падземныя петлі... над галавой замільгалі ўчарнелыя драўляныя кроквы, патхнула вугальным духам прамінулых дзён, пахам зімы з газоўкаю, нядзелі з спусьцелай шашою, пахам каралападобных ды загадкава жывапруткіх атожылкаў, што павісаюць сьляпымі зьвівамі з самотных шпорак, скіслым духам цягніковага безруху, высьпельваньнем іржы, што раскашуе гэтымі парожнімі днямі ўглыб і ўзаед, асабліва на золку, сінімі заценямі штампуе свой поступ, спрабуючы зьвесьці ўсё да Абсалютнага Нуля... і робіцца яшчэ бядней, чым далей яны заглыбляюцца... зруйнаваныя таемныя прадмесьці ўбогіх, мясьціны, назвы якіх *яму ніколі не даводзілася чуць*... сьцены абвальваюцца, дахі трапляюцца ўсё радзей, як і надзея на сьвятло. Шлях, які павінен быў расчыніцца ў шырэйшую магістраль, замест гэтага робіцца вузейшы, больш калдобісты, сыходзіцца ўсё цясьней і цясьней, і раптам, зусім нечакана, яны ўжо пад апошняй выгбай: тармазы заядаюць і трасуць з жудасным скрыгатам. Як прысуд, ад якога няма адкліканьня.

Караван спыняецца. Тут сканчаецца лінія. Усім эвакуяваным даюць загад выходзіць. Яны рухаюцца паволі, але без супраціву. Тыя, што імі распараджаюцца, маюць кукарды пад колер сьвінца і не адгукаюцца. Гэта нейкі разьлеглы, вельмі стары й цёмны гатэль, жалезны працяг рэек і манэўровай машынэрыі, дзякуючы якім яны сюды прыбылі... Дыняватыя цёмназялёныя лямпы, якіх спакон веку ніхто не запальваў, зьвісаюць з-пад дзівотных жалезных гзымсаў... натоўп рухаецца бяз шэпту й дыху калідорамі, такімі простымі й спадножнымі, як прахоны ў таварным складзе... аксамітнамяккія чорныя паверхні паглынаюць рух; пах старой драўніны, дальніх крылаў, што ўвесь час пуставалі й толькі цяпер расчыніліся, каб прыняць сьціжму душаў, пах халоднага гіпсу, пад якім сканалі ўсе пацукі, і толькі іхнія душы непарушна, як пячорныя малюнкі, застылі трывалкімі й сьвятлістымі выявамі на сьценах... эвакуяваных бяруць партыямі, ліфтам — рухомым эшафотам, адкрытым з усіх бакоў, падыманым старымі прасмаленымі канатамі на калаўротах зь літага жалеза, са сьпіцамі, павыгінанымі як эSы. На кожным брунатным паверсе пасажыры сыходзяць і аддаляюцца... тысячы тых суцішаных пакояў безь сьвятла. ...

Некаторыя застаюцца самі, а некаторыя разьдзяляюць тыя нябачныя пакоі зь іншымі. Нябачныя, так, бо што значыць мэбля ў гэткім становішчы? Пад нагамі хрумсьціць найстарэйшы бруд гораду, апошняя крышталізацыя усіх, каго горад адрынуў, застрашыў, пра каго нахлусіў сваім дзецям. Кожны чуў голас, аднаму падалося, што ён гаварыў толькі яму, кажучы: «Ты сапраўды ня верыў, што будзеш збаўлены. Кінь, мы ўсе добра ведаем, якія мы цяпер. Ніхто нават не зьбіраўся збаўляць цябе, дружа. ...»

Выйсьця няма. Толькі ляжы й чакай, ляжы ціха й не варушыся. Віскатня надалей працінае неба. Калі яно наступіць, то ці наступіць у цемры, ці прынясе з сабою сьвятло? Ці сьвятло наступіць перад ці потым?

*Але ўжо стала сьветла.* Зь якога часу гэтае сьвятло? Увесь гэты час сьвятло цадзілася разам з халодным ранішнім паветрам, што цяпер кранула ягоныя смочкі: яно пачало выяўляць зборню п'яных мантачоў, адных у мундзіры, іншых без, што заціскалі ў руках пустыя ці паўпустыя бутэлькі, у адным месцы абвіслыя на крэслах, у іншым скручаныя ў настылым камінку, або расьцягнутыя на разнастайных софах, не-даедзеных дыванках і шэзлёнгах на розных узроўнях усьцяж даўжэзнага пакоя, пахропваючы й пасьвістваючы разнаякімі рытмамі, самаўзбудным хорам, калі лёнданскае сьвятло, зімовае цягучае сьвятло, расьце паміж вокнамі з папярочкамі, расьце між пластамі ўчарашняга цыгарэтнага дыму, што павісае, растваючыся, пад навошчанымі бэлькамі столі. Усе гэтыя ў

Працяг на староньцы 26

# Пару суворых словаў з лагоднага месца над рэчкай

Мэва Марон

Уявіце сабе калядную паштоўку з авечкамі на засьнежаных пагорках. Мураваныя агароджы, дым з камянічкі... Паўночна-ангельскі краявід, ледзь улоўны намёк на пастухоў, што йдуць за Бэтлеемскаю зоркаю. Гэтая паштоўка неяк шчымліва кранала душу. Я сама там была. Шэрасьценнае мястэчка на стромым беразе над ракою... Сапраўдная пара нараджэньня там — Вялікдзень: ягняткі ня толькі што белыя (у параўнаньні з авечкамі, чый колер бліжэйшы да каменьня), за імі яшчэ цягнецца пупавіна, а ў ярак яшчэ зьвісае пасьлед... Сымбаль крануў мяне больш, чым сама сутнасьць, скажаце вы. Але што ёсьць тая сутнасьць? Сучасная ангельшчына адмятае безьліч рэчаў як «усяго толькі апавяданьні», а значыць нешта *несапраўднае*. Апавяданьне, сымбаль, міт разглядаюцца як нешта банальнае, быццам нічога ня мае «глыбейшага значэньня», бо глыбейшыя значэньні ляжаць у полі *жаргону*, вялікіх словаў. Нешта яснае й канкрэтнае і ў тым самым часе *глыбокае* застаецца выключанае — адчуваецца, што гэткая гутарка йшла б *насуперак самой мове*... Неяк стаўся ведамы адзін біскуп, Дэвід Джэнкінс (з Нартумбрыі, дзе ірляндзкія манахі на прыбярэжных астравох у VII стагодзьдзі злучалі сёньняшнюю Англію з Сьв. Калумбам з Дэры): ён выказаў думку, што «Тры Мудрацы», Тры Каралі — усяго толькі пустое шалупіньне гісторыі Божага Нараджэньня, тым часам як дыскусія вакол уваскрасеньня можа ператварыцца ў пустую спрэчку аб сухіх костках (Езэкііль 37!) замест таго, каб удыхнуць жыцьцё шмат у што тут і цяпер. Уся прэса пачала крычаць «ерась!», як ён, пэўна, таго й спадзяваўся. Рызыкоўная справа разважаць над містычнымі рэчамі ў грамадзтве, чыя рэлігія скурчылася да памераў нядзельнага клюбу, нейкай экзатычнай штучкі сярод мноства іншых — аднак пра гэта прынамсі пісалася ў друку. Нутром адчуваецца, што Джэнкінс — беззаганна прававерны, што Божае Нараджэньне — гэта слава, схаваная ў сьціпласьці, сьвятло, схаванае, каб мы не асьлеплі, а ня толькі ўсходнія чарадзеі ў глыбінях гісторыі — аднак да каго дойдзе гэтая сутнасьць? У гэтым разьвянчаньні ёсьць нейкае славутае «не бяз сэнсу», нешта паўночнае, квакерскае — як і ў ягоным «казаньні ўладам праўды» аб (невясёлым) стане нацыі. Неабходна сказаць суворыя рэчы. Як Госпад сказаў Ісаю, калі сэрафімы дакрануліся вуглем да ягоных вуснаў: «Скажы ім, што яны чуюць словы й ня могуць разумець»... Напышліва? Не, якраз так, як і належыць прароку. Ёсьць гэткія й сярод паэтаў, хто таксама кажа пра істотныя рэчы. Толькі нячаста. Астатнія ж пры іх — толькі дэкаратары, якія кажуць толькі тое, што, на іх думку, людзі хочуць ад іх пачуць... Як некалі ў VII стагодзьдзі Бэда ў Джароў (у тым самым Джароў, дзе ў 1920-я гады былі галодныя дэманстрацыі), думаеш — у той самай традыцыі, недзе на паўдарозе да сёньняшняга дня — пра адраджэньне ангельскай літаратурнай мовы ў канцы XIV стагодзьдзя ня толькі ў Чосэра й ягоных аповесьцях пра Кентэрбэрыйскіх паломнікаў ды ў вершах накшталт «Пэрла» або «Пірса-ратая», але і ў містычных творах, гэткіх як «Воблака Няведаньня» (якое пабожны малельнік мусіць пратнуць «дзідаю палымянае любові», а не пакладацца занадта на словы...) або відзяжы жанчыны, што звалася Джуліян з Норвічу, якая бачыла Ісуса як маці й сусьвет ня большы за арэх...

Паўночная Англія гарыстая, мокрая і ўкрытая гразёю часьцей чым сьнегам. А вось гэтымі Калядамі там якраз стаяла цудоўнае яснае марознае надвор'е, сьнег цэлых некалькі дзён трымаўся крыху вышэй за мястэчка, на ўзроўні 300 мэтраў. Але едучы туды рыхтуесься да гразі й дажджу. Там як дома. Пагоркі, гразь, дождж, сьнег — сапраўдная Англія? Або сапраўдная Брытанія, улучна з кельцкімі землямі? Услаўленая ў мінімалізме ангельскага мастака Рычарда Лонга, які паўтарае пехатою лініі на карце, прыкладам, «203 мілі на поўнач за шэсьць дзён ад Корку да Слайго», выкладае ў краявідзе колы з камянёў, галінаў або сьнегу, фатаграфуе іх, складае вершы зь сьпісаў знойдзеных рэчаў або назоваў мясцовасьцяў па-ірляндзку або па-валійску...

Мой тэкст пра Пірса Хатчынсана й іншых ірляндзкіх паэтаў застаўся няскончаны: аднаго паэта, прытым вельмі глыбокага, я не згадала. Паэзія на сучаснай ангельшчыне зводзіцца, амаль паводле дэфініцыі, да «саладжавае лірыкі» пра птушак і пчолак; тым часам як шчырая, сярдзітая й абураная паэзія перараджаецца ў вершаваную палітыку. Пірсу Хатчынсану ў тым маім тэксьце ўдаецца казаць праўду, не трапляючы ў гэтую пастку. Другім такім паэтам была Катлін Мод. Пясьнярка традыцыйнага стылю, гэтаксама як і паэтка: Пірс Хатчынсан прасіў ірляндзкую сьвісьцёлку маліцца за яе (і нас). Яна памерла, саракагадовая, ад раку, больш за дзесяць гадоў таму — перш чым увайшло ў моду перакладаць паэзію зь ірляндзкай на ангельскую, таму я мусіла папрацаваць сама, каб упэўніцца, што я ўсё разумею, перш чым прадставіць яе. Яна б усё адно не ўхваліла гэтую моду, як Біды Джэнкінсан, лічачы яе прызнаньнем паразы. А яна была прыроджаным змагаром, хоць зь яе фатаграфіі (той адзінай, якую бачыш паўсюль) на нас глядзіць хтосьці пакрыўджаны й згублены ў сьвеце з чужымі каштоўнасьцямі. Вось яшчэ адна прычына, дзеля якое пра яе нельга згадваць мімаходзь: занадта лёгка ў ёй можна было б пабачыць проста ахвяру. (Паэт, што памірае малады, атрымвае ад крытыкаў разнастайныя «скідкі».) Але тады яе вершы — роздум аб сваёй недарэчнасьці ў гэтым сьвеце. *«Я — жывёла»*, кажа яна ў вершы «Турма», *«мой крык / аднойчы страсянуў лес // цяпер я ляжу / разглядаючы адным расплюшчаным вокам / тое самотнае дрэва // і гэтыя натоўпы / кожны дзень / толькі й маглі б рабіць / што выпускаць мяне на волю»*. Як і Майкл Дэвіт, яна мае верш, зьвернуты да Бобі Сэндса. Было б занадта танна сказаць, што яна памірала ў той самы час, што й ён: яна сапраўды брала ўдзел у маршы на падтрымку галадоўшчыкаў. Істотны апошні радок: яна кажа, што гэта ня проста гульні на вуліцы, і што *«я — індзеец»* (г. зн. узорам для вулічных гульняў нашага пакаленьня былі фільмы пра каўбояў і індзейцаў!).

«Маё ймя было гразь», кажуць па-ангельску, калі некаму нешта сапсуюць; людзі, што выклікаюць непрыязь, могуць быць названыя *сміття*. Паводле антраполягаў, гразь, бруд — гэта нешта недарэчнае. І блізка зьвязанае зь сьвятым. Сьв. Патрык казаў у сваёй «Споведзі», што «перш я быў прыніжаны, я быў як камень, што ляжыць у глыбокай гразі; а Ён, магутны, прыйшоў, у ласцы сваёй падняў мяне й паклаў наверсе сьцяны». Гразь — неадчэпная тэма вершаў Катлін Мод. Яна сьцьвярджае, што «дождж падае на справядлівых і несправядлівых». Прыніжаных і растаптаных... Калі нешта бывае чыстае, яснае й нечапанае, у самы раз для сьвятара — дык яно блізка што мёртвае, амаль кажа яна ў вершы «Ануча». *«Я сваячка балоту. / Мне млосна... / Доктар, я не разумею. / Я была плямай на сьвеце... / мне ўтульна, дзе мох і гразь. / (Грэшніца ў гладкай лагоднай ліпкасьці ў нізіне.) / Я не казала малітваў перад ядою»*. «Сьнег 1968» падае *«паўсюль, а не сям-там. / Калі ён мае вочы, дык яны заплюшчаныя, як у блудніцы. / Патрульная машына, / магіла біскупа, / твой шыкоўны новы гарнітур, / куча гною...»*"Тэмаю магла б быць і ірляндзкая мова, працягвае яна: абмежаваная ў штодзённым ужытку ўбогім наборам фразаў паміж *«A chara»* (на пачатку ліста) і *«Pog mo thoin»* (гл. «Уліс», пераклад Максімюка, с. 214)...

Словы раскіданыя па старонцы, абкладзеныя цішынёю, яны й не глядзяцца як паэзія — не было й такога намеру. *«Ты шукаеш / сваім танказубым грэбнем / вершаў / а не знаходзіш / нават вошаў»*, канчае яна верш пра газэту, раскладзеную перад ёю ў дзяцінстве — гніды падаюць на Дэ Голя й караля Фарука (сёньняшні эквівалент Рэмбо ў яго экзатычным акне, дзе срэбныя пазногці й дрыготкія вейкі ягонай сястры патанаюць у духмянай цішы?!) У Катлін Мод шмат цішыні. «Двухмоўная цішыня» — назоў апавяданьня: *«Чаму яна не гаварыла па-ірляндзку? Няма сэнсу казаць па-ангельску, што твая родная мова — ірляндзкая. Я згубіла мову. Я маўчу. Я злуюся, праўда. Але маўчу. Якая розьніца? Цішыні бываюць розныя. Інакшыя. Або тыя самыя?» «Не гавары, / хлапец, / давай / мірыцца — / няўлоўная згода / паміж намі...»* Памятаеце Квакераў ва ўступе? Стывэн МакКена, перакладчык Плятына, любіць назначаць розьніцу паміж ірляндзкай моваю ў Мунстэры й Конахце — адна гаваркая й плыткая, другая маўклівая й глыбокая — ашчадная мова апавяданьняў Падрыга О Конара або вершаў Марціна О Дыраня пра «каменьне, глыбы і скалы»... Толькі не падманіцеся мітам пра «сапраўдную Ірляндыю»: магчыма, яго таксама трэба будзе разьвянчаць. Аднак Катлін Мод — выразнае дзіця Конахту, паводле азначанага размежаваньня. *«У маім краі на поўначы / дзе жыцьцё як надвор'е, / часьцей дождж, чым сонца / — сонца красавала на маёй калысцы, / акно ніколі не пускала ў пакой цёмнае неба...»*, пачынае яна свой верш пра Бобі Сэндса, вяртаючыся да дажджу й сонца. І да гразі, у яе часта цытаванай «Віетнамскай Песьні Каханьня», дзе лагоднае месца над рэчкай не абавязкова азначае гразь, бо слова лагодны ў некаторых ірляндзкіх кантэкстах значыць крыху болей, чым 'мілы': *«Яны сказалі, што гэта нашы людзі / хаваюць нашых людзей / мы мусім прынамсі здавацца паважнымі / калі ня плачам у жалобе // а мы / як надвор'е / як сонца / мы ня надта зважаем / на гэтую дзею... / мы маглі б застацца на полі бою / але жаўнеры былі такія сумныя / што нам стала сьмешна / і мы выбралі лагоднае месца над рэчкай»*.

*«Дзе, вершы, ваша прыродная безуважнасьць? / Нашто гэтыя нястрыманыя размовы / з кожным стрэчным?»*, кажа Мод у сваім праграмным творы: ваша, вершы, справа — не *«заводзіць сяброў»*, а «йграць слушнаю картаю». З 1982 году мінуў час, і ірляндзкія жанчыны не адчуваюць сябе гэткімі ж гатовымі да бою — таму я скончу на іншай ноце, гэткай жа нястрыманай, дадаўшы крышачку экзотыкі (неадлучнай ад кантэксту) і не адыйшоўшы далёка ад «лагоднай мясьціны над рэчкай». Біды Джэнкінсан, прадстаўленая ў адным з папярэдніх тэкстаў, мае верш пра некага гэтаксама недарэчнага — жаночае дрэва *гінкго* сярод аўтастаянкі ў адным з вашынгтонскіх супэрмаркетаў (жаночыя экзэмпляры гэтага віду значна радзейшыя за мужчынскія...): *«Плады нібы цьвёрдыя скулкі / што паўскоквалі на азадку ў немаўляці... / Няўжо нельга крыху стрымацца? / Брудзяцца чаравікі ў людзей, што заходзяць у краму, / псуецца дарагое кандыцыянаванае паветра: / прыстойныя грамадзяне абыходзяць — нібы стараюцца не наступіць на яйкі... Я сабрала твае плады / круглыя, халодныя й цэлыя / і паклала іх на хвілінку на дах белага Поршэ / каб надзівіцца. / Не застаецца нічога / як толькі пасьпешна набіць сабе кішэні... / саджуся ў аўтобус, ахутаная тваім смуродам, / шчокі палаюць чырваньню, абуджаючы тваё насеньне ад сьпячкі / і ўрэшце знаходжу мілае месца над рэчкай / і сею твой плод, / мая жанчына, Гінкго»*

# ВЯСЁЛКА ГРАВІТАЦЫІ

*Працяг са старонкі 25*

гарызанталі, гэтыя таварышы па зброі, выглядаюць рыхтык сябрына галяндзкіх мужыкоў, якім мрояцца сны аб іхнім несумнеўным уваскрашэньні ў найбліжэйшыя хвіліны.

Яго называюць капітан Джэфры («Пірат») Прэнтыс. Ён захутаны тоўстым пледам, клятчастым, у аранжавы, ржавы й барвовы колеры. Яму здаецца, што чэрап у яго выліты з жалеза.

Над ім, дванаццаць стопаў над галавою, Тэды Блоўт зараз выпадзе з галёркі мінэстрэля, намерыўшыся зваліцца якраз з таго месца, дзе хтосьці ў прыпадку буйства, пару тыдняў таму, выбіў нагою два эбанітавыя пруты балюстрады. Цяпер, у сваёй адубеласьці, Блоўт ужо прасунуўся, цаля за цаляй, праз прагал, галавой, плячыма, торсам, і адзінай рэччу, якая яго яшчэ прытрымлівала там, наверсе, была пустая пляшачка ад шампанскага ў задняй кішэні, якая за нешта зачапілася —

Пірату ўдалося сесьці на сваёй вузкай кавалерскай ляжанцы й палыпаць вачмі навакол. Паскудна. Страшна паскудна... ён дачувае, як наверсе разьдзіраецца палатно. Шэф Спэцыяльных Заданьняў навучыў яго хутка рэагаваць. Ён саскоквае зь ляжанкі на колцах і нагою пхае яе ў бок Блоўта. Блоўт грохае мехам бульбы дакладна пасярэдзіне ляжанкі, якая выдае гучны стогн спружынамі. Адна нага адвальваецца на падлогу. — Добрай раніцы, — кідае Пірат. Блоўт коратка адсьміхаецца й зноў засынае, утульна захутаўшыся ў Піратаў плед.

Блоўт — адзін з жыхароў гэтага дамка каля Чэлсінскай набярэжнай, узьведзенага ў мінулым стагодзьдзі Карыдонам Троспам, знаёмцам сям'і Расэлі; ён ходзіць у валахатых апранахах і любіць вырошчваць лекавыя расьліны на даху (традыцыя, якую апошнім часам узнавіў малады Осбі Філ): толькі нешматлікія зь іх могуць ператрываць туманы й маразы, тым часам як большасьць, кавалкамі адмысловых алкалёідаў, вяртаецца назад у зямлю на даху, разам з гноем з-пад трох прызаносных сьвінаматак з Уэсэкскай седлавіны, паселеных тут спадкаемцам Троспа, разам з апалай лістотай з шматлікіх аздобных кустоў, перасаджаных на дах пазьнейшымі жыхарамі, і з залішнімі няўежнымі абедамі, якія туды выкінуў ці званітаваў той ці іншы ўражлівы эпікурэец — аж урэшце сячкарня сэзонаў замясіла слоістае покрыва, таўшчынёю з стапу, зь неверагоднага чарназёму, у якім магло расьці ўсё, не выключаючы бананаў. Пірат, даведзены да адчаю ваенным дэфіцытам бананаў, пастанавіў збудаваць шкляную цяпліцу на даху і ўпрасіў аднаго сябрука, які зьбіраўся ляцець маршрутам Рыё-Асцэнсыён-Форт-Лэмі, каб той яму зрэзаў пару маладых бананавых дрэўцаў для прышчэпкі ў абмен за нямецкі фотаапарат, калі яму толькі трапіцца такі падчас ягонага наступнага парашутнага заданьня.

Пірат праславіўся сваймі Бананавымі Сьняданкамі. Ягоныя аднахлебнікі зьяжджаюцца сюды з усёй Англіі, нават тыя, у якіх бананы выклікаюць алергію або непрыхаваную варожасьць, каб толькі паглядзець — бо хітрамудрасьць бактэрый, іхняе падглебнае заплятаньне колцаў і ланцужкоў у сеткі з богведама якімі вочкамі, часта гнала плады ў паўтарастопавую даўжыню; неверагодна, але сапраўды так.

Пірат стаіць у прыбіральні й сцыць без аніводнае разумнае думкі ў галаве. Потым навалаквае на сябе ваўняную робу, якую носіць назнаніцу, каб хаваць ад вачэй кішэню з цыгарэтамі, хоць гэта й ня надта дапамагае, і, кружляючы паміж разапрэлых цел сябрукоў, прабіваецца да бальконных дзьвярэй, высьлізгвае ў знадворны холад, енкнуўшы ад зашчымелых зубных плёмбаў, узьбіраецца па вітых сходах у садок на даху й запыняецца на хвіліну, спазіраючы на раку. Сонца ўсё яшчэ за даляглядам. Выглядае, што днём задажджыць, але пакуль паветра незвычайна празрыстае. Вялізная будыніна электрастанцыі, газавы завод за ёю, вырысоўваюцца выразна: крышталі, што вырасьлі ў мэнзурцы сьвітаньня, коміны, вэнтылятары, вежы, вадаправоды, шышкаватыя выкіды пары й дыму. ...

— Ххахх! — Пірат назірае ў безгалосым пошуме, як ягоны дых разьвейваецца над парапэтам. — Ххааххх! — Дахі танцуюць у ранішнім паветры. Ягоная агромністая бананавая гронка, зіхотка-жоўтая, вільготна-зялёная. Ягоныя кампаны нанізе сьняць трызненьне аб Бананавым Сьняданку. Гэты добра вышараваны дзень павінен аказацца ня горшым за —

Ці акажацца? Далёка на ўсходзе, над ружовым даляглядам, нешта зайскрылася, вельмі ярка. Новая зорка, нічога іншага не было б відаць. Ён абапіраецца локцямі аб парапэт, каб паназіраць. Бліскатлівы пункт ужо стаўся кароткай вэртыкальнай белай лініяй. Гэта, мабыць, недзе з-над Паўночнага мора... сама менш адтуль... лядовыя прасьцягі зьнізу й халодная пляма сонца. ...

Што гэта? Нічога падобнага не бывае. Але Пірат ведае. Ён бачыў гэта ў фільме, усяго два тыдні таму... гэта кандэнсацыйны сьлед. Ужо на палец вышэй. Але гэта не за самалётам. Самалёты не падымаюцца вэртыкальна. Гэта новая, усё яшчэ Абсалютна Сакрэтная нямецкая ракетная бомба.

— Надыходзіць пасылка. — Ці ён шапнуў гэта, ці яму толькі падумалася? Ён заціскае зашмуляную апярэзку свае робы.

# Тры барсэлёнскія музэі: Пікаса, Гаўдзі, Міро

Адам Глёбус



Люблю бібліятэкі, выставы й музэі. І калі б я зноў захацеў стаць мастаком, дык абавязкова выпрасіў бы ў Мэфістофэля новае жыцьцё. Дату нараджэньня я ўзяў бы ў гадах 80-х XIX стагодзьдзя, нацыянальнасьць у мяне была б — гішпанец. Спачатку я падумваў наконт жыдоўства, але спыніўся ўсё ж на гішпанцы, народжаным у Барсэлёне. Паглядзеўшы тры тутэйшыя музэі, я пераканаўся, што, каб стаць найвялікшым мастаком напрыканцы другога тысячагодзьдзя, трэба мець касмапалітычныя схільнасьці, каб жыць у Парыжы, трэба любіць Радзіму, калі на тваёй радзіме любяць жывапіс і ў кожным доме знаходзіцца сьцяна для карціны, трэба быць гішпанцам, каб яшчэ да нараджэньня бачыць ультрамарын. Толькі я ўжо не хачу быць вялікім мастаком мінулых часоў. Мяне цалкам задавальняе постмадэрністычны час зь яго лёгкім стаўленьнем да ўсіх каштоўнасьцяў чалавецтва. Я не хаджу ў цырк, бо мне сумна глядзець, як тыгры робяць павялікаму на арэну. Я люблю музэі, бо мне весела глядзець на стокіляграмовага паліцыянта, які прагульваецца па залі №1 у музэі Пікаса. Паліцыянт самым парадаксальным чынам зьяўляецца вязьнем. Калі б мяне прымусілі шэсьць разоў на тыдзень праходжвацца з канца ў канец невялікае залі, дзе акрамя шасьці керамічных талерак з пачварнымі рожкамі й наведнікаў, якія збольшага незадаволеныя якасьцямі шэдэўраў, нічога няма, я звар'яцеў бы й пабіў бы талеркі на аскепкі, аскепкі сабралі б і склеілі рэстаўратары, і шэдэўры сталі б утрая лепшыя, бо ўвішны экскурсавод расказваў бы пра драматычны выпадак, калі ледзьледзь не загінулі творы вялікага Пікаса. Можна ўявіць, як бы абрыдла гэтая гісторыя новаму паліцыянту, і ён бы ўжо ня біў кераміку аб зямлю, а задушыў бы ўвішнага экскурсавода, тады б заля №1 стала найцікавейшай у музэі Пікаса. У яе перасталі б пускаць, дазволілі б толькі зазіраць. А калі б знайшліся грошы, дык зрабілі б і сцэны з васковымі фігурамі: сцэна першая — паліцыянт трушчыць абцасамі кераміку Пабло, сцэна другая — другі паліцыянт цісьне каленам на горла экскурсавода. І можна ўявіць, а можна не ўяўляць і пайсьці ў другія залі. Што да мяне, дык я хаджу па музэях вельмі хутка і амаль не спыняюся каля экспанатаў, хіба што каб паказаць пальцам ці пасьмяяцца. Але такое здараецца выключна рэдка. У мяне ёсьць свая, выпрацаваная за чвэрць стагодзьдзя мэтода наведваньня музэю. Я доўга рыхтуюся, вельмі доўга рыхтуюся, так доўга, што недасьведчаны чалавек і ўявіць сабе ня зможа, колькі я рыхтаваўся да праходкі па музэю Пікаса. Колькі сябе памятаю, столькі й рыхтаваўся. І калі ў гэта цяжка паверыць, дык мне было яшчэ цяжэй пераканацца, што я без дапамогі Мэфістофэля знаходжуся ў Барсэлёне, у музэі Пікаса, дзе некалькі дзясяткаў заляў набітыя творамі Пабла, наведвальнікамі й паліцыянтамі. Але ж я быў у Барсэлёне й прайшоў цяжкай хадою, заклаўшы рукі за сьпіну й выставіўшы наперад ніжнюю сківіцу, усе залі з шэдэўрамі Пікаса. Я плыў, як ледакол праз Паўночна-ледавіты акіян, плыў, адкрыўшы ўсе ілюмінатары памяці. Я прыходжу ў музэй, каб яго запомніць. Пікаса сказаў: «Я не шукаю, я знаходжу!» А я наведваю музэі, каб не паглядзець, а каб убачыць і запомніць. А дзеля гэтага шмат часу ня трэба. Праплыў і запомніў. І цяпер я дакладна магу сказаць: Пабло — самы папулярны мастак сярод злодзеяў, бо я ня помню, каб у нейкім іншым музэі было столькі паліцыянтаў. Добра яшчэ, што не гвардзейцаў з аўтаматамі. Адна паліцыянтка мне вельмі спадабалася. Яна ахоўвала самую вялікую карціну, а сама была кішэннага фармату. Вось плывеш сабе з залі ў залю, а ўсе паліцыянты, як шэдэўры — адзін за аднаго красівейшыя й вышэйшыя. А тут раз, і жанчынка ў сіняй фуражцы, ну яшчэ сантымэтар росту адкінь і будзе карліца, якіх так любіў Вэляскес, якога так любіў Пікаса. Ён яго так любіў, што ў выніку гэтае плятанічнае любові палова барсэлёнскага музэю пазавешана імправізацыямі на тэму вэляскесаўскіх «менінаў». Дзясяткі інфантаў абступілі мяне ў залі з маленечкай паліцыянткай. І я спыніўся, каб паглядзець як нехта ключом, ці нечым іншым, павыдзіраў-павыпорваў вочкі на рэпрадукцыі з шэдэўра спадара Вэляскеса «Меніны». «Каб на магіле гэтага барбара, таксама на партрэце вочкі павыпорвалі», — падумаў я й рушыў далей: наперадзе заўсёды больш цікавыя рэчы, чым ззаду, наперадзе рэстарацыя, а ззаду рэстаўрацыя. Наперадзе мяне чакалі малюнкі, афорты й літаграфіі. Калі Дэрэн сказаў пра Пікаса, што той ня бачыць колеру, а толькі крышачку падфарбоўвае свае малюнкі, дык меў рацыю. Галоўнае, каб малюнкі былі добрыя. Я дык наогул вялікі аматар малюнкаў Пікаса. Я нават скажу, што «Герніка» гэта — малюнак, выкананы алейнымі фарбамі на палатне. Асаблівая дакладнасьць у памеры. Яго я сьпісаў з кніжкі, а кніжку я набыў у самай вялікай барсэлёнскай краме. Такой вялікай і дарагой, што проста ёсьць у ёй усё. Я зайшоў у кніжны загон, і адразу побач вырас прадавец. Вось я і скажаў: «Альбом Пікаса!» Ён і выклаў ажно чатыры тоненькія, а я паказаў пальцамі — тоўсты трэба альбом, а не часопісы нейкія. Ён і прынес тоўсты, у каробцы, у двух тамах. Я набыў. А вось у музэйнай краме я ня змог набыць добры альбом з афортамі, з быкатаўрамафіяй. Прадаўшчыца з алейным тварам падала мне кнігу ўсю засаленую, залапаную, зашмальцаваную. І я дамовіўся яе браць, а яна адмовілася адмыкаць вітрыну, а я азьліўся на яе й пайшоў у прыбіральню, дзе памачыўся, памыў рукі й супакоіўся. З музэю Пабла я выйшаў вось так вось у добрым настроі. Настрой мой быў проста выдатны, бо я пераканаўся ў наступным... Пікаса любіў маляваць, а яшчэ больш перамалёўваць. Убачыць у якой кніжцы ці часопісе прыгожы фotaздымак ці малюнак, і адразу крыва-коса, а перамалюе. Ніхто й вокам міргнуць не пасьпее, а Пікаса ўжо мае перамаляваную прыгажосьць. Аднаго разу да Пабла Пікаса ў майстэрню прыйшоў фатограф. Пабла запрасіў яго, каб замацаваць на фота свае малюнкі, якія ён рабіў у поўнай цемры запаленай сьвечкаю. Калі маляваньне сьвечкаю было скончана, фатограф угаварыў Пабло зьняцца разам. Ён уладкаваў апарат на штатыў, пусьціў аўтаспуск і пабег, каб стаць побач зь Пікаса, а калі бег, дык наступіў на край місы з вадою, вада плёхнула на падлогу, туды, дзе ляжалі малюнкі. Пікаса кінуўся ратаваць свае малюнкі. Пабло, як і я, вельмі любіў свае малюнкі. Фатограф пачаў прасіць прабачэньня, а Пікаса сказаў, што яму ня трэба ніякіх прабачэньняў, а патрэбны фотаздымак, бо ён хоча, каб усе ведалі, якая цудоўная рэакцыя была ў Пабло. Калі фатограф угаворваў Пікаса сфатаграфавацца, дык у майстэрні было яшчэ чалавек дваццаць крытыкаў і калекцыянэраў. І ўсе яны таксама сталі перад камэрай, замацаванай на штатыве. І ніводная жывая істота, акрамя Пікаса й ягонага сабакі, не пасьпела зрэагаваць на пагібель малюнкаў. Пікаса й сабака атрымаліся на нэгатыве змазаныя. Вось так Пабло атрымаў неабвержны доказ

*Працяг на старонцы 28*

Мяркуюць, што дасяг гэтых штукаў даходзіць да 200 міляў. Але ж ня можаш бачыць сьлед за 200 міляў, што ты сабе думаеш.

Во. Во, так: за крывізною Зямлі, далей на ўсходзе, там сонца, толькі што ўзыйшло над Галяндыяй, трапляе на выкідныя газы ракеты, кропелькі й крышталікі, адбіваецца яскравым зіхаценьнем над морам. ...

Белы пісяг раптоўна абарваў свой узыход. Гэта, відаць, выйшла паліва, канец згараньня, як жа яны гэта называюць... Brennschluss. У нас няма такога слова. Або й ёсьць, толькі засакрэчанае. Спод пісягу, першапачатковая зорка, ужо пачаў раствараецца ў чырвоным сьвітаньні. Але ракета прыбудзе сюды яшчэ перад тым, як Пірат убачыць узыход сонца.

Сьлед, размазаны, зьлёгку паразрываны ў два ці тры бакі, вісіць у небе. Ужо як ракета, па чыста балістычнай траекторыі, яна ўзьнімаецца яшчэ вышэй. Але цяпер не відаць.

Трэба штосьці зрабіць... зьвязацца з пунктам кіраваньня ў Станмары, яны павінны ўжо мець яе на радарах над Пралівам — не: няма часу, сапраўды. Менш пяці хвілін ад Гаагі сюды (столькі, каб прайсьці да кавярні за рогам... шукаю сьвятла, каб трапіць на плянэту любові... зусім няма часу). Выбегчы на вуліцу? Асьцерагчы іншых?

Нарві бананаў. Ён брыдзе праз чорны кампост да цяпліцы. Адчувае, як яго напірае пасраць. Ракета, на вышыні шасьцідзесяці міляў, мабыць, ужо дасягае піку свае траекторыі... пачынае зыход... *цяпер*. ...

Звод праніцаваны дзённым сьвятлом, млечныя шыбіны спасылаюць праменнае лабрадзейства. Як тут магла б быць зіма — нават цяперашняя — панурая настолькі, каб пастарыць гэтае жалеза, што сьпявае на ветры, або захмарыць гэтыя вокны, што расчыненыя ў іншую пару году, нічога, што падманна абсталяваную?

Пірат паглядае на гадзіньнік. Нічога не паказвае. Поры ягонага твару паколваюць. Апаражніўшы свой розум — штучка з дэсантна-дывэрсійнай — ён уваходзіць у вогкую гарачыню свае бананавае плянтацыі й пачынае выбіраць найбольш дасьпелыя й найлепшыя, падставіўшы пад іх прыпол свае робы. Засяродзіўшыся адно на падліку бананаў, ён ходзіць басаног між ваглівых пучкоў, між гэтых жоўтых жырандоляў, гэтага трапікальнага сутоньня. ...

Назад у зіму. Кандэнсацыйны хвост зьнік зь неба назусім. Пот пакрывае Піратаву скуру халодным, амаль ледзяным плашчом.



*Здымак Анатоля Клешчука*

Ён нейкі час ня можа прыкурыць цыгарэту. Яму ня будзе чуваць, калі тая штука спусьціцца. Яна ляціць хутчэй, чымся гук. Першае, што бачыш, гэта выбух. Потым, калі ты ўсё яшчэ на нагах, чуеш гук ейнага спусканьня.

А што, калі яна пападзе *дакладна* — ахх, не — кароткі міг мусіш адчуваць, як самы кончык, з жудасным грузам над ім, ударае ў тваё цемя. ...

Пірат, згорбіўшы плечы, зносіць бананы па сьпіральнай лесьвіцы.

Пераклаў з ангельскай Я.М.

# Тры барсэлёнскія музэі...

*Працяг са старонкі 27*



сваёй выключнай рэакцыі. І што б там ні казалі розныя Дэрэны, Бракі, Азэнфаны, Валары, Апалінэры, ніхто яшчэ й вокам не павядзе, а ў ягонай майстэрні стаіць новы перамаляваны шэдэўр. Вось які выпадак з геніяльнага жыцьця Пікаса згадаўся па дарозе ў музэй Гаўдзі. І хай адсохнуць языкі ўсім настаўнікам маляваньня, якія забараняюць сваім вучням перамалёўваць зь іншых малюнкаў. І гэта я кажу на поўным, стопрацэнтным сур'ёзе. Вось хоць бы й музэй Гаўдзі ўзяць, які, дарэчы, зусім і не музэй увогуле, гэта хутчэй сабор, які ў сваю чаргу не сабор Сьвятога Сямейства, а толькі будоўля сабору, якая пасьпяхова йдзе сто дванаццаць гадоў і, калі паверыць саборабудаўнікам, праз пяцьдзесят шэсьць гадоў скончыцца. Толькі я ня веру будаўнікам, я веру сабе, сваім вачам і Антоніа Гаўдзі, які ўзяў праект кёльнскага сабору й перамаляваў яго ў сабор барсэлёнскі. Антоніа з готыкі зрабіў нэа-готыку, празваную мадэрнам, ад якога пайшлі мадэрністы й адпаведна пастмадэрністы. Сярод апошніх кірылічнымі літарамі запісана й мае сьціплае чыста беларускае імя Адам і зусім чыста беларускае прозьвішча Глёбус. Пасьведчаньне менавіта на гэтае ймя ляжала ў кішэні, калі я пракручваўся праз мэталёвую вяртушку ў музэй-будоўлю-сабор. Палову экспазыцыі складалі гіпсавыя аскепкі, рэшткі макетаў, зробленых самім Гаўдзі, а потым пазьбіраных і пасклейваных дасьціпнымі рэстаўратарамі. На гіпс глядзець сумна. Вясёла робіцца толькі перад малюнкам, дзе паказана, што барсэлёнскі сабор будзе большы за кёльнскі. Ну, як не спыніцца й ня тыкнуць пальцам. Якім трэба быць наіўным, каб падумаць і паверыць, што калі чалавек большы ростам, ён і разумнейшы, і таленавіцейшы, і багацейшы. Сабор гэта толькі адбітак, адлюстраваньне чалавека, і не ўсяго, а толькі часткі ягонага ўяўленьня пра Бога, сьветабудову й космас. Няўжо хтосьці можа верыць, што намалюй табліцу Мендзялеева не на кніжную старонку, а на дзьве, і яна палепшыцца? Толькі ў тым і фокус-покус: табліца якой была, такой і застанецца, а вось турыст, глядач, народ, грошададуца пойдзе глядзець толькі на самае-самае, і хай яно сёньня ня самае, затое будзе самым у 2050 годзе. Надзея, вера, любоў — тры акорды для ідыётаў. Іх садзяць на ліфт і вязуць высока-высока любавацца Барсэлёнай з птушынага палёту. Я ўздымаўся бязь ліфта. Люблю ўздымацца на вежы. Наверсе, стомлены пачуваесься значна лепш. Чаму — ня ведаю. Стаіш сабе, глядзіш сабе на тых, хто ўнізе стаіць і паказвае на цябе пальцам. Ён паказвае на цябе пальцам, а ты паказваеш яму кулак; ён паказвае табе кулак, а ты ўжо сабраўся плюнуць на яго... Калі не спыніцца, можа пачацца бойка, звалка, вайна. Нельга, каб адзін чалавек высока ўздымаўся над другім чалавекам. І ў сапраўдных саборах тых, хто можа ўзьняцца на хоры й вежу няшмат, сьпіс гэтых прафэсій зусім кароткі. Вось і я, прыйшоўшы на вежу, прыйшоў увадначасьсе да высновы, што ліфт у саборы Сьвятога Сямейства трэба дэмантаваць, а ўсе ўваходы на вежы закратаваць і зачыніць на вялікія навясныя замкі. Жаданьне ўзвысіцца над іншымі лёгкімі шляхамі зьнікне само па сабе. Зрэшты, і гэта дыскусійнае пытаньне, бо пасярод недабудаванага сабору стаіць апарат для продажу бляшанак *coca-cola*. Вось адзін кінуў 150 пэсэтаў, выграб бляшанку, смокча напой і пазірае на астатніх, і нібыта кажа: «У мяне ёсьць прахалодны напой, і мне ня так цяжка пераносіць саракаградусную гарачыню». Слушна рабіў наймалодшы прадстаўнік Сьвятога Сямейства, у гонар якога распачаў свой праект Антоніа Гаўдзі на грошы фундатара Хасэ Марыі Бакабэлы і Вердагуэры, калі пагнаў гандляроў-крамнікаў з храма. Сабакам месца ў сабачых будках, крамнікам — у крамах, турыстам — на турысцкіх маршрутах, трамваям — на трамвайных. У Барсэлёне я ня бачыў ніводнага трамвая, я толькі чуў пра адзін трамвай, пра той, што зарэзаў Антоніа Гаўдзі, які раніцай ішоў будаваць найвялікшы сабор у сьвеце. Цікава, пра што думаў-маракаваў вялікі дойлід у апошнія хвіліны геніяльнага жыцьця. Пэўна ж, пра нешта пэрліннае, марское, мадэрновае. Барсэлёна горад марскі, горад-порт, горад-казка. Дойлід Антоніа, як ніхто, увасобіў гэтую казку ў рэальнасьць. І зрабіў гэта вельмі простым чынам: вынайшаў безадкідную вытворчасьць абліцовачных матэрыялаў, розных кафляў, паліваных талерак, глазураваных плітак. Гаўдзі зь дзяцінства любіў сьметнікі й сьметніцы. Бывае, ідзе Антоніа па барсэлёнскім сьметніку, раптам бачыць — блішчыць-пераліваецца на зямлі дыямэнт. Падбягае ён да каштоўнага каменя, а



# У ГАНДОЛЕ

НЯМЕЦКАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

Ганс Брэндэр

Гандальер веславаў моўчкі аж да таго моманту, калі мы апынуліся пасярэдзіне Канала Грандэ разам зь іншымі гандоламі, якія гойдаліся на хвалях, узьнятых лёгкім ветрыкам.

Перад Рыяльта ён пачаў тлумачыць, што гэты мост збудаваў Антоніа дэ Понтэ на месцы старога драўлянага, што кожны пралёт абапіраецца на шэсьць тысяч апораў.

Я пераклаў гэта Марлен, заўважыўшы, што яна не зразумела.

— Я пазнаў вас, як толькі вы пачалі гаварыць, — сказаў я.

— Я таксама. Прайшло пяць гадоў. А гэта Палац Бэмба, готыка XV стагодзьдзя, багатая арнамэнтамі.

Марлен не магла наглядзецца на лёгкія выгбы.

— Гэта было самае прыгожае лета ў Вэнэцыі. Ці хоць бы адзін дзень ішоў дождж?

— Не, ня йшоў.

— У гэтым годзе лета халоднае. Дождж і дождж. Адстрашвае турыстаў.

— Што ён гаворыць? — запыталася Марлен.

— Пра надвор'е. Незадаволены ім.

— Вы ажаніліся? — запытаўся ён.

— Так.

— І гэта, відаць, вашае шлюбнае падарожжа ў Вэнэцыю?

— Не, я ажаніўся тры гады таму.

— Што ён гаворыць? — запыталася Марлен.

— Гандальер думаў, што ў нас шлюбнае падарожжа.

— Ён не псыхоляг. Скажы яму, няхай лепей тлумачыць. Трэба было ўзяць мапу.

— Навошта?

— Я хачу ведаць, як называюцца гэтыя палацы.

— Ты ж іх адразу забудзеш.

Ён паказваў і тлумачыў:

— Палацца Дандола, Палацца Лярэдана, Палацца Фарсэці, Палацца Грымані. Здаецца, пералічыў усё. Вас завуць Энрыка.

— А вас Франчэска!

— Мама мія! Вы яшчэ памятаеце!

— Гэта было цудоўнае лета. Палацца Пападопалі, Палацца дэля Талэнэта, Палацца Бэрнарда, Палацца Корнар-Сьпінэлі.

— Ня назвы ты мусіш мне перакладаць. Гэта я разумею сама. Перакладай, што ён гаворыць цяпер.

— Расказвае пра тых, каго вазіў тут раней.

— І гэта табе цікава?

— Я ж не магу забараніць яму гаварыць.

— Ён не сказаў, ці будзе сьпяваць?

— Мая жонка хацела б, каб вы засьпявалі, Франчэска.

— Шмат хоча вашая жонка. Сяброўка вашая дык увесь час сьмяялася! У маёй гандоле ніколі не было дзяўчыны, якая б так пекна сьмяялася. Яна сьмяялася з усяго, а палацы яе не цікавілі.

Ён засьпяваў *«O sole mio»*.

У гандальераў зь фільмаў пра Вэнэцыю цудоўныя галасы, таму што яны сьпяваюць у мікрафон, а ў студыі акустыка заўсёды лепшая, чым на Канале Грандэ.

— Аднак Каруза зь яго не атрымаўся.

Франчэска зразумеў.

— Вашай сяброўцы мой голас падабаўся, бо яна была шчасьлівая, бо ёй падабаўся ўвесь сьвет. І табе, Энрыка, падабаўся мой голас.

— Сёньня таксама падабаецца.

— Ці памятаеш, які ты быў раўнівы?

— Я? Раўнівы?

— Па-італійску яна размаўляла лепш за цябе. Жартавала так, што ты ня мог зразумець. Яе матка была італійка.

— Яе матка была з Мэсыны, а бацька — француз.

— Ты хацеў кінуцца ў ваду.

Сапраўды такое было. Прыпамінаю. Я зрабіў сцэну рэўнасьці, бо надта ўжо чула спаглядала яна на Франчэска й вельмі ахвотна размаўляла зь ім. Іграла з агнём. Такая ўжо яна была. Я сказаў, што кінуся ў ваду, калі яна не паглядзіць мне ў вочы й не прытуліцца да мяне так, як і трэба туліцца ў гандоле. Я ўскочыў на лаўку, а яна мяне затрымала й абняла...

— Што ён робіць? — запыталася раптам Марлен.

Я павярнуўся і ўбачыў, што Франчэска паставіў вясло вэртыкальна, каб паказаць, што глыбіня лагуны ня больш за 50 сантымэтраў. Ён нічога не забыў, ён нагадваў пра мінулае.

— Ён паказвае нам, што тут няглыбака.

— Навошта гэта нам?

— Каб мы ведалі, што ў лагуне ня ўтоне нават той, хто ня ўмее плаваць.

— А ты зьбіраесься тапіцца, ці што?

— Не, — адказаў я, — сёньня вельмі халодна.

— Пяць гадоў назад, у адзін цудоўны дзень, вось тут нехта хацеў утапіцца, — сказаў Франчэска й засьмяяўся.

— Гэта таксама ўваходзіць у паездку ў гандоле? — запыталася Марлен.

— Франчэска вельмі дакладны.

— За гэтую дакладнасьць трэба будзе шмат плаціць.

— Чаму ты на яго злуесься?

— Шмат балбоча.

Тады Франчэска адмовіўся ўзяць тры тысячы ліраў, як яны дамовіліся перад паездкай. Казка пра Вэнэцыю магла б мець такі пачатак: Жыў-быў гандальер, які вез закаханую пару Каналам Грандэ, сьпяваў *«O sole mio»*, веславаў цэлыя дзьве гадзіны. Пасьля адмовіўся ад

замест яго кавалачак шкельца ці аскепак люстэрка зь пяску вытыркаецца. А тут раптам за пару-тройку крокаў смарагд таемнай зелянінаю ўспыхвае. Антоніа па смарагд, а замест яго знаходзіць вушка ад паліванага кубачка ці донца ад чаркі. І зразумеў Гаўдзі ісьціну, што каб зрабіць з сапраўднага будынку казачны палац, зусім неабавязкова ляпіць на сьцены зьліткі сапраўднага золата, дастаткова назьбіраць на сьметніцы аскепкаў, кавалачкаў, друзу ад рознага посуду, кафляў, дахоўкі. І пачаў малы Антоніа свае палацы, зробленыя з марскога пяску непадалёк ад Барсэлёнскага порту, абкладаць скарбамі са сьметнікаў. Ёсьць талент — знойдзецца й мэцэнат. Вось і знайшоўся багаты дзядзька з грашыма й шмат якія мроі й летуценьні Антоніа Гаўдзі ўвасобіліся на вуліцах і ў парках мадэрновае Барсэлёны. Каб ня чортаў трамвай, у казкі пра Антоніа не было б такога крыўднага канца. Быў бы весялейшы, вядома, не такі, як у показкі пра Хуана Міро, але значна спакайнейшы, бяз нотак садысцкае іроніі з нагоды несваечасовае канчыны. Толькі ёсьць вялікая розьніца паміж заснавальнікамі мадэрнізму й завяршальнікамі постмадэрністычнай манэрнай традыцыі. Усе гэтыя вялікія Пікаса, Гаўдзі, Міро совaліся па сьметніках і сілаю свайго таленту ператваралі знойдзеныя там нікому не патрэбныя рэчы, кшталту этыкетак, іpваных газэтаў, бітага посуду, паламанае мэблі, у творы чыстае красы. А ўсе нармальныя, накшталт мяне, ходзяць па музэях, сьмяюцца, іранізуюць і называюць рэчы сваімі імёнамі, згадваюць пра іх невысакароднае паходжаньне. Толькі ёсьць лучнасьць паміж пачынальнікамі й спадкаемцамі, як ёсьць вялікае падабенства паміж сьметніцамі й музэямі, паміж будоўляю й руінаю. І як першыя ведалі, так і другія здагадаліся пра марную марнасьць усяго існага, акрамя любові да найвялікшага, як да мастацтва. Да таго самага мастацтва паводзін, мастацтва жыць, дзеля якога яшчэ старажытныя грэкі будавалі ў Барсэлёне тэатар на гары. А крыху вышэй, на той самай гары, удзячныя суайчыньнікі збудавалі фундацыю вялікаму дадаісту Хуану Міро. У музэі Хуана — кандыцыянэры, прахалода, прастора, сьветласьць, чысьціня асабліва кідкая пасьля закінутага непрыбранага парку, праз які давялося прайсьці. У музэі Хуана не сустрэлася ніводнага паліцыянта. Замест ахоўнікаў у сініх фуражках, у залях сядзяць на чорных крэслах чарнавокія каталёнкі у чорных сукенках і чорнымі ручкамі разгадваюць чорныя красворды. А між іншым, яны не павінны займацца чайнвордамі й крыжаванкамі, а мусяць сачыць, каб гледачы не ўступалі ў блізкі матэрыяльны кантакт з экспанатамі, не псавалі каштоўныя рэчы, паводзілі сябе разумна — не здымалі фотаапаратамі з бліскавіцай, не курылі, не прыводзілі у залі сабак, своечасова знаходзілі кавярню, мэдпункт і санвузел. А чарнавокія каталёнкі замест усяго гэтага чорнымі шарыкавымі асадкамі ўпісваюць слоўцы ў клетачкі красвордаў, а калі ня ўпісваюць, дык пакусваюць кончык асадкі. Мяне абурыла такое стаўленьне да сваёй працы, а тым самым да карцін Хуана, дарэчы, вельмі яркіх і кантрасных. Я раззлаваўся й пальцамі выбіў звонкі рытмічны малюнак на бронзавай скульптуры. Рэха затрапяталася пад белай столльлю ў гулкім памяшканьні. Дзьве касавокія японкі бліснулі ў мой бок напалоханымі вочкамі й пырхнулі ў дзьверы. А каталёнка-наглядчыца ажыла, ускочыла, падляцела, залапатала, замахала ручкамі... Ну толькі ножкамі не затупала. Які, аказваецца, тэмпэрамэнт можа ўтойвацца ў простай разгадчыцы красвордаў, якая ўзбуджанасьць, якая сіла! Не, яе месца не ў музэі, даруй мне, стары Хуан. Яе месца не на мулкім крэсьле, а ў мяккім спружыністым ложку, на блакітных прасьцінах, на чырвоных падушках, на жоўтых коўдрах. Ну, ясна што чапаць жанчын і музэйныя экспанаты нельга. «Даруйце. Sorry! Perdo! Пардон! Даруйце, калі ласка! Tenga la hondad de perdoname!» Вось так павінна было гучаць у беларуска-ангельска-каталёнска-гішпанскім варыянце маё выбачэньне, а я абыйшоўся амэрыканскім Sorry, і гэтага хапіла. Ды ня трэба шмат выбачацца. Сказаў і пайшоў, і паплыў паўз карнавальныя карціны Хуана. І прыплыў у зацемнены куток, дзе па тэлевізары паказвалі відэаролік... Міро паліў свае карціны. Ён страшэнна любіў забаўляцца з запалкамі. Браў нешта падобнае да паяльнай лямпы, запальваў і накіроўваў струмень полымя на палатно. Хуан усім казаў: «Дзякуючы таму, што запалка з агеньчыкам падобная да маленькага пэндзля, я адшукаў шлях да новага жывапісу!» І яму верылі. А ён прапальваў у бясцэнных палотнах дзіркі рознай велічыні й канфігурацыі. Дзіркі былі маленькія, у іх можна было прасунуць палец, былі большыя, дзе й рука пралазіла, а былі такія, што лёгка ўсоўвалася галава. Стары Міро так і рабіў: намалюе абстрактную карціну, напрапальвае дзірак, прасуне ў якую зь іх палец і зазірае за палатно — ці прайшоў той палец наскрозь. Палец, вядома, праходзіў. Хуан радаваўся. Ён быў з тых, хто ўмее радавацца, калі сьвятло праходзіць скрозь жоўта-чырвона-блакітныя карціны. А калі забаўкі з запалкамі надакучвалі, Міро пырскаў на белыя палотны чорнай фарбай. Папырскае-папырскае й супакойваецца, і ідзе адпачываць у цяністы парк да фантана. А па дарозе зойдзе ў які-небудзь двор, знойдзе старую скрыню з-пад гародніны, прыкруціць да яе вушы з дроту, пастаіць, паглядзіць, палюбуецца й вяртаецца ў майстэрню, каб прырабіць да скрыні які гіпсавы нос і пафарбаваць усё чыста ў зялёны паркавы колер і на тым скончыць партрэт. Міро вельмі рэдка даходзіў да свайго ўлюбёнага фантана. А вось я, выйшаўшы з музэю, дайшоў, каб паглядзець на няспынную плынь і струмяні, каб дастаць з кішэні залацістую манэту з профілем фашыста Франко і ўтапіць яе, каб некалі зноўку наведаць тры барсэлёнскія музэі: Пікаса, Гаўдзі й Міро.



*Здымкі ў тэксьце Алены Адамчык*

дзьвюх тысячаў лір, таму што сяброўка маладога чалавека была вельмі прыгожая, а сьмех яе зьвінеў, як срэбныя званочкі. Больш таго, гандальер завёў іх у тавэрну, куды ніколі не заглядалі турысты. Яны пілі, сьмяяліся й танцавалі да поўначы...

— Чаму ты раптам змоўк? — спыталася Марлен.

— Я?

— І твой гандальер, здаецца, заснуў.

— Мая жонка хоча, каб ты расказаў, як называюцца гэтыя палацы.

Франчэска пачаў:

Зьлева вы бачыце Кампо і касьцёл сьвятога Самуэля з тыповай вэнэцыянска-візантыйскай капліцай IX стагодзьдзя, далей Палацца Грасі, вельмі прыгожы будынак, усярэдзіне якога знаходзяцца вядомыя пляфоны Алясандра Лонгі.

Калі я пераклаў, Франчэска запытаўся:

— Чаму вы не вярнуліся зь ёю. Зь пярсьцёнкам на пальцы?

— А гэты палац, там, справа?

Я быў удзячны Марлен за пытаньне.

— Гэта Палацца Рэдзоніка, архітэктара Лонгі.



Мы былі ўжо амаль у канцы канала. Зрабілася цёмна, дажджавыя хмары надыходзілі з захаду.

— Выйдзем на плошчы сьвятога Марка? — спыталася Марлен.

— Можна, калі хочаш.

— Халаднавата, відаць, будзе дождж.

— Тут мы затрымаліся тады надоўга, памятаеш, Энрыка?

— Памятаю.

— Усе закаханыя затрымліваюцца тут, каб паглядзець на купал Санта Марыя дэля Салютэ. Ніёлі таксама хацела...

Франчэска не дакончыў, бо з вуснаў яго сарвалася імя, якое ён да гэтага часу не называў.

— Ніёлі...

— Хто гэтая Ніёлі? — спыталася Марлен.

— Гэта імя дзяўчыны, — адказаў я.

— Якой дзяўчыны?

— Можа, ягонай жонкі?

— Так, Ніёлі — гэта мая жонка, — сказаў Франчэска.

— Няпраўда!

— Праўда, праўда. Яна вярнулася праз год. Сама.

— Што гаворыць гэты праціўны чалавек?

— Расказвае пра сваю жонку.

— Ён увесь час расказвае пра тое, што нас ня тычыцца. Калі мы ўрэшце прыедзем?

— Хутка, дарагая.

Зь нямецкай пераклаў Уладзіслаў Струміла.

# Iceman Ötzi — чалавек эпохі медзі

Мікола Крывальцэвіч

**_Iceman Ötzi_, ці проста _Iceman_ (лёдавы чалавек) — такая назва замацавалася ў эўрапейскай публіцыстыцы за рэшткамі чалавечага цела, якія выпадкова былі знойдзеныя Хельмутам і Эрыкай Сіманамі ў 1991 годзе на засьнежаным альпійскім перавале, побач зь ледавіком _Ötztal_. _Iceman_ (Айсман) загінуў больш за 5000 гадоў таму назад. Нягледзячы на глыбокую старажытнасьць, яго цела й рэчы, якімі ён карыстаўся, цудоўна захаваліся. Гэтая публікацыя — першая спроба пазнаёміць беларускага чытача з гісторыяй адкрыцьця й некаторымі вынікамі дасьледаваньня Айсмана ў эўрапейскіх лябараторыях.**

Айсман — сьведка эўрапейскае дагісторыі, — таго часу, калі нараджалася наша цывілізацыя.

Новае жыцьцё Айсмана — пасьля яго сьмерці недзе ў трохтысячных гадох да нараджэньня Хрыстова, — пачалося 19 верасьня 1991 году. Менавіта ў гэты дзень Хельмут і Эрыка Сіманы, любуючыся прыгажосьцю альпійскага высакагор'я, выпадкова апынуліся ў скалістай цясьніне горнага перавалу. Гэтае месца мае блізу 3159 м над узроўнем мора. На поўнач ад яго прасьціраліся засьнежаныя й зьледзянелыя вяршыні аўстрыйскіх Альпаў, а на поўдні скрозь горы праглядаліся зялёныя альпійскія даліны Італіі. Першай Айсмана ўбачыла Эрыка. З-пад лёду каля вялікай каменнай глыбы тырчала чалавечая патыліца з рэшткамі валасоў і плечы. Спачатку ёй падалося, што гэта выкінутая ці згубленая лялька.

Неўзабаве да месца знаходкі трупа па горных сьцежках падняўся мясцовы аўстрыйскі паліцэйскі зь вібрамалаткам на поясе. Пераканаўшыся, што гэта ня проста труп, а нешта больш важнае і што самому яму ня справіцца зь незвычайнай знаходкаю, паліцэйскі выклікаў каманду сьледчых зь Інсбруку. Тыя марудзіць ня сталі, і праз нейкі час з дапамогаю лыжных палак выкалупалі цела зь лёду й сьнегу. Калі выцягвалі труп, на левым сьцягне й на клубах цела была пашкоджанае да касьці. Пры гэтым у лёдзе засталіся геніталіі, а таксама рэшткі скуранога адзеньня. На выцягнутым Айсмане трымаліся толькі ягоныя скураныя чаравікі. У такім выглядзе цела завезьлі ў бліжэйшую аўстрыйскую вёску, а там, зьмясьціўшы ў труну й зламаўшы пры гэтым незнарок левую руку, якая адтапырвалася ўбок і ня ўпіхвалася ў скрыню, адвезьлі ў Інсбрук.

Ужо на чацьверты дзень пасьля гэтага невялікі гурт аматараў горных вандровак накіраваўся на месца адкрыцьця «лёдавага чалавека». Але ў аматарскім запале, высякаючы лёд сякерамі й калупаючы яго лыжнымі палкамі, гора-дасьледчыкі моцна пашкодзілі некаторыя рэчы дагістарычнага чалавека.

У Інсбруку знойдзенае цела агледзеў Конрад Шпіндлер — археоляг зь Інстытуту дагісторыі й раньняй гісторыі. «Мне спатрэбілася толькі адна сэкунда, каб, убачыўшы цела, вызначыць яго ўзрост у 4000 гадоў», — сказаў К.Шпіндлер. Ён крыху памыляўся, хоць і быў абсалютна аб'ектыўны, бо менавіта такім часам — канцом трэцяга ці пачаткам другога тысячагодзьдзя да нараджэньня Хрыстова магла датавацца медная сякера, якая належала Айсману. Факт адкрыцьця цела дагістарычнага чалавека набываў значэньне навуковай сэнсацыі.

Спэцыялістаў найбольш уразіла тое, што цела Айсмана мела выключна добрую захаванасьць. Паводле гэтага паказчыка яго нельга й параўноўваць са знакамітым Пітэрам Машам — рэшткамі чалавека двухтысячагадовай даўнасьці, знойдзенымі пры мэліярацыйных работах у Даніі. Нядаўнія радыёкарбонныя аналізы дзьвюх розных лябараторыяў дазволілі вызначыць дату сьмерці Айсмана — 3500-3000 год да нараджэньня Хрыстова. Магчыма, гэтыя лічбы, як, дарэчы, усе радыёкарбонныя даты, прыйдзецца карэктаваць у той ці іншы бок. Тым ня менш, яны не павінны істотна зьмяніцца. На сёньняшні дзень гэта самая старажытная знаходка чалавечага цела такога стану ў Эўропе, а магчыма і ў сьвеце.

Як мяркуюць спэцыялісты, Айсман захаваўся дзякуючы зьбегу абставін. «Лёдавы чалавек» загінуў нечакана. Ён трапіў у скалістую западзіну — своеасаблівую каменную нішу, над якой навісалі камяні ды прыкрывалі цела ад імклівых сьнегавых і лёдавых апоўзьняў, што адбываліся тут на працягу апошніх тысячагодзьдзяў. Сьнег і лёд спаўзаў побач, не кранаючы Айсмана. Чалавек умерз у лёд, які на доўгі час закансэрваваў яго, паслужыўшы натуральным муміфікацыйным сродкам. Дасьледчыкі сьцьвярджаюць, што Айсман, хутчэй за ўсё, быў знойдзены на трэці дзень пасьля таго, як ён зьявіўся з-пад сьнегу й лёду. Праз дзён колькі яго б прысыпала сьнегам зноў. Цела ўмерзла б у лёд, і хто ведае, ці трапіўся б ён калі-небудзь на вочы людзям.

Айсман дайшоў да нашага часу ў такім добрым стане, што нават вочы не згубілі сваёй празрыстасьці. Праўда, пад лёдавым ціскам сплюшчыліся нос і губы, але ўзнаўленьне чалавечага твару па чэрапу не зьяўляецца вялікай праблемай для сучаснай антрапалёгіі. На падставе кампутарных паказчыкаў абмераў галавы, зробленых у Інстытуце анатоміі Інсбруцкага ўнівэрсытэту й плястычнай мадэлі чэрапа, якую выканалі ў Дэнвэрскім музэі гісторыі прыроды,



Джон Гечы з дапамогаю іншых спэцыялістаў узнавіў твар Айсмана такім, які ён быў пры жыцьці. Найбольш часта Гечы ўспамінаў апошні этап сваёй працы (а яна цягнулася больш за 600 гадзін), калі яму прыйшлося зьвяртацца да людзей са словамі: «Я куплю ў вас бараду!» Сабраўшы неабходную колькасьць патрэбнага колеру валасоў, Гечы закончыў унікальную рэканструкцыю. У Інстытуцкай лябараторыі на людзей XX ст. глядзеў мужчына з крыху прыплюснутым гарбатым носам, адкрытым ілбом, чорнымі, кучаравымі й доўгімі валасамі, кароткаю барадою.

Былы прафэсар Хэмпшырскага каледжу Дэвід Робэртс апублікаваў у *National Geographic* артыкул пра Айсмана, суправаджаючы тэкст фотаздымкамі Кенэта Гарэта, якія той зрабіў у Аўстрыі. Разглядаючы іх, я адзначыў для сябе, што ўсохлыя рэшткі Айсмана ў нейкай ступені захавалі нават колер пігмэнтацыі чалавечай скуры, якая на фотаздымках выглядае як зьлёгку запаленае на сонцы цела.

Айсман меў каля 160 см росту. Ён памёр ва ўзросьце 25-40 гадоў. Антраполягі Інстытута анатоміі, якія аглядалі цела старажытнага чалавека, адразу зьвярнулі ўвагу на знакі, нанесеныя на паясьніцу зьлева ўздоўж пазваночніка. Татуіроўка мела выгляд дзесяці рысак сіняватага колеру. Сьляды татуіраваных знакаў пры ўважлівым аглядзе скуры Айсмана адшуканыя таксама на левай назе ззаду калена й на шчыкалатцы. Магчыма, яны мелі магічны ці рытуальны сэнс. Ва ўсялякім разе, нанесеныя на тых месцах чалавечага цела, якія рэдка бываюць навідавоку, гэтыя знакі не прызначаліся для абавязковага паказу, чым і падкрэсьлівалася іх патаемнасьць, сакральнасьць. Незразумела, для якіх патрэбаў мог выкарыстоўваць Айсман старанна апрацаваны невялічкі белакаменны сьвідраваны дыск нанізаны на скураны пасак і прывязаны да пучка вяровак.

Усё больш пераконваючыся ў тым, што знойдзены ў Альпах чалавек — унікальнае адкрыцьцё нашага стагодзьдзя, спэцыялісты задумаліся, як надалей захаваць яго цела. У першыя ж дні на скуры Айсмана сталі зьяўляцца грыбковыя плямы. Труп быў зьмешчаны ў лядоўню, дзе падтрымлівалася пастаянная тэмпература 21°F і вільготнасьць каля 98% Для Айсмана былі створаныя ўмовы, набліжаныя да асяродзьдзя, у якім ён закансэрваваўся на 5 тысяч гадоў. З гэтага часу нават на вочы спэцыялістаў ён зьяўляўся толькі ў выключных выпадках і на кароткі прамежак часу. Праўда, і гэта, як ні шкада, ня можа выратаваць яго ад няўмольнага часу. Давід Робэртс, які меў магчымасьць пабачыць Айсмана ў час чарговага сэансу, пісаў, што пасьля ляжаньня ў маразільніку цела яшчэ больш высахла, рукі й ногі станчэлі й сталі як палкі, туга абцягнутыя скурай, якая, да таго ж, пацямнела.

Дарэчы, праблема захаваньня цела Айсмана, хаця б на той час, які патрэбны для яго ўсебаковага й грунтоўнага вывучэньня, дазваляе аўстрыйцам дагэтуль трымаць Айсмана ў Інсбруцкай лябараторыі. Справа ў тым, што аўстрыйская паліцыя знайшла цела больш чым за 90 м ад сваёй мяжы ў аўтаномным раёне *Alto Adige*, што ў Італіі. Гэта паслужыла падставаю для італійскай адміністрацыі законна палічыць Айсмана сваёй уласнасьцю й вярнуць яго Італіі. Аўстрыйцы, ня маючы нічога супраць, паабяцалі перадаць старажытнага чалавека, але пасьля таго, як будзе закончана абсьледаваньне.

Пазьней, пасьля верасьнёўскага адкрыцьця Айсмана каля *Ötztal*, на месца ягонай сьмерці накіраваліся археолягі. Да сэнсацыі захаванасьці цела дагістарычнага чалавека ў лёдзе Альпаў дадалася яшчэ адна — адкрыцьцё цэлага шэрагу прыстасаваньняў і прыладаў, якія ён нёс з сабою. Рэчы мелі такі выгляд, як быццам іх пакінулі толькі ўчора.

Кожная эпоха складаецца з характэрных для свайго часу артэфактаў, гэта значыць рэчаў, што зробленыя чалавекам. Рэчы — рэальныя і, часам, адзіныя сьведкі эпохі. У такім разе яны павінны «гаварыць» за чалавека. Айсман меў клясычны для канца чацьвертага — пачатку трэцяга тысячагодзьдзя да нараджэньня Хрыстова набор рэчаў.

Дагэтуль навукоўцы спрабуюць узнавіць адзеньне Айсмана. Моцна пашкамутанае падчас верасьнёўскага выратаваньня, яно амаль не падлягае рэканструкцыі. Пакуль вядома, што Айсман быў апрануты ў адмысловую куртку. Яна была ўмела й надзвычай зграбна пашытая з кавалкаў апрацаванай скуры. У якасьці нітак выкарыстоўвалася сухажыльле. У некаторых месцах куртка рамантавалася з дапамогаю ра-



# *БЕЛАРУСКАЯ ФІРМА ПРАПАНУЕ:*



— *пагрузчыкі няспыннага дзеяньня ТМ-3 ($12 000);*

Пагрузчык ТМ-3 — самая эфэктыўная машына для пагрузкі дробнакавалкавых і сыпучых матэрыялаў аб'ёмнай масай да 1,6 т/м$^3$

Пагрузчык ТМ-3 — незаменны памочнік для сельскіх гаспадароў пры пагрузцы зерня, кукурузы й інш. Зерне не псуецца.

Пры дапамозе рухавіка 62 к.с. машына мае прадукцыйнасьць аднакаўшовага франтальнага пагрузчыка г/п 3 т з магутнасьцю рухавіка 135 к.с.

Абслугоўвае машыну 1 чалавек.

— *запальнічкі для газавых плітаў:*

а) п'езаэлектрычныя ЗП-А1-10М ($0.55)
б) крамянёвыя ЗК-А11-1 ($0.45)

мінімальная партыя 500 штук.

**Тэл.: (0172) 665687, 237630, 272687, 324545 (fax)**

## «ЭЎРАФОРУМ»

Цэнтар эўрапейскіх досьледаў і культурных ініцыятываў распачынае праграму

**«ДРУГАЯ ЭЎРОПА»**

*Сюды ўваходзяць:*

ЦЫКЛ СЭМІНАРАЎ «Філязофія, культуралёгія, літаратура Сярэдняе і Ўсходняе Эўропы»

АДУКАЦЫЙНЫ ПРАЕКТ «Усходнеэўрапейскі гуманітарны калегіюм»

КУЛЬТУРАЛЯГІЧНЫ КВАРТАЛЬНІК «Фрагмэнты»

**Наш адрас: 220123, Менск, а/с 71**

*АРХІТЭКТУРНАЯ МАЙСТЭРНЯ ПРЫМАЕ ЗАМОВЫ НА:*

— *распрацоўку індывідуальных праектаў катэджаў, сядзібных дамоў з гаспадарчымі пабудовамі;*

— *унясеньне зьменаў у тыпавыя праекты;*

— *праектаваньне й стварэньне інтэр'ераў;*

— *распрацоўку й выкананьне рэклямы.*



***Адрас: Менск, вул. К.Чорнага, 3***

## ФІРМА «ВАЎКАЛАКА»
**прапануе аптовыя пастаўкі:**

1. Тканінаў;
2. Сельскагаспадарчай прадукцыі з Украіны і Малдовы;
3. Фарбаў і пласьцінаў паліграфічных;
4. Паралону;
5. Сэрвізаў і посудавых набораў;
6. Пластмасавых вырабаў;
7. Рамяньчыкаў скураных для гадзіньнікаў.

Аказвае кансультатыўныя паслугі па пытаньнях крыўскай (беларускай) традыцыйнай культуры.

Мае ліцэнзію на выдавецкую дзейнасьць, разьмесьціць замовы на паліграфічных прадпрыемствах Беларусі.

Размесьціць вашую рэкляму ў беларускіх выданьнях.

*Тэл./факс: (0172) 27-82-83*

## ФІРМА «АГУЛ»

Прапануе прадпрыемствам і арганізацыям свае паслугі ў пуска-наладачных работах:

1. Пуска-наладка вэнтсыстэмаў на праектныя расходы паветра;
2. Санітарна-тэхнічнае абсьледаваньне вэнтвыкідаў;
3. Вызначэньне нормаў гранічна допушчальных выкідаў і кантролю ГДК;
4. Выпрабаваньне й наладка пылагазалавільных установак.
5. Складаньне экалягічных пашпартоў.

На ўсе віды работ ёсьць ліцэнзіі.

**220131, Беларусь, Менск-131, п/с 417**

Тэл. (0172) 612178, 610605

# Dainova

ФАКС (0172) 217-408, 302-356



ТРАДЫЦЫЯ І СУЧАСНАСЬЦЬ